© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Лясоты, але іх ужо няма. Гэта Надзя, Манька і Іван „Ваштыгер“, што жонка Ліза; ад яе і гэту ліпу на Валодзевым панадворку „Лізінай“ называюць, і Лізіны дзеці — Коля, што жонка Ліда ў Францыі, Саша — забілі яго на вайне, Валодзя і Верка.

Кругом тут у нас сваякі. У Тарнопалі — Аксеніны (муж Сцяпан Федарук з Рэпіскаў), а дзеці Іван, Анюта, Ліда і Федзя. У Марысі Бельскай — Коля і Марыся (яна ў Баранавічах). А Тафіля пайшла за Мядзведзя, „у Медзвядзі“ (Семенякоўшчыну). Дзеці Тафіліны памерлі раней за яе — і Колік, і Верка з Варшавы, і Зютак. А Колікавы дзеці — Ірка Сегень, што ва ўніверсітэце працуе, і Колік, і Тамарка Засім, а ў Тамаркі дзетак чацвёра малых, і жывуць тут, у Медзвядях, а двух хлопчыкаў прыслужнікамі ў бацюшкі цяпер.

А Зося — у Слабодцы — за Харкевічам. Дачка яе Вера (што была за Зубрыцкім) памерла ў Карэі, Сяргей у Ленінградзе чыгуначнікам...

... Пракоп пасяліўся ў Кузьміном лесе, на дубе, як я ўжо гаварыў, на два метры тоўстым, зрабіў булаву на мядзведзя; калі мы вярнуліся з бежанства, дуб яшчэ стаяў, але сухі. Памятаю — тут навокал толькі балота, хваіна, бярэзіна. У сажалцы, дзе цяпер поле, вады было па калені. Тут калі саветы прыйшлі, торф капалі, дарогу рабілі; я да вайны акапаў абодва бакі дарогі да Баб'яй Гары. Грэблю рабілі ў 1936-37 гадах, а кончылі ў 1961, як меліярацыю пачалі...

Усе тут тутэйшыя, хоць Мядзведзі з Малынкі прыехалі, у 1915 годзе. Адзін пан займаў Семяноўку і Марушку, а ў Тарнопалі быў другі. У Тарнопалі пан не любіў аднаго Масальскага...

— Нараўку надалі ў XVI ст. князям Масальскім...?

— Не, гэты Масальскі якраз быў парабкам, жыў у Семяноўцы, тарнопальскі пан памяняў яго ў семяноўскага на сабаку... Кмеці не мелі поля, рабілі ў пана, а калі зямлю паны прадавалі, хто багацейшы быў, даў задатак і асяліўся на ўсадзьбе, і таму Бойка, што жыве ў Семяноўцы, жыве на „ўсадзьбе“. Пушча за рэчкаю была Тышкевічава, а тут была Белавежская. Бабігорцы мелі дзялянкі (Будзіска), і цяпер палавіну ў лесе маюць таго, што і поля. У Баб'яй Гары найбольш засяліўся Зубрыцкі з Альхоўкі; прыстаў да бабы. Перад вайной, хто хацеў выехаць на маёнткі, то да Луковіч каля Ялоўкі падаліся.

А вайна калі прыйшла... Спалілі ўсе пушчанскія пасёлкі. Якраз я навазіў клуню жыта... Масева першае разрушылі, Ціхаволю, Броўск... У Бялькевічаў у Масеве якраз малацілі... Мы да Раманава ўцяклі.

— Адна мая бабуля, Марыся, з Медзвядзёў была.

— Так, дачка Аўдоцці і Міхася, а дзед Мікалай Лукша з Тушамлі. Тут кругом усе сваякі, то нічога, што цяпер граніца. Каб так кожны ўзяў нарысаваў сваё „дрэва“, то галінамі і каранямі ўсе былі б счэплены. Тут у нас была чыста беларуская мова, якраз клінам „з-за рэчкі“, а з поўдня „падляшская“ даходзіла, і гаворым „цяпэр“, „вадро“, то інакш крыху, але кажды можа дагаварыцца. У спісках усякіх наша вёска „Боровэ“ зазначаюць, што ў гаворцы „Баравыя“, але ў дакументах у гміне ў Нараўцы і ў прапісцы — пішацца проста „Баравыя“. А да вайны пісалі яшчэ — „Баравікі“. Да вайны мы былі ў гміне Масева, і Баб'я Гара, Пасекі, Альхоўка, а і Ціхаволя і Тушамля (яны ўжо па савецкі бок). Палітычны павет наш быў Бельск, суд „гродзкі“ ў Белавежы, акруговы — у Беластоку. А Медзвядзі, што ад нас цераз дарогу, і Семяноўка, і сама Нараўка, былі ў гміне Тарнопаль, павет Ваўкавыск, суд гродзкі ў Свіслачы, акруговы — у Гродне.

Трэба ўсё ўспомніць, як найхутчэй, бо старыя паўміраюць, а маладыя разбягуцца па свеце, і дзе там каму да таго, адкуль узяўся. Калі б мой дзед не расказаў, то я адкуль ведаў бы, дзе што рабілосэ!

Я сам рабіў у жыцці, што даў рады, дапамагаў. Усё якасьці ішло да лепшага. Пасекі згарэлі — адбудавалі. Святло зацягнулі (Манька з Лізаю не хацелі!). Меліярацыю зрабілі, сцаленне грун-



 

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

таў. Ці столькі збожжа мы мелі б, як было на палосках? У старану ў клуні не ўлезла! Хопіць на насенне, на хлеб, і свіням... Сена наклалі дзве адрынкі. Праўда, цяпер гэта ўжо ўнуку перадана, але ж я ўсё гэта трымаў у сваіх руках цэлае жыццё, будаваў. А калі знойдзеш цяпер пакінутую гайку, калі непарадак на панадворку, марнатраўства — аж сэрца баліць! Ужо на пенсіі я, больш часу паназіраць, пачытаць Святое Пісанне. Час апошні прыйшоў, Бог свет памяняць мусіць, бо людзі, якімі Сатана валодае, так яго знішчылі. І не будзе смерці, нянавісці, зла, граніцаў, толькі любоў да чалавека і слаўленне Божага імя. І зямля будзе новая, як абяцаў Бог, бо, як піша прарок Ісая — „не стварыў яе, каб была пустэчай, але на жыллё чалавеку". А зямля прыгожая. Якія тут лясы, якое яшчэ тут паветра і вада...

УЛАДЗІМІР ЮЗВЮК

## ПРА БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ У ГАЙНАЎЦЫ

Беларускі музей — так называюць сваю пабудову дзеячы Беларускага грамадска-культурнага таварыства, жыхары Гайнаўкі, і кават члены Грамадскага камітэта пабудовы музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы. Здаецца, што гэтую недарэчную назву камітэта мы ўжываем апошні раз. Няма ўжо спонсараў, якія такую назву накінулі і штучна ўтрымлівалі. А што тычыцца музея, дык вядома, што яму не абысціся і без прадстаўнікоў рэвалюцыйнага руху тыпу кананіра з »Аўроры« Якуба Мартынюка з Новага Беразова, маршала СССР Васілія Сакалоўскага з Козлікаў, генерала Аляксандра Вашкевіча з Белавежы, дзеяча »Грамады« Паўла Валошына з Гаркавічаў, і без прадстаўнікоў такіх палітычных плыняў, якіх рэвалюцыйнымі не называлі, як, напрыклад, Веры Матэйчук з Агароднічкаў, ксяндза Рэшаця з Беластока і многіх іншых. Усе яны — наша гісторыя.

Адносна выбару месца для пабудовы, хацелася б заўважыць, што ў БГКТ ніколі не было „доўгай калатні" („Ніва", 1989, № 52). Заўсёды ў першую чаргу лічылася Белавежа, як асноўны турыстычны цэнтр Беласточчыны, які, дарэчы, паступова страчвае сваю турыстычную атракцыйнасць — гіне на нашых вачах пушча, знішчваная сваімі і замежнымі прамыслоўцамі. Але тагачасныя ўлады Гайнаўкі бачылі патрэбу прыцягнуць турыстаў у свой горад, таму і запрапанавалі Беларускаму таварыству апусцелую старую мазаікарню Гайнаўскага дрэваапрацоўчага камбіната як будынак прыгодны для адаптацыі на музейнае памяшканне. Адначасава задэкларавалі фінансавую дапамогу ў той адаптацыі дзеля патрэбаў музея (паводле ўзору зліквідаванага ў Белавежы!).

Мне давялося ўдзельнічаць у першым аглядзе таго будынка. Ува ўсіх прысутных прадстаўнікоў БГКТ астаўся пасля таго жахлівы вобраз зні-



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

шчэння і спусташэння, але, нягледзячы на гэта, прапанова была прынята. На карысць яе прамаўлялі добрая лакалізацыя аб'екта ў цэнтры горада, незаняты пляц вакол яго, што дазваляла на стварэнне беларускага скансена каля музея, схільнасць да супрацоўніцтва ў пабудове многіх гайнаўскіх прадпрыемстваў і ўстановаў і, найважнейшае, энтузіязм мясцовага актыву БГКТ.

Пасля гэтага, у 1984 г., былі зроблены ўступныя накіды праекту музея, якія ўключалі ў сабе не толькі задуму адаптацыі старой мазаікарні, але камплекс трох будынкаў, якія маглі б паслужыць і сядзібай беларускага інстытута культуры. Праціўнікаў гэтай канцэпцыі, улічваючы нават Ваяводскі камітэт ПАРП, не знайшлося, хоць пачатак пабудовы ўлады абумоўлівалі далучэннем да будучага музея малой экспазіцыі рэвалюцыйнага руху. І пабудова мела адбывацца паэтапна, з увагі на абмежаваныя фінансавыя магчымасці. Прыняццё гэтых прапановаў загарантавала першыя сродкі на запачаткаванне будаўляных прац спецыялізаванымі дзяржаўнымі прадпрыемствамі. Без падтрымкі тагачасных уладаў усё гэта было б немагчымае.

Здзіўляе тое, што гэты, здавалася б, празмерна амбітны план зараз амаль у палове рэалізаваны. Камітэт пабудовы музея пачаў працу з адаптацыі мазаікарні, якая завецца часткай „А" і займае агульную паверхню 860 квадратных метраў. Яна аднапавярховня, хоць трэба зазначыць, што пры змяншэнні вышыні памяшканняў атрымалася велізарнае гарышча, якое таксама можна выкарыстаць. Частка „А" ўжо закончаная. Знаходзяцца ў ёй: памяшканне для ўступнага складання экспанатаў, фоталабараторыя, майстэрні па апрацоўцы дрэва, тканін і інш., каморы дэзінфекцыі экспанатаў і тры вялікія выставачныя залы.

Даволі далёка прасунуліся працы пры пабудове другой, зусім новай, часткі „Б" музейнага комплекса. Узведзены сцены, перакрыцці, дах, выканана сталярка, будынак часткова абтынкаваны. Найбольш інтэнсіўна ішла пабудова ў першым і апошнім кварталах 1990 года, з увагі на спрыяльнае надвор'е і крыху лепшыя ў тую пару фінансавыя магчымасці камітэта. У найбольш карысным летнім часе праца была прыпынена, бо бракавала сродкаў. Усе ахвярадаўцы, і прыватныя асобы, і кааператывы ды прадпрыемствы, даткліва адчулі цяжар перабудовы эканомікі ў краіне і не змаглі адводзіць сродкі на пабудову музея. Паўплывая на гэта, напэўна, і агульная няўпэўненасць у эканамічнай будучыні, змены грамадска-гаспадарчага ладу ў кірунку капіталістычных адносін, а таксама, што мае істотны ўплыў на беларускае насельніцтва Беласточчыны, згушчаная атмасфера польскай неталерантнасці ў адносінах да не-палякаў і, агульна кажучы, варожасці да сваіх усходніх суседзяў.

Заканчэнне часткі „Б" патрабуе шмат грошай. Зараз асноўная ўвага кіраўнікаў будовы засяроджана на абсталяванні кіназалы (будзе гэта, дарэчы, адзінае кіно ў Гайнаўцы, бо дагэтуляшняе закрылі з увагі на дрэнныя памяшкальныя ўмовы.). У гэтай жа частцы комплекса прадугледжаны яшчэ клубакавярня, крама з сувенірамі, бібліятэка, гатэль для дзесяткаў двух турыстаў, адміністрацыйная памяшканні і інш. Усё гэта, несумненна, патрэбнае пры музеі. І ў нармальных варунках давала б даход на ўтрыманне ўсяго музеальнага комплекса.

Асноўная — шэсць выставачных залаў — частка „Ц" астаецца пакуль што на паперы. Было б добра, каб удалося пачаць яе пабудову ў 1991--1993 гадах.

Задоўжылася падрыхтоўка выкарыстання ўжо закончаных памяшканняў музея. Сабрана каля 700 экспанатаў, аднак яны яшчэ не апрацаваны спецыялістамі. Гэтыя экспанаты паслужаць для наладжання ў бягучым годзе невялікай экспазіцыі, якая будзе дапаўняцца новымі. У некаторых залах, паводле канцэпцыі Прэзідыума ГП БГКТ і Камітэта пабудовы музея, неабходна тымчасова арганізаваць гаспадарчую дзейна-



Беларускі музей — частка Б. Фота Я. Максімюка.




© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

сць, каб здабыць дадатковыя сродкі на пабудову і ўтрыманне музея.

Фінансавае становішча Грамадскага камітэта пабудовы музея даволі складанае. Прыгадайма, што кошт пабудовы музея ў 1984 годзе складаў 150 мільёнаў злотых. У канцы 1988 года кошт рэалізаванай пабудовы ацэнены быў на 52 мільёны. Адносна стабільная валюта і вельмі танныя будаўляныя матэрыялы дазвалялі нават пры абмежаваных сродках рэалізаваць план пабудовы. Але ўжо ў наступным годзе становішча пагоршылася. Вартасць рэалізаванай пабудовы склала 142 мільёны, а ад паловы наступнага, 1990 г., усялякія ацэнкі сталі немагчымымі з увагі на гіперінфляцыю. Цяпер кошт усёй пабудовы прыблізна складае 1.5 мільярда злотых. На рахунку Камітэта ў палове 1990 г. было каля 50 мільёнаў злотых, 2 тысячы рублёў і каля тысячы долараў. Скончыліся запасы будаўляных матэрыялаў, якія апошнім часам непамерна падаражэлі. Абвастрыліся патрабаванні выканаўцаў будовы. Пабудова вядзецца ў рамках, акрэсленых для так, званых грамадскіх пабудоваў, таму Камітэт не можа пакарыстацца банкавымі крэдытамі.

Вельмі нерэгулярна праходзіць збор грошай. Лік членаў Камітэта за апошнія два гады павялічыўся ўсяго на 20 асоб і дасягнуў 263 сталых ахвярадаўцаў. Задэклараваныя ў 1985 годзе гадавыя ўзносы па 1200 злотых зараз з'яўляюцца не больш чым сімвалічнымі і павінны быць як найхутчэй павялічаны.

Змяніліся таксама ўзносы ад прыхільнікаў пабудовы музея. Інфляцыя ўскладняе параўнанне папярэдніх і цяперашніх ахвяраванняў, але нягледзячы на гэта, варта прывесці прозвішчы некаторых ахвярадаўцаў, якія ўнеслі найбольшыя сумы ў 1989 і ў першай палове 1990 г. Да іх належаць:

*Яўген Давідзюк (Гайнаўка) — 100 тыс. зл.*

*Сяргей Харкевч (Гайнаўка) — 50 тыс. зл.*

*Багдан Андрусішын-Данчык (Нью-Ёрк) — 104 тыс. зл.*

*Сярод ахвяравальнікаў-установаў адзначым за 1989 год:*

*Раённае праектнае бюро ў Гайнаўцы — 200 тыс. зл.*

*Праўленне Аддзела БГКТ у Гайнаўцы — 200 тыс. зл.*

*Кааператыў інвалідаў „Прагрэс" у Гайнаўцы — 80 тыс. зл.*

У першай палове 1990 года:

*Гарадская рада ў Гайнаўцы — 80 млн. зл.*

*Гмінны кааператыў у Нарве — 506 тыс. зл.*

*Гмінны кааператыў у Гайнаўцы — 200 тыс. зл.*

*Жыхары вёскі Вялікія Пасечнікі — 167 тыс. зл.*

Ахвяраванні ў доларах:

*Кастусь Калоша (ЗША) — 250*

*Сяргей Карніловіч (ЗША) — — 125*

*Томас Бэрд, Мікалай Латышкін, Зоя Смаршчок (усе ЗША) — па 100 долараў.*

Уплаты грамадзян БССР на спецыяльны рахунак у Мінску склалі суму 50 тысяч рублёў. Гэтыя грошы выкарыстоўваюцца для закупу абсталявання майстэрнаў, фоталабараторыі, выставачных залаў музея.

Усім ахвярадаўцам на пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы шчырае дзякуй.

Беларускі музей у Гайнаўцы павалі стаецца рэчаіснасцю. Таму незалежна ад усіх цяжкасцяў, хочацца закончыць гэтую інфармацыю аптымістычным сцвярджэннем, што калі ўсе мы далей будзем прыносіць матэрыяльную і арганізацыйную дапамогу, то ў бліжэйшыя гады будзе адкрыты для наведнікаў унікальны і самы сучасны музей у краіне.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

**ЯН МОРДАНЬ**

## ЗАБЫТЫЯ ЛАПЦІ

„Хопіць пісаць нам, беларусам, пра лапці" — часта чуецца такую думку. Лапці напамінаюць нам пра беларускае гаротніцтва. А мы вельмі хацелі б стаць еўрапейскай нацыяй, камп'ютэрамі забаўляцца... Аднак, ці станем разумнейшымі, забываючы аб мінулым?

А ці многа мы ведаем пра лапці, гэтыя сапраўдныя, ліповыя ды лазовыя? Наўрад... Старэйшае пакаленне, калі і памятае іх, то ўспамінае неахвотна. Чаму? Ці ж лапці вінаватыя, што працавалі ў іх ад рання да вечара, абліваючыся потам у спёку або калеючы на марозе? Ці лапці не дазвалялі беларусам людзьмі звацца? Наш славуты пясняр Янка Купала пісаў вось так:

ЛАПЦІ

Не праклінайце
Лапцяў ліповых,
Не пагарджайце
Лапцяў лазовых.

З імі шануйце
Цяжкую працу —
Лапатнік корміць
Пана з палацу.

З часам жа лапці —
Гаю, ой, гаю!
Выпрэ дастатак
З нашага краю.

Людзі абуюць
Боты, камашы:
Прыдзе загуба
На лапці нашы.

Але адзін хоць
Мусіць застацца,
Ў цэркве завісне
Дый на падкладцы.

Вушкам, аборай,
Скурай пад сподам,
Памяткай будзе
Прышлым народам.

Будзе ён сведчыць,
Як у няволі
Кепска жывецца
У хаце і ў полі.

Як людзей сотні
Лапці цягалі,
Каб багачы ўсе
У золаце спалі.

І пройдуць леты,
Многія векі,
Зменяцца людзі,
Можа і — рэкі.

Лапаць жа будзе
У цэркве вісеці,
Люд аб ім будзе
Песенькі пеці.

Мінула амаль паўстагоддзе, як лапці зніклі з ног беларускіх сялян. Часам толькі можна пабачыць іх у нейкім музеі. Пра лапці можна пачытаць у энцыклапедычных даведніках, але навуковыя апрацоўкі такой тэмы наогул сухія і мала цікавыя. І гэтага замала, калі мець на ўвазе, што на працягу вякоў на беларускай зямлі лапці былі паўсюдным і асноўным абуткам.. Яшчэ ў пачатку XX стагоддзя паўсюдна насілі іх сяляне. Людзі хадзілі ў іх не толькі працаваць, але і ў царкву святочнымі днямі, у госці і адведзіны, танцавалі ля вогнішча на Купаллі і на зімовых вечарынках. Быў гэта абутак універсальны: лёгкі, прыгожы, выгадны... Хіба што толькі не надта трывалы: лапці хутка сходжваліся, асабліва на танцах... Добры танцор, які не ленаваўся прытупваць, за вечар станцоўваў пару лапцяў. Вандроўніку аднной пары хапала на пяць-дзесяць кіламетраў. Інакш кажучы, гэта не лапці мучылі людзей, а якраз наадварот.

А ці лапці сведчылі пра адсталасць іхніх карыстальнікаў? Па-мойму, хутчэй пра іхнюю здольнасць, вынаходлівасць, кемлівасць... Калі нашы продкі ў лапцях хадзілі, то на захадзе Еўропы ды над Віслай людзі насілі на нагах драўляныя, цяжкія і нявыгадныя, хадакі, быццам у няволі якой... Бо дабрыя, лёгкія лапці сплясці — гэта ўмельства. І беларусы ўмелі гэта рабіць. Пэўна, таму іх „лапцюжнікамі" называлі, ад зайздрасці людское, іншыя народы... Нават дасюль яшчэ пагаворваюць, што чалавек залазіў на ліпу босы, а злазіў абуты. Аднак справа тут была крыху больш складаная. Не так проста лапці сплясці!

Пляценне „беларускага" абутку — доўгі і складаны „тэхналагічны працэс. Першнаперш патрэбна адпаведная сыравіна. Найбольш падыходзіла дзеля гэтага кара з маладых дрэваў або з галін ліпы ды лазы. Кару абдзіралі ў маі і ў пачатку чэрвеня, калі яна найлепш „сходзіла", бо ж трэба было, каб матэрыял заставаўся як мага больш суцэльным. Лапці выплятаць можна было адразу, але наогул абдзёртую кару клалі недзе на гарышчы, каб да зімы яна падсохла. Зімою, калі вольнага часу на гаспадарцы больш, наладжваўся выраб добрага абутку. З кары, якая такім чынам адляжалася, лапці выходзілі намнога мацнейшыя. Сухую кару распарвалі кіпенем. Ставалася яна мяккай, эластычнай, прыгоднай для апрацоўкі. Кару наразалі роўнымі доўгімі паскамі адпаведных памераў і, зняўшы з яе верхняе луцце,



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

атрымлівалі лыка для выплятання. Лапці плялі способам „наўскрыж". Карысталіся пры гэтым адмысловай прыладай з дрэва або з косткі ў форме востразакончанай лапатачкі. Падэшва лапцяў выплятлалася поўнасцю, а верх — у залежнасці ад тыпу абутку. Бакі закончваліся лыкавымі петлямі, г. зв. вушкамі. Праз вушкі правалакалі абору, гэта значыць, самаробны шнурок з ільнянога або канаплянага валакна. Каб абора была мацнейшай, часта ўплятали ў яе валоссе з конскага хваста. Падэшвы лапцяў падпляталіся яшчэ раз лыкам і падшываліся скурай або моцным палатном. Новасплеценыя лапці зараз жа трэба было крыху „расхадзіць", каб набралі яны адпаведнай формы і ўляглiся на нагу, пакуль не засохла лыка.

Абуванне ў лапці таксама патрабуе ўмеласці. Абору уцягваецца ў вушкі так, каб яе канцы выходзілі на пяту, а потым кожны з канцоў уцягваўся на пераменны бок спераду ў сярэднія наймацнейшыя вушкі. Такім способам паўставала падвойная пятля для раўнамернага прымацавання лапця на назе. На канцах аборы вязаліся вузлы, каб яна не высоўвалася з вушкаў. Лапці абувалі на нагу абвінутую анучай. Летам абвівалася палатнянай анучай. Зімою трэба было завінуць нагу спачатку ў цёплую і мяккую сукнянку (суконку), а потым у анучу з самаробнага палатна. Способ завівання таксама патрабаваў умеласці: сукнянку пачыналі навіваць з пальцаў і канчалі на шчыкалатцы. Потым наверх круцілі доўгую палатнянку, пачынаючы пад каленам і канчаючы на пальцах так, каб канец яе трымаўся пад пальцамі ў лапці. Усадзіўшы так абвітую нагу ў лапаць, сцягвалі абору і сплятали яе накрых уверх па лытцы і завязвалі. Так абуты селянін зімою мог паехаць нават у лес нарыхтоўваць дровы. Калі палатнянка набракала вадою ў снезе, то мароз яе марозіў і — паўставала своеасаблівая халява.

Я пазнаёміўся з гэтым абуткам беларусаў дзякуючы дзядзьку Сяргею Мацкевічу родам са Старыны, што каля Белавежскай пушчы. Дзядзька Сяргей хадзіў у лапцях у дзяцінстве і добра запамятаў іх выраб; не так даўно ён сплёў мне пару. Пахадзіўшы ў іх, я пераканаўся, што яны вельмі выгодныя і лёгкія. Шкада, што беларусы амаль ужо забылі пра лапці.



РАЗМОЎНАЕ

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

## ЗРОБЛЕНАЕ ЗАСТАЕЦЦА

*Біяграфічная даведка*

*Рыгор Сасна нарадзіўся ў 1939 годзе ў вёсцы Шэрні, што ў Арлянскай гміне. У 1953-57 г.г. вучыўся ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску. У 1957 г. паступіў ў Праваслаўную семінарыю ў Варшаве, ў 1959 г. — ў Хрысціянскую тэалагічную акадэмію. Высвячаны на духоўны чын у 1960 г. Тры гады з'яўляўся настаяцелем праваслаўнай парафіі ў Кодзені над Бугам (люблінскае ваяводства). З 1964 па 1987 — на паралії ў Сямяцічах, першы год як памочнік настаяцеля, пасля — як вікарый. З 1987 г. — настаяцель парафіі св. св. Кузьмы і Дзямяна ў Рыбалах (Заблудаўская гміна). Магістр праваслаўнай тэалогіі (дыплом у 1966 г., на падставе магістэрскай працы „Podłoże, na którym kształtowała się idea unii kościelnej w Polsce pod koniec XVI wieku"). Ажэнены з Антанінай з д. Троц, двое дзяцей: дачка Алла і сын Аляксандр.*

*Адначасова з душпастырскай працай айцец Р. Сасна пачаў карпатлівае збіранне матэрыялаў да гісторыі Праваслаўнае царквы на Беласточчыне, як у краёвых архівах і бібліятэках, так і за мяжою: у Маскве, Ленінградзе, Мінску, Гародні. Плёнам гэтых пошукаў сталіся, акрамя шматлікіх публікацый у царкоўнай і беларускай перыёдыцы, кніжныя выданні: „Bibliografia parafii prawosławnych na Białostocczyźnie. Część alfabetyczna". (1984), „Bibliografia parafii prawosławnych na Białostocczyźnie. Część chronologiczna". (1985), „Wykaz hierarchii kleru parafialnego oraz opiekunów cerkiewnych Kościoła Prawosławnego na Białostocczyźnie w latach 1839-1986" (1986). Друку чакаюць тры наступныя працы: „Bibliografia. Prawosławie w czasopismach polskich", „Suplement" (да трох выдадзеных бібліяграфій), „Białorusika w czasopismach polskich". Увесь час а. Р. Сасна займаецца манаграфічнымі апрацаваннямі кожнае паасобнае праваслаўнае парафіі на Беласточчыне (матэрыялы гэтыя публікаваліся і публікуюцца, між іншым, у „Ніве"). Сёння Рыгор Сасна з'яўляецца спецыялістам не толькі па гісторыі Праваслаўя на Беласточчыне, але, у шырэйшым сэнсе, па*



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

*гісторыі культуры гэтае зямлі. Гэтыя ягоныя якасці належным чынам ацэнены і ў навуковым асяроддзі. Зараз ён з'яўляецца адным з мерытарычных рэдактараў манументальнае сямітомнае „Гісторыі кніжнай культуры Падляшша", выданне якой ажыццяўляецца Акадэміяй навук СССР, Міністэрствам культуры і Дзяржаўнай бібліятэкай БССР пад эгідай ЮНЭСКА.*

**Размова з айцом РЫГОРАМ САСНОЙ.**

*— Айцец Рыгор, прыглянуўшыся да таго, што зроблена Вамі як даследнікам гісторыі Праваслаўя на Беласточчыне, бадай ці не ў кожнага ўзнікне ўражанне, што маем дачыненне не з адным даследнікам, але з цэлай навуковай інстытуцыяй, у якой строгая, распісаная на гады, навуковая праграма. І здзівімся яшчэ больш, калі ўсвядомім сабе, што зрабіў гэтае чалавек, якога галоўным, прабачце за слова, заняткам ёсць служба Богу і Ягонай пастве... Прытым жа, ні Сямяцічы, ні, тым больш, Рыбалы не з'яўляюцца навуковымі асяродкамі, якія стымулявалі б Вашу даследніцкую працу. Значыць, трэба мець вялікі запас жыццёвай і маральнай сілы ў сабе, і матывацыю... Тады, калі дазволіце, я б пачаў размову якраз з тае матывацыі...*

— Матывацыю дае зямля, з якой я выйшаў і на якую вярнуўся пасля гадоў вучобы ў Варшаве, у семінарыі ды ў акадэміі пасля трохгадовага перыяду ў парафіі на Люблінншчыне... Значыць, тое, што роднае, што мілае сэрцу, як у тых простых словах паэткі: „Люблю наш край, старонку гэту..." Я б гэтыя словы прапанаваў вам, як дэвіз нашай сённяшняй размовы... Вяртанне на сваю зямлю я разумею як вяртанне не толькі ў сёння з яго турботамі і складанасцямі, але таксама як вяртанне ў дзень учарашні і пазаўчарашні, у гістарычнасць лёсу гэтай зямлі і яе людзей. Зацікаўленасць гісторыяй паявілася ў мяне з самага пачатку маёй душпастырскай працы. Якраз мае абавязкі святара даюць маральную сілу для гістарычных доследаў, бо я разумею, што нам, праваслаўным святарам, было б лягчэй несці слова Божае ў наш народ, калі б ён быў свядомы свайго гістарычнага лёсу, свае праваслаўнае веры, што трывала тут ад вякоў і вытрывала, нягледзячы на жорсткія выпрабаванні. У гэтым сэнсе, я трактую сваю душпастырскую і даследніцкую працу як нейкае двухадзінства...

*— І нягледзячы на тую доўгую і багатую, часта трагічную, гісторыю, мы ўсё яшчэ стаімо як бы на пачатку таго шляху, што іншыя народы ўжо даўно прайшлі...*



У гэтым шмат рацыі. Безумоўна, свядомасць нашага народу яшчэ не выкрышталізавалася. Мы як бы дагэтуль усё яшчэ рэалізавалі купалаўскі заклік „Людзьмі звацца!", перш за ўсё, у матэрыяльным сэнсе гэтага выслоўя. Цяжка тут мець прэтэнзіі да людзей за тое, што яны, так сказаць, дзеля „дабротаў цывілізацыі" пакідаюць сваё роднае, як нейкую экзотыку... Але калі паглядзім на гісторыю, то ўбачым: нават у самыя неспрыяльныя моманты гісторыі Беласточчына захоўвала сваю культурню і нацыянальную адметнасць... А момантаў тых было многа. Возьмем, для прыкладу, два з нашага стагоддзя... Так званае бежанства 1914 года — я лічу, шкада, што гэтая падзея як бы выйшла з-пад увагі нашых навукоўцаў, што ніхто не спрабаваў даследаваць уплыў, які бежанства мела на працэс нацыянальнага самаўсведамлення беларусаў Беласточчыны. Гэта, на-мойму, была катастрофа... Людзі вярталіся праз чатыры-пяць гадоў, мала, што ў зруйнаваныя свае сядзібы, але і ў іншую дзяржаву. І мусілі здабываць сабе польскае грамадзянства. Беларускасць іхняя, якая б яна ні была тады, у той момант абсалютна не спатрэбілася ім. Ды, зрэшты, гэта адна з прыкмет трагічнасці нашага народу — быць беларусам заўсёды было нявыгадна, кажучы папросту... Як, прыкладам, у 1945-46 г.г., калі палякі з саветамі праводзілі перасяленчую акцыю на Беласточчыне. Мала хто хацеў „пісацца беларусам" і ехаць у савецкія калхозы... Вось такога тыпу віры гісторыі і выхоўвалі ў нашых людзей мімікрыю свядомасці — „тутейшасць"... Дзякуючы ёй нейк трывалі...



Айцец Рыгор Сасна сярод вернікаў. Фота Я. Максімюка.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012

*— Сама тутейшасць, аднак, як катэгорыя этнаграфічна-сацыяльнага, не спыніла ў мінулым і не спыніць нам цяпер працэсу асіміляцыі, асабліва ў гарадах. Чыннікам, які не дазваляе канчаткова глынуць „тутейшых" Беласточчыны праз польскую стыхію, з'яўляецца, несумненна, праваслаўнае веравызнанне, як самая моцная запруда. Але ці Вы не маеце ўражання, што ў будучыні і гэтая запруда будзе размывацца, тым хутчэй, чым хутчэй будуць пусташэць нашы вёскі — натуральнае асяроддзе тутэйшасці? Бо горад для тутэйшых, гэта, пазодзіцеся, абсалютна ненатуральнае асяроддзе. Дый сама Праваслаўная царква ў горадзе, у сённяшняй сітуацыі, у сваіх вонкавых дачыненнях характарызуецца чымсці, што я назваў бы „сацыяльным кансерватызмам"... Магчыма, гэта не надта ўдалае акрэсленне, але я не знаходжу іншага. Маю на ўвазе яе падкрэсленую „апалітычнасць", калі параўнаць праявы ейнай актыўнасці з такімі ж праявамі ў Каталіцкім касцеле, штораз мацнейшыя ўступкі на карысць польскай мовы ў царкоўным ужытку (катэхізацыя дзяцей вядзецца на польскай мове), відавочную ў такіх абставінах бесперспектыўнасць і царкоўна-славянскай мовы літургіі, і расейскай мовы прапаведзяў (паступова, разам з зніканнем навучання расейскай мовы ў школах, мова, альбо, лепш сказаць, мовы Царквы стануцца для маладых пакаленняў вернікаў папросту няўцямнымі)...*

— Тут вы закранулі некалькі пытанняў. Я пастараюся адносціся да іх, размяжоўваючы, так сказаць, справы царкоўныя ад свецкіх... Бо Царква наша заўсёды прытрымлівалася такога прынцыпу: што Божае — Богу, што цэзаравае — цэзару. Гэта і ўшанаваная вякамі традыцыя, і навука, якая выплывае з горкага досведу гісторыі нашай Царквы. Праваслаўе знаходзілася ў гісторыі ўвесь час як бы на крыжовай дарозе, на Галгофе... Зашмат разоў цэзар урываўся ў Божае валадарства, і дабра ад гэтага Праваслаўнай царкве не было. Яе „апалітычнасць", як вы сказалі, гэта глыбока ўсвядомленая істота місіі Царквы, яе служэнне універсальным вартасцям. А што да „кансерватызму", у моўным аспекце перад усім, калі я вас добра зразумеў, то мне цяжка з вамі пагадзіцца... Царкоўна-славянская мова застаецца ў царкоўным карыстанні, бо ў ёй — сутнасць праваслаўнага багаслоўя, повязь, якая непасрэдна адносіць нас да крыніц, да тых карэнняў, якія для нас найважнейшыя. Польская мова як дапаможная ў царкоўным ужытку — гэта, па-мойму, неабходнасць часу ў нашых абставінах. Гэтая моўная двухшляховасць будзе... Што тычыцца таго размывання нашай самабытнасці, я тут не быў бы такім песімістам, як вы. Працэс пусташэння вёсак, калі ўжо не спыніўся, то неўзабаве спыніцца. З аднаго боку, цяжкая эканамічная сітуацыя ў краіне як бы не на карысць замацаванню нашай тоеснасці, але з другога — яна можа прыспешыць крышталізацыю нацыянальнай свядомасці... У яе крышталізацыі наш народ не быў зацікаўлены, я ўжо казаў. У тым сэнсе, трэба сабе добра ўсвядоміць, што мы знаходзімся ўсё яшчэ на пачатковым этапе свае дарогі. І сілы ў нас невялікія, але трэба імі разумна пакарыстацца, бо не заўсёды так робім...



*— Магчыма, што я не зусім ясна выказаўся. У мяне няма прэтэнзіяў да Царквы за тое, што беларусы так слаба адчуваюць сябе беларусамі. Тут, ясная справа, гістарычных этапаў у сваім развіцці не пераскочым... Патрэбна цярплівасць, усведамленне сабе таго этапу, на якім мы знаходзімся, і... настойлівая праца, як для прыкладу, Ваша... Справа аднак у тым, што на працягу апошняга года-двух, калі нешта зрушылася з беларускай нацыянальнай справай на Беласточчыне, калі мы крыху „палітызаваліся" ў беларускім духу, рэакцыя царкоўнага асяроддзя на гэта, я б сказаў, дужа насцярожлівая, а часам і непрыхільная... Здавалася б, такога не павінна быць... Беларускі палітычны рух аніякім чынам не пагражае інтарэсам Царквы на Беласточчыне. Наадварот, мне здаецца, у ім праграмна закладзена, праз эканамічна-палітычнае ўзмацненне, узмацненне Праваслаўя. Бо ці ж свядомы беларус перастане быць свядомым праваслаўным хрысціянінам? Пытанне, хіба, рытарычнае. Я пабойваюся, што нам усім на Беласточчыне пакуль што не хапае дасведчанасці ў новай грамадска-палітычнай сітуацыі, чым могуць пакарыстацца і карыстаюцца, дарэчы, непрыхільнікі і беларускай спрывы, і Праваслаўя... Але, мабыць, ужо хопіць пра палітыку... Каб нейк закончыць нашу размову больш аптымістычна, вернемся да Вашай даследніцкай працы. Пытанне, магчыма, занадта асабістае: ці не было ў Вас такога адчування, што Вам намнога больш удалося б зрабіць у навуковай дзялянцы, калі б Вы прысвяціліся выключна навуковай дзейнасці?*

— Кожнаму чалавеку шлях наканаваны Богам. Мой такі, які ёсць. Мне ўдаецца, маю надзею, выконваць сумленна свае абавязкі і перад Богам, і перад людзьмі. Я, было, ужо двойчы памкнуўся пісаць доктарскую працу: першы раз у прафесара Клінгера, другі раз — у архіепіскапа Савы (таксама ўжо прафесара з гэтага года). Але калі паявіліся магчымасці публікацыі ўжо сабраных матэрыялаў, я спакусіўся і... мая доктарская праца ўсё застаецца ў сферы намераў. Я пачаў з публікацыі бібліяграфій, бо яны — аснова, крыніцы... Кожнаму, хто будзе займацца гісторыяй Праваслаўя на Беласточчыне, абмінуць іх будзе немагчыма. У гэтым — мая навуковая сатысфакцыя. Зробленае застаецца.



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

І не прападае дарма. У гэтыя я ўпэўнены. Як не прапалі і не прападуць ужо тыя сведчанні пра нашу гісторыю, што дайшлі да нас праз вякі, запісаныя ў старых кнігах і дакументах.

*— Слоў колькі, можа, пра тую сапраўды грандыёзную задуму — „Гісторыю кніжнай культуры Падляшша"...*

— Добрае акрэсленне — грандыёзная... Я, можа, і не рызыкнуў бы падключыцца да гэтага мерапрыемства, калі б не сапраўдная навуковая апантанасць і велізарны запас энергіі і кампетэнтнасці ў галоўнага аніматара гэтага выдання — Юрыя Лабынцава з Інстытута Славістыкі і Балканістыкі АН СССР. Яго энергічнасць і аптымізм — сапраўды заражальныя. І, на маё нескрыванае здзіўленне, звесткі ад спадара Лабынцава, з якім мы ў пастаянным кантакце, настройваюць аптымістычна. Значыць, выданне ўжо рэалізуецца. Першы том мае паказацца ў 1992 годзе. Не за гарамі, як падбадзёрвае мяне спадар Лабынцаў, і наступныя... Дай Божа!

*— Мне не застаецца сказаць нічога больш. Дзякую Вам за размову. І прыміце мае віншаванні, крыху спозненыя, з 30-тымі ўгодкамі Вашай душпастырскай працы.*

**Размаўляў Ян Максімюк**

## ЗА ПАРОГАМ

**Размова з САКРАТАМ ЯНОВІЧАМ, беларускім пісьменнікам.**

*— Сакрат, у гэтым выданні „Календара" чытачы маюць магчымасць пазнаёміцца з тваім тэкстам „Мой парог", у якім ты пішаш пра сваё дзяцінства і юнацтва, спрабуеш разабрацца ў сваёй сямейнай генеалогіі і ў найпершых сваіх жыццёвых досведах, што сфармавалі цябе як асобу. Мне хочацца папытацца ў цябе пра літаратурны твой досвед у пазнейшыя гады, калі ты ўжо пераступіў той парог і стаў працаваць над беларускім словам. Таму першае пытанне будзе такое: калі ты адчуў сябе пісьменнікам, інакш кажучы, калі ўсведаміў сабе, што твае апавяданні — гэта не выпадковы занятак збоч жыццёвага шляху, а, так бы мовіць, ягоная эсенцыя?*

— Сталася гэта недзе ў палове шасцідзесятых. Ужо была з'явілася падборка маіх мініяцюраў у друку, у першым альманаху „Белавежы". Значыць, шмат раней, чымсьці з'явіўся зборнік „Загоны". Я тады быў у адпачынку ў Закапаным (64-ты або 65-ты?), у нейкай такой псіхалагічнай аддаленасці-адасобленасці ад свае радзімы... Хутчэй за ўсё ўсведамленне таго, пра што пытаеш, адбылося тады якраз... Я ўжо быў крыху начытаны ў польскай літаратуры, і ў заходнееўрапейскай...

*— Меў, можна сказаць, нейкую сістэму літаратурных каардынатаў...*

— Тады гэта можна было назваць усяго арыенцірамі...

*— І якія ж яны былі, тыя арыенціры?*

— З польскай літаратуры навелы Івашкевіча, апавяданні Тадэуша Новака. З рускай — Чэхаў і Бабель, іхныя апавяданні. З французскай — Блез Сендрар. А перад усім — кароткія формы Хэмінгуэя, якога я чытаў у рускім перакладзе. Я звяртаў асаблівую ўвагу на кароткія формы, бо сам пісаў мініяцюры... Памятаю, вялікае ўражанне зрабіла на мне паэзія Норвіда — яго вершы падобныя на мініяцюры. Прыгадваю сабе такое з лёсу Норвіда: яму ў эміграцыі адмаўлялі ў друкаванні яго твораў, тлумачачы, што ён хоча публікаваць нейкія фрагментарныя запіскі або накіды сапраўдных твораў. А ён тлумачыў выдаўцам,



© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

што гэта і ёсць цэлыя, закончаныя творы... Нешта падобнае з выдаўцамі было ў Хэмінгуэя. Гэта запамяталася, бо мне самому вельмі цяжка даецца так званы сюжэт у творы, дзеянне ў эпічным плане. Я свайго роду антыталент сюжэту. Хоць мне такіх закідаў не рабілі, быццам мае мініяцюры -сакрацікі — гэта толькі накід ці нешта такое. Тады друкавалі такое як лірыку, як лірычную прозу... Мне пашанцавала мець інтэлігентнага рэдактара сваіх тэкстаў, Юрыя Валкавыцкага...

*— Як ты адчуваў тадышнюю сваю сітуацыю ў літаратуры, як беларускі пісьменнік у Польшчы менавіта? Ці не было ўражання нейкае другараднасці, нейкае пісьменніцкае маргінальнасці, калі мець на ўвазе тваю праграмную беларускамоўнасць у літаратуры?*

— Гэтая другараднасць, у маім адчуванні, была. Яе падбухторвалі мае знаёмыя з польскага літаратурнага асяроддзя, зводзячы справу да даволі прасцяцкай аргументацыі: пісаў бы па-польску, то меў бы больш інтэлігентных чытачоў. Такі націск я адчуваў безупынна на працягу 60-х і паслейшых гадоў. Ён пачаў паслабляцца, фактычна, калі з'явіліся мае кніжкі ў польскіх перакладах. Я баяўся гэтага націску, баяўся, што паддамся яму, бо ў той час у мяне не было пераканаўчых аргументаў супроць маіх польскіх антаганістаў. Аргументам з мае беларускае палітычнасці — моў, не магу пакінуць пісаць па-беларуску, бо гэта раўназначнае з тым, што перастану быць беларусам, — я пакарыстацца не мог... Асабліва нападаў на мяне Эдвард Рэдлінскі, за маё пісанне па-беларуску. Каму ты пішаш, пішы па-польску, то будзеш мець чытачоў. Калі ён ужо апынуўся ў Нью-Ёрку, я паслаў яму паштоўку: „Эдзіку, цяпер ты, пэўна, пішаш па-англійску"? Але гэты націск упэўніў мяне ў тым, што я ўсё ж такі не выпадковы пісьменнік, што асяроддзе вычувае ўва мне таленавітасць, калі так націскае.

У 1969 годзе, калі выйшлі „Загоны", я нейк спаткаўся са Збышкам Слёнчкам (быў такі паэт, ужо памёр), і мы дагаварыліся да таго ў нашых дыспутах, што пісьменнік не можа адцвіці ад мовы дзяцінства. Гэта быў першы істотны аргумент у маю абарону. Бо бракавала мне тэарэтычнай, так бы мовіць, развітасці. Пасля, калі я стаў студэнтам-завочнікам польскай філалогіі Варшаўскага універсітэта, у мяне хутка знайшоўся яшчэ адзін аргумент, мастакоўскага характару. Слова — гэта галоўны інструмент пісьменніка. Слова роднае і слова вывучанае — гэта не адно і тое ж. Слова роднае прыйшло разам з табою на свет, слова вывучанае — набытае, бы нейкая мэбля. З двух малаткоў, якімі карыстаецца майстар, адзін заўсёды ляжыць яму ў руцэ лепей, чымсці другі. У мастацкім сэнсе, значна больш можаш дасягнуць, карыстаючыся родным словам. У літаратурных дасягненнях мае значэнне перад усім узровень таго дасягнення, а не само слова. Міцкевіч пісаў і па-французску, але ж у французскай літаратуры ён не існуе. Тое ж самае з Пшыбышэўскім, які пісаў і па-нямецку, але істотнае толькі тое, што засталося ад яго па-польску. Значыць, адпаведны ўзровень можаш дасягнуць пры дапамозе слова, з якім ты прыйшоў на свет. Але тут жа і контрпрыклад: а Джозеф Конрад? Ён жа нарадзіўся ў польскай мове, а пісаў па-англійску. Тут, мабыць, тлумачэнне такое: свет дзяцінства аб'явіўся яму ў польскай мове, але ж пісаў ён, у асноўным, пра мора, а мора спазнаў ён праз англійскую мову...

Мне значна цяжэй пісаць па-беларуску пра Беласток, чымсьці пра Крынкі, бо Беласток навучыў мяне па-польску, а Крынкі — па-беларуску... Таму пішу, што ў Крынках і вакол іх. Адчуваю сябе добра, пішучы па-беларуску, бо ведаю, што па-за беларускай моваю я быў бы вартым жалю чаляднікам...

Потым яшчэ, сталася з'ява для мяне нечаканая. Я ўсведаміў раптам сабе, што чытач перастаў быць адзінай, а тым больш, галоўнай меркай маіх творчых арыентацый... Мяне цікавіць толькі інтэлігентны чытач... Менш цікавіць мяне, ці буду я зараз усімі зразуметы. Самае галоўнае — сягнуць як мага вышэй у літаратурным слове. Тут, мабыць, і анамалія маёй думкі — літаратурны ж твор не існуе сам для сябе...



Сакрат Яновіч. Фота Я. Максімюка.





© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

*— У тым то й справа... Дый пісаць, не адчуваючы рэакцыі чытача, таксама нялёгка. Што табе дало ўпэўненасць у слушнасці сваёй дарогі, упэўненасць у тым, што якраз ідзеш да вяршыняў, а не, брутальна кажучы, спускаешся долу ў дзівацтва і графаманства?*

— Упэўненасць гэту далі мне польскія перакладчыкі маіх твораў і польскія чытачы. Мае мініяцюры перакладалі, фактычна, на бягучы. У польскім друку мае творы паявіліся на шмат гадоў наперад, чымсьці іх арыгінальныя публікацыі. Арыгіналы доўга ляжалі ў шуфлядзе, не таму, што іх не хацелі публікаваць, а таму, што не было дзе (усяго „Ніва" і „Беларускі каляндар"). Савецкі літаратурны друк маіх твораў не прызнаваў, як пасля аказалася, па палітычных прычынах...

*— Каратка кажучы, ты стаўся беларускім пісьменнікам для палякаў?*

— Дакладна так. І дзякуючы ім, можна дадаць. Мае польскамоўныя выданні рэцэнзавалі ў шмат якіх газетах і часопісах, і то прыхільна. Я канчаткова ўпэўніўся, што павінен пісаць.

*— Як сябе адчуваеш у беларускай мове? Гэта значыць, ці лічыш, што ў беларускай мове табе даецца ўсё, што табе трэба? І які ўплыў на тваё адчуванне маюць абставіны, у якіх тая мова існуе, а лепш сказаць, у якіх яна не існуе?*

— Я доўгі час адчуваў больш-менш так: пішацца мне па-беларуску цяжэй, але лепш... Па-польску пісалася б значна лягчэй, але горш. Мне бракавала слоў, зрэшты, да сённяшняга дня я не расстаюся са слоўнікам. Датклівa адчуваецца адсутнасць жывой культурнай беларускай мовы, мовы горада... У Беластоку не больш, чым сто чалавек, якія карыстаюцца гэтай мовай больш-менш паслядоўна і паўсюдна. Не лепш, скажам, у Гайнаўцы ці Орлі... Там ужо таксама паўсюдна па-польску. Паўсюды польскамоўе. Толькі, на маё шчасце, тая жывая польская мова ў Беластоку вельмі кепская, вельмі шмат у ёй беларускасці, і ў фанетыцы, і ў спосабе пабудовы фразы, нават у лексіцы, так што магчымае для мяне рабіць такую штучку: прыкінуцца перад сабою, быццам у Беластоку гавораць усюды па-беларуску; я іду па вуліцы і „раблю так, што не чую польскае размовы". Я як бы безупынна перакладаю маё польскае асяроддзе на беларускую мову. Настолькі атоесамліваюся з гэтай уяўнай беларускасцю, што часта і карыстаюся беларускай мовай у краме ці дзе-небудзь, зусім таго не ўсведамляючы. І бывае так, што ўжо залатвіўшы нейкую справу, да мяне даходзіць, што залатвіў я не па-беларуску... Гэта свайго роду шызафрэнія, якая не дазваляе адчуваць эміграцтва свайго лёсу...



Пішучы па-беларуску, я адчуваю сябе зусім нармальна. Яшчэ пару гадамі назад, пэўна, нейкую прыкрасць адчуваў бы. Цяпер у мяне дамінуе свядомасць: дзякуючы якраз беларускай мове я магу так добра пісаць...

Цяжка пішацца па-беларуску. Часта здараецца, што будую адну фразу на трох мовах: па-беларуску, па-польску і па-руску (гэтае таксама прыдараецца, бо шмат чытаю па-руску). І высмоктваю з гэтых фразаў усё, што ўдаецца высмактаць для беларускай мовы, для беларускай фразы... Ёсць у той цяжкасці пісання па-беларуску і добры бок: тут дзейнічае як бы фільтр, які засцерагае мяне ад шматслоўя, ад літаратурнай непатрэбшчыны... У мяне манія — пісаць самыя неабходныя словы, якіх ужо нельга выкінуць, выкрасліць, не парушаючы сэнсу напісанага. Фраза павінна быць лапідарнай, максімальна сціслай. Канструкцыя фразы для мяне — гэта канструкцыя інфармацыі перад усім... Таму нават самую найкароткую мініяцюру я пішу доўга, і то пішу пераважна выкрэсліваючы напісанае, перапісваю шмат разоў, ажно датуль, калі ўжо для мяне самога гэты тэкст зробіцца нецікавы — гэта значыць, што я яго ўжо напісаў...

*— Да чаго імкнешся праз літаратуру? Або інакш: які сэнс для цябе заключаецца ў тваёй творчасці ці ў літаратуры наогул?*

— Пісаць нейкую рэч для мяне — гэта адчуваць вялікую сенсацыю. Бо пісаць — гэта вывучаць чалавечую душу. Пішучы, я адчуваю сябе крыху як геаграф-адкрывальнік ці то нейкай выспы, ці то пустыні або імшарыны... Як падарожнік у невядомай краіне. Імкнуся адкрыць нешта новае ў чалавечай душы, хай нават дробязнае, але новае, адкрыццё... Мяне цікавіць пранізваць чалавека навылёт, прасвятліць яго душу... Тэксты свае, апавяданні і мініяцюры, я назваў бы лабаратарыйнымі запісамі адкрыцця, а яшчэ лепш — лабаратарыйнымі дэфініцыямі адкрыцця. Нейкага адкрыцця на кантыненце чалавечай душы. Я маю на ўвазе душу не ў сакральным, нейкім універсальным значэнні гэтага слова, а душу канкрэтнага чалавека ў канкрэтных абставінах, тут і цяпер... У кожнага чалавека, я думаю, душа непадобная да душы іншага чалавека, але з гэтага не вынікае, што яе вывучэнне, праз літаратуру, напрыклад, у кожным асобным выпадку дае нейкі самаісны абасоблены вынік, якога нельга аднесці да нечага агульнага, універсальнага ў чалавечай натуры...

**Размаўляў Ян Максімюк**



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

## ДУХ СВАЙГО НАРОДУ

**Размова з ВІКТАРАМ СТАХВЮКОМ, сакратаром Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства і каардынатарам Краёвай управы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання.**

— Відаць, пачнем размову з таго, хто такі Віктар Стахвюк... адкуль ён узяўся ў беларускім руху... Яшчэ два гады назад „Ніва" пра цябе нічога не пісала, а значыць, і свет пра цябе нічога не ведаў... А зараз, аказваецца, і БГКТ і БДА не могуць без цябе абысціся. Як гэта сталася?

— Адкуль узяўся? З Трасцянкі, там нарадзіўся ў 1948 годзе, у сям'і нас было чатыры браты і сястра... Як усе, бегаў па вуліцы і пазадворкамі, але, відаць, ты не пра такое пытаеш... Скончыў бельскі ліцэй, потым закончыў пасляматуральную школу тэлеаўтаматыкі ў Беластоку, а потым беларускую філалогію ў Варшаве, 2 гады завочна здабываў кваліфікацыю выкладчыка рускай мовы ў Маскоўскім універсітэце, 2 гады вывучаў гісторыю польска-савецкіх суадносін у Польскай Акадэміі Навук...

— Не жартуй...

— Зусім не. Так было. Вучыўся я, як бачыш, даволі доўга. Нават памкнуўся быў пісаць кандыдацкущ дысертацыю, але пакінуў. У Польшчы тады якраз увялі ваеннае становішча, шмат што намяшалася і ў навуковых асяроддзях... Я тады ўжо жыў з сям'ёй у Чэнстахове, працаваў выкладчыкам рускай мовы ў педагагічным інстытуце. Пасля 15 гадоў працы там вырашыў перабрацца ў Беласток...

— 15 гадоў у зацюканай Чэнстахове!?

— Ну, можа не зусім аж так. На вакацыях выпускаўся ў Еўропу, каб крыху атрахнуць з сябе тую зацюканасць. У міжчасе я здабыў кваліфікацыю інструктара падводнага плавання 1-га класа (табе, Макс, не зразумець, што гэта такое), міжнароднага, дадам дзеля яснасці, і ездзіў практыкавацца то на грэцкае ўзбярэжжа, то на іспанскае, то на яшчэ якое-небудзь...

— З жонкаю?

— Вядома ж, з жонкаю, і са стрэльбаю на акулы...

— Разумею... Гэта значыць, не зусім. Чаму ж тады ты вярнуўся ў Беласток?

— Сантыменты, Макс... Трэба было прыбіцца да свайго берага — настальгія і ўсё такое... А калі менш паэтычна, то схіліла мяне да вяртання пачуццё нейкай жыццёвай выдыханасці. Апошнія тры гады ў Чэнстахове я адчуваў, што мая праца сталася для мяне адно крыніцай матэрыяльнага ўтрымання, а не, як тут сказаць, крыніцай нечага творчага, у што імкнешся ўкладаць свае здольнасці і душу.Я адчуў, што паволі засмоктвае мяне рутына. А гэта паскудна ўплывае на самаадчуванне, калі раптам зразумееш, што табе засталося дажываць да пенсіі ў спакойнай завадзі сямейнага жыцця, і нічога нечаканага ў тваім жыцці, мабыць, ужо не прыдарыцца. Адчуванне такое, быццам жыццё цябе замкнула. Прыехаў на Беласточчыну, каб быць сваім сярод сваіх. Не думаў, што буду працаваць у беларускім руху. Маляваў і прадаваў карціны, матэрыяльна жылося мне някепска. І здарылася штосьці нечаканае. У беластоцкай прэсе пачалася нахабная атака на беларусаў. „Pod różnymi krzyżami" і ўвесь той антыбеларускі панос, памятаеш. Недзе той парой я першы раз спаткаўся з Сакратам Яновічам, і з табою ў БГКТ, калі ты там сакратарыў. Ты пераходзіў на працу ў „Ніве", а я заставаўся без сталай пасады, і так яно выйшла, што я апынуўся на тваім месцы.

— Я не скрываю, што БГКТ пакідаў без шкадавання. У той час не бачыў шанцаў на тое, каб можна было скалануць тую застоенасць. Вядома, можна было наскандаліць і накаламуціць, але нешта змяніць — гэта было не пад сілу. Дарэчы, і цяпер не бачу магчымасцяў, як выйсці з фальклорнага запаведніка і музеальнай беларускасці, у якой завязла БГКТ. Але гэта, мабыць, маё суб'ектыўнае адчуванне. Цікава, як табе падалося Таварыства, калі ты стаў у ім працаваць.

— Ну, бачыў, пэўна, тое, што і ты. Вяласць у дзейнасці, падпарадкаванасць „спецам ад культуры" з Міністэрства ўнутраных спраў, слабыя фінансы. Фактычна ў БГКТ нічога не ўдало-



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



Віктар Стахвюк. Фота Я. Максімюка.

ся змяніць, але ўдалося ўсё-такі правесці некалькі добрых імпрэзаў, якія на фоне тагачаснай грамадскай і палітычнай сітуацыі ў краіне шмат добрага зрабілі для беларускай справы. Маю тут на ўвазе Свята беларускай культуры і канцэрты Данчыка ў 1989 годзе, агляд беларускай песні і Фестываль беларускай культуры ў 1990 годзе (не паверыш, але гэтай апошняй імпрэзы бэгакатоўская камісія культуры не зацвердзіла!... калі б яна не выйшла, казлом адпушчэння стаўся б Віктар Стахвюк, як галоўны яе віноўнік).

Увесь час існуе патрэба рэарганізацыі дзейнасці БГКТ, як, зрэшты, і цэлага беларускага руху. Я ведаю, што адчуванне і разуменне беларускай культуры немагчымае без захавання яе народных традыцый. Але на гэтым нельга спыняцца. Нам патрэбна сучасная беларуская культура, і то ў сваіх прафесіянальных праявах. Развіваць яе, а нават стварыць зародкавыя формы, БГКТ не можа. Я маю на ўвазе БГКТ як арганізацыю, што дзеіць паводле старых камуністычных узораў. Гэта ўжо недарэчны анахранізм. Беларускай культуры зараз трэба не арганізацыі з членскімі білетамі і гаварыльнямі тыпу Прэзідыума ці Галоўнага праўлення, а прафесіянальныя ўстановы, у якіх будуць працаваць прафесіяналісты. Час змяніўся, ёсць магчымасці. Нам трэба прафесіяналістаў-інструктараў танца, музыкантаў, абслугу відэа-студыі, фільмоўцаў, тэатральнікаў з прафесіянальнай падрыхтоўкай. Гэта мела б перспектыву, і прыцягнула б моладзь. А так, у БГКТ маем дзядзькоў са светапоглядам па другі бок эпохі, і яны хочуць стварыць культуру для моладзі... Ці ж не абсурд? Арганізацыя не жыве, калі няма моладзі. У БГКТ яе няма. Высновы зрабі сабе сам.

І яшчэ адна справа, на якую трэба звярнуць увагу. БГКТ ужо перастала быць манапалістам у беларускім руху. Існуе БАС, існуе БДА, маладзёжнае праваслаўнае брацтва з беларускім духам. І ўсё гэта ідзе асобна, няма нейкай каардынацыі дзеянняў. Чаму? Ці мы ажно так моцныя, што можам дазволіць сабе на адасобленасць? Зусім не. Я ўжо год часу тлумачу ўсім канцэпцыю Цэнтру беларускай культуры ў Польшчы. На матэрыяльнай базе БГКТ (памяшканні, грошы з Міністэрства культуры) належала б якраз і ствараць, магчыма, што напачатку паўпрафесіянальныя ўстановы: відэа-студыю, выдавецтва, друкарню. Дзеля гэтага патрэбны людзі, а іх у БГКТ не знойдзеш. Яны ёсць у асяроддзі маладых, але ў БГКТ не горнуцца. Я разумею, чаму. Не той клімат, не тыя канцэпцыі. Кампрамісам найразумнейшым, і неабходным, ёсць утварэнне Рады беларускіх арганізацый, якая б на роўных парытэтах паасобных яе членаў каардынавала дзейнасць Цэнтру культуры. Іншага выйсця няма. Я кажу гэта не таму, каб разбурыць БГКТ, пазбавіць Таварыства яго значэння. Не. Я член БГКТ, я сакратар, і я хачу знайсці для Таварыства паратунак. Бо бачу, што яно пачынае чахнуць. І зачахне, калі яшчэ застанецца гадоў пару такім, як цяпер.

— Магчыма, што наступнае мае пытанне, ці, лепш сказаць, накірунак размовы, выдасца лішнім, бо адказ на яго ты даў ужо між радкамі таго, што сказаў вышэй. Але ўсё-такі: ці стан беларускага духа на Беласточчыне дастаткова моцны, каб можна было спадзявацца, што тая дзейнасць стаіць перад гістарычнай перспектывай, а не перад такім фінішам, калі памірае апошняя бабуля з апошняга фальклорнага калектыва і маем канец беларушчыны ў Польшчы?

— Такога не будзе. Самое культурніцтва, магчыма, давяло б нас да такога фінішу. Але сталася яшчэ адна нечаканасць у маім жыцці: беларусы ў 1989 годзе паставілі сваіх кандыдатаў на выбары, Яновіча і Мірановіча, і пайшлі за іх галасаваць. Гэта было, як на нашы ўмовы ,нешта неверагоднае. Мне, як шэфу беларускага выбарчага штабу, давялося нахваляваца і пры збіранні подпісаў, і пазней. Але ўжо пры збіранні подпісаў, асабліва ў Велікодныя святы, я а адчуў гонар за свой народ, я адчуў дух свайго народу. Во, беларус падпісваецца і ў дадатак ставіць нумар свайго пашпарту... Ты не смейся, Макс, мне наплявань на твой цынізм... Гэта быў сімптом — пачынаецца наша





© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

адраджэнне. Вынік выбараў, хоць пройграных, даў беларусам маральную сілу. Варта было змагацца далей. Зародак палітычнай партыі — мы назвалі гэта Беларускім грамадскім камітэтам — узнік у добры момант. Палітычныя абставіны таксама нам спрыялі. Пасля некалькіх месяцаў зацішша і палітычнай блытаніны на беларусаў абрынууся рэцыдыў бальшавізму ў салідарніцкім выкананні. Калі мы, як памятаеш, восенню 1989 ездзілі па вёсках і гутарылі з людзьмі наконт стварэння беларускага палітычнага руху на Беласточчыне, мала хто верыў у поспех. Але пасля канфлікту ў Гайнаўскім доме культуры, у якім мы выступілі абаронцамі дырэктара Бушко, было вядома, што справа пойдзе. Калі б мы і Бушко прайгралі, прайграла б і справа партыі. Гэта несумненна. Гэта, пасля выбараў, была наша другая значная палітычная акцыя. Як ні глядзець, у Гайнаўцы мы супрацьставіліся дзяржаве, а прынамсі, магутнай „Салідарнасці", што ўзяла ўладу і пачынала наводзіць свае парадкі, не лічачыся з правам. Калі б мы спужаліся, быў бы каюк. Узнікненне Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў лютым 1990 — трэцяя значная падзея ў нашым жыцці. Зноў жа лёс нам спрыяў, а, прынамсі, не адабраў розуму. Развязалася партыя польскіх камуністаў, якая на Беласточчыне мела значныя ўплывы ў беларускім асяроддзі. Паўстала палітычная пустка — беларусы не хінуліся да салідарнікаў. Разгубленасць... Некаторыя нашы беларусы дагэтуль ходзяць як асірацелыя і сумуюць за колішняй мамай — ПАРП... Ды няхай ходзяць. Мы спакойна завязалі БДА і без асаблівых палітычных скандалаў пайшлі ў камунальныя выбары...

— Дык вось, тыя выбары... Ходзяць самыя розныя меркаванні наконт таго, ці былі яны паспяховымі для БДА... Некаторыя гавораць, што так, некаторыя, не толькі палякі, кажуць, што мы, прабач за эўфемізм, дасталі ў сраку...

— Калі ласка. Я, Макс, як шэф выбарчага штабу і ў гэтых выбарах, скажу табе так: не панікуй. Справа выглядае так: намінальна, ва Усходняй Беласточчыне мы далі тым эўфемізмам „Салідарнасці", тут не можа быць сумненняў. Фактычна, не ўдалося нам падрыхтаваць кадраў, якія рабілі б беларускую палітыку тут на Беласточчыне, у гмінах. У гэтым сэнсе, у нейкім дзесятку гмінаў мы маем уладу, але патэнцыяльную, якая, пакуль што, не выявіла сваіх магчымасцяў...

— А ці выявіць?

— Абсалютна.



— А чаму ж то, калі ласка?

— Нам спрыяе эканамічная сітуацыя...

— ??!!

— Безумоўна. Вярнікі гаспадарчай самастойнасці гмінаў і пагроза эканамічнага краху сельскай гаспадаркі прымусяць нашых гаспадароў і нашых радных шукаць паратунку ў згуртаванасці, у каардынацыі сваіх намаганняў выратавацца ад галечы. Ці ж трэба тут спецыяльна тлумачыць, што свае будуць шукаць згуртаванасці са сваімі? Тым больш, што і гаспадарча, і культурна, і канфесійна, Усходняя Беласточчына з'яўляецца выразна адасобленым арэалам. Трэба яшчэ крыху часу, каб людзі ачомаліся пасля развалу камунізму і зразумелі, што ўжо ніколі не будзе так, як было раней. Што дапамагчы сабе можам мы самі. І калі нашы людзі гэта зразумеюць, стане магчымай беларуская палітыка на Беласточчыне. І стане патрэбнай БДА. Бо БДА — гэта арганізацыя абсалютна не-бальшавіцкая. Ніякіх наказаў зверху і ніякіх пірагоў задарма. БДА дапамагае людзям з ініцыятывай, якія не спадзяюцца на літасць пана, а самі шукаюць выйсця. Мы такое выйсце можам паказаць...



Дзеячы БДА ў Гайнаўцы (3 снежня 1989): Алег Латышонак, Яўген Міранов́іч, Віктар Стахвюк, Сакрат Яновіч. Фота Я. Максімюка.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Другі аспект справы: я не веру ў тое, што беларусам даспадобы палітычная опцыя салідарнікаў, якія зараз кіруюць краінай. Што ні казаць, адчуваецца выразную перавагу тых сілаў, якія, мякка кажучы, імкнуцца элімінаваць з палітычнай прысутнасці усе „няпольскія" элементы. Вядзецца страшэнная індактрынацыя грамадства ў духу польскім і каталіцкім. Інакш кажучы, Польшча хутчэй за ўсё станецца дзяржавай нацыянальнай, чымсьці грамадзянскай і дэмакратычнай. Палітычны стыль жыцця ў Польшчы я акрэсліў бы назовам „уцечка з Еўропы". Гэта не ёсць стыль беларусаў. У нашым характары няма закладзеных генаў нацыяналізму, пачуцця нейкае місіі ў адносінах да іншых народаў, ніякага месіянізму і „przedmurza chrześcijaństwa". У гэтым сэнсе, беларусы псіхалагічна лепш падрыхтаваныя да сужыцця ў сям'і еўрапейскіх народаў, суверэнных і роўных. У нас адна малая праблема — Беларусі патрэбна сапраўдная суверэннасць, і ўсё. Еўропа для нас не за гарамі...

— Вельмі добра, Віктар, я б сказаў, што даже прекрасно, але ж жыць нам, беластоцкім беларусам, трэба ў Полшчы, і тут рабіць сваю палітыку, каб выжыць як беларусы менавіта. Хаця б таму, каб хутчэй за палякаў пабачыць Еўропу... Як ты бачыш будучыню польска-беларускіх суадносін тут на Беласточчыне?

— Сёння беларуска-польскія адносіны яшчэ не з'яўляюцца ў крытычнай фазе, але імкнуцца да яе. Польскі нацыяналізм вырваўся наверх і разрастаецца, не зважаючы на інтарэсы Польшчы як дзяржавы ў Еўропе. Я не думаю, каб на Беласточчыне выступілі вострыя канфлікты ў сувязі з гэтым. Усё-такі прынамсі геаграфічна мы знаходзімся ў Еўропе, і поўнага рэцыдыву II Рэчыпаспалітай у Польшчы не будзе. Наша роля — гэта дапамагчы палякам усвядоміць той факт, што нас, беларусаў, не трэба еўрапеізаваць, што мы самі без іх дамо рады. Лепш бы яны звярнулі пільнейшую ўвагу на сябе... І яшчэ ўсвядоміць ім, што за іхняй усходняй мяжою не Крэсы Всходне, а Беларусь. А гэта можна зрабіць у дыялогу, культурна за сталом... І да гэтага мы будзем імкнуцца...

— Ясна. Як бачу, работы хоць адбаўляй... Дзякую табе за размову.

**Размаўляў Ян Максімюк**



## ПАЛІТЫЧНАЕ

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

ЗЯНОН ПАЗЬНЯК

## ШЛЯХ ДА СВАБОДЫ



Мінула паўтара года з часу ўтварэньня руху Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне". Пара азірнуцца і паглядзець што зроблена і што дасягнута. За гэты ж час Літва ўжо ступіла на шлях незалежнасьці. На чарзе Эстонія, Латвія, Грузія, Украіна, рэспублікі Сярэдняй Азіі. У Балтыйскіх рэспубліках, у Закаўказьзі, на Украіне і шмат дзе яшчэ народ выбраў дэмакратычных дэпутатаў у Саветы. Пачаліся перамены. У Беларусі ж, здаецца, не зьмянілася нічога. Той жа зьдзек зь беларускай мовы, тыя ж расейскія шыльды, назвы і вывескі; тыя ж помнікі на плошчах, Леніна ды Калініна; тыя ж прадажныя журналісты і паклёпы ў газэтах; той жа Чарнобыль і тыя ж камуністы. Здаецца, што час спыніўся ў гэтым застойным балоце... Але гэта толькі на першы погляд, у параўнаньні з тым, што робіцца наво-



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

кал. Зьмены ёсьць. Толькі яны ў сфэры сьвядомасці і ідэй, толькі не падмацаваны грамадзкім дзеяньнем. Яны выклікаюць аптымізм і трывогу. Аптымізм, бо будучыня вольнай Беларусі наперадзе. Трывогу, бо можна спазьніцца. Беларусы заўсёды спазьняліся на адраджэньне і ніколі — на сьмерць. Спазьняліся, бо не адчувалі часу, важнейшай пераменнай велічыні палітычнага руху. Не адчувалі, бо не хацелі, ня ўмелі быць самімі сабой

І ў Праграме і ў Статуце БНФ адзначаны галоўныя мэты руху: стварэньне дэмакратычнага грамадзтва ў Беларусі, дасягненьне „рэальнага сувэрэнітэту" Рэспублікі і адраджэньне беларускай нацыі. На сёньняшні дзень мы нават і блізка не падышлі да ажыцьцяўленьня пастаўленых мэтаў. Але зазірнём у Праграму і пачытаем, якія прапануюцца шляхі іх дасягненьня. Мы наважваемся адраджаць „ленінскія прынцыпы нацыянальнай палітыкі". Як быццам ня ведаем, што гэтыя „прынцыпы" палавіністыя, супярэчлівыя, блытаныя і фальшывыя. Ды і пры чым тут Ленін? Мы пішам аб падтрымцы перабудовы, распачатай „лепшымі сіламі КПСС". Як быццам ня ведаем, што „лепшыя сілы" КПСС тут ні пры чым, што ў савецкай дзяржаўна-партыйнай сыстэме ўсё залежала ад гэнсэка, што перабудову пачаў адзін Гарбачоў.

Мы адзначаем, што дзяржаўны сувэрэнітэт „мае на ўвазе незалежнасьць дзяржавы ва ўнутраных справах... і ў міжнародных зносінах". Але чаму толькі ў „справах" і „зносінах", а не ва ўсёй унутранай і зьнешняй палітыцы? Што тады быў бы за „сувэрэнітэт"?

Паўтара года назад мы па шаблёну зыходзілі з утапічнага разуменьня будучага СССР „як добраахвотнага саюзу раўнапраўных і сувэрэнных дзяржаваў з правам свабоднага выхаду апошніх зь яго складу". Мы выступілі „за ўнармаваньне прынцыпаў узаемадачыненьняў сувэрэнных рэспублік шляхам распрацоўкі і прыняцьця новага Саюзнага дагавору", які „павінен заключацца пасьля прыняцьця рэспублікамі новых Канстытуцыяў", паведамлялі, што „сувэрэнітэт саюзных рэспублік — першасны, а сувэрэнітэт іх саюзу — другасны і г. д., не заўважаючы юрыдычнага нонсэнсу такіх сьцьвярджэньняў, не зважаючы на абсурднасьць саміх палажэньняў аб падзеленым сувэрэнітэце. Сувэрэнітэт альбо ёсьць, альбо яго няма. Ён ня дзеліцца і не палавініцца.

Ілюзорнасьць меркаваньня аб сувэрэнітэце ў складзе СССР. пацьвярджаюць ня толькі лёгіка і здаровы сэнс, але, перш за ўсё, гісторыя „краіны Саветаў" і асабліва палітычная практыка пэрыяду „перабудовы". Аднак паўтара года назад у пэрыяд нашага палітычнага рамантызму вырашыць гэтае пытаньне на ідэйным, няхай сабе дэкляцыйным узроўні, было цяжка. Палітычная думка яшчэ не прачнулася, ілюзіі не разьвеяліся, а атручаная камуністычнай прапагандай і страхам сьвядомасьць людзей патрабавала хутчэй лекара і дапамогі, чымся здольная была сама на арыгінальную творчасць у ідэйных працэсах. Значная (калі ня большая) частка людзей у БНФ гэтак і думала пра сувэрэнітэт Беларусі, як напісана ў Праграме. Падмацоўвалі такія меркаваньні і аналёгіі з балтыйскіх народных франтоў, дзейнасьць і ідэі якіх успрымаліся ў нас зь вялікай пашанай. Не заўважалі мы толькі, што балтыйскія народныя рухі ў адрозьненьне ад БНФ былі аформлены і арганізаваны ў асноўным камуністамі (няхай сабе і лібэраламі). Адсюль невыразнасьць пазыцыі аб сувэрэнітэце, пакуль не пачаўся масавы народны рух і ня ўнёс свае карэктывы ў пэрспэктыву нацыянальнай будучыні Балтыі.

Варта адзначыць таксама, што ад самага пачатку БНФ яшчэ на ўзроўні аргкамітэту, куды ўваходзілі і камуністы, сутыкнуўся зь вельмі актыўнай пазыцыяй калябарацыянізму, згодніцтва і імкненьня супрацоўнічаць з партапаратам. (Цяпер гэтая пазыцыя рэанімуецца ў Вярхоўным Савеце БССР сярод некаторых „дэмакратычных" дэпутатаў). Аргкамітэт здолеў вылечыцца ад калябарантаў, але праца над праграмай ішла вельмі павольна і вельмі цяжка. Згодніцтва прыходзілася пераадольваць пастаянна. Нічога дзіўнага, што атрымалася даволі лібэральная (я б сказаў нават, памяркоўна-лібэральная) праграма народнага руху.

Цяпер самы час зрабіць адступленьне ад тэмы і схапіцца за галаву, успомніўшы тую неадэкватную рэакцыю, якую выклікала наша лібэральная праграма ў камуністычнага партапарату. Колькі сьляпой нянавісьці, бруду, паклёпаў была выліта на Беларускі Народны Фронт, колькі прадажных журналістаў спаборнічалі, каб дагадзіць сваім партыйным заказчыкам, колькі газэтна-журнальнага дурману выпусьцілі на людзей, колькі легіёнаў апаратчыкаў абрынулі на БНФ свае ярлыкі — „экстрэмісты", „нацыяналісты", „фашысты", „эмоцыі", „канфрантацыя" і ўсялякае паскудзтва.

Праграма БНФ практычна нічым не пярэчыла дэклярацыям КПСС аб перабудове, тым больш Канстытуцыі, аб вернасьці якой успамінаецца ледзь не на кожнай старонцы. Калі б у гэты час БНФ быў поўнасьцю прызнаны, юрыдычна зацьверджаны, і яму прадставілі б усе канстытуцыйныя магчымасьці дзейнічаць і разьвівацца, камуністы тым самым, безумоўна, маглі б істотна ўмацаваць свае пазыцыі ў БНФ і ў цэлым у БССР. Цяжка сказаць, што сталася б у гэтым выпадку з народным рухам пры агульнай палітычнай нясьпеласьці і пасыўнасьці нашага грамадзтва.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Нянавісьць да БНФ, што асьляпіла партапарат, і ўсе іхнія дзеяньні, абумоўлены адной простай прычынай — страхам рэальна згубіць уладу, манаполію і ўсё, што з гэтым зьвязана. Ня мае ніякага значэньня, якая там у Фронту праграма, лібэральная ці радыкальная, хоць камуністычная, хоць мааісцкая. Усё роўна абзавуць экстрэмістамі. Для партбюракратыі істотна толькі тое, што ўтвараецца новая грамадзка-палітычная сіла, якая абапіраецца на народ і крытыкуе намэнклятуру. Крайне нецярпімыя адносіны ЦК КПБ да дэмакратычнай плятформы ў КПСС яшчэ раз праілюстравалі становішча. Партбюракратыя разумее ўладу толькі як сваю манаполію, неабмежаваную і непадкантрольную народу. Таму няма ніякага сэнсу весьці спрэчкі з намэнклятурнымі камуністамі ці іх крэатурамі па праграмных палажэньнях. Гэта толькі марнаваньне часу.

У разуменьні сувэрэнітэту Беларусі рух БНФ прайшоў заканамерны пэрыяд эвалюцыі і асэнсаваньня. Яно яшчэ працягваецца. Прыклады Балтыі, яе імкненьне да незалежнасьці — гэта для нас толькі прыклады, пакуль ва ўласным жыцьці ня прыйдзе ўсьведамленьне неабходнасьці нацыянальнай свабоды. Дзьве бяды, дзьве трагедыі навісьлі над беларускім народам: чарнобыльская катастрофа і катастрофа нацыянальна-культурная. Прычына адна, назавём яе абагулена — камунізм. За чатыры гады чарнобыльшчыны практычна нічога не скранулася зь месца. Сталі хіба больш ведаць пра сваю бяду. Чатыры гады зьнясільваючай барацьбы за выжываньне, за праўдзівую інфармацыю, за перасяленьне. Чатыры гады змаганьня з Масквой, зь „Мінздравам", з намэнклятурай, зь ведамствамі СССР, з подласьцю, з сакрэтнасьцю, зь бесчалавечнасьцю і здрадай. Чатыры гады радыяцыйнага генацыду, чатыры гады цынічнага экспэрымэнту над людзьмі, чатыры гады хлусьні, зьняваг, абяцаньняў, ашуканства і фальшывых спачуваньняў, чатыры гады народнага бясьсільля. „Што рабіць? Як ратавацца? Дзе выхад?" — задаюць пытаньні.

Выхад ёсьць! Выхад адзін — дзяржаўная незалежнасьць Беларусі. Выхад — гэта вольная незалежная дзяржава Беларусь.

Але пагаворым спакайней. Чатыры гады падчарнобыльскага жыцьця засьведчылі бяспраўе нашага народу і поўнае бяспраўе, поўнаю залежнасьць Беларусі ад Масквы, ад уладаў СССР. З 1989 года, пасьля таго, як Беларускаму Народнаму Фронту, вучоным АН БССР і навуковай грамадзкасьці ўдалося зламаць сьцяну маўчаньня вакол чарнобыльскай трагедыі на Беларусі і раскрыўся жахлівы яе размах, мы ўсе сталі сьведкамі нежаданьня СССР дапамагаць нашаму народу, аддаць нам кампэнсацыю за прычыненае зло, вярнуць нашы будаўнічыя брыгады і г. д. Мы ўсе бачылі і чулі, як выкручваўся Вярхоўны Савет



© PDF: Kamunikat.org 2012

СССР, як дэпутаты зьезду ня слухалі беларускіх прамоўцаў, што апавядалі пра трагедыю нашай Бацькаўшчыны. А хіба можна забыць цынічныя зьдзекі іхніх „вучоных", што публічна пацьвеліваліся над беларускім народам, маўляў, ім, беларусам, пасьля Чарнобыля стала жыць лепш і здаравей, бо радыяцыя карысная для здароўя, ня трэба прымаць радонавыя ванны. Наш дом гарыць, наш народ можа згінуць, а суседзі робяць выгляд, што ня бачаць, хіхікаюць і весяляцца. Дык навошта нам такі саюз?

Цяпер Савецкі Саюз наважваецца прадаваць за валюту нашы чарнобыльскія землі для экспэрымэнтаў і вывучэньня амэрыканскім навуковым арганізацыям. Савецкаму Саюзу патрэбна валюта, чаму не прадаць чужое гора, ды яшчэ й дармовае. Пройдзе час, і яны стануць прадаваць за золата нашы чарнобыльскія трупы для досьледаў амэрыканцам. Які тут „сувэрэнітэт", якая мараль?

Беларусь патрабуе ад СССР нейкіх 18 мільярдаў рублёў кампэнсацыі (хоць калі ўсё падлічыць, лічба сягае да 100 мільярдаў). Мы ніяк ня можам атрымаць належнае нам, нават дазыметры не наважваемся мець без дазволу Масквы. Мы гінем і ня можам ратавацца, бо, бачыце, Масква не дазваляе. Ня выгадна ёй, значыць. Вось чаму не зацьвердзілі нашу праграму выратаваньня ад наступстваў чарнобыльскай катастрофы. А тым часам кожны год Беларусь аддае Маскве (проста так, як каляніяльную даніну) значную частку свайго нацыянальнага прыбытку, каля 6 мільярдаў рублёў. Тры гады — і вось яны тыя 18 мільярдаў, а мы ж ужо пяты год пакутуем і плацім ім. За што? За свае пакуты? За няволю?

Савецкі Саюз павінен ня толькі выплаціць нам кампэнсацыю за чарнобыльскае зло, але і вярнуць грошы, адабраныя з нашага нацыянальнага прыбытку, прынамсі, за апошнія 40 гадоў, а гэта ня менш як 200 мільярдаў рублёў. Крэмль павінен нам вярнуць нарабаваныя культурныя каштоўнасьці, прысвоеныя ў час 1-й і 2-й сусьветных войнаў, нашы архівы, Мэтрыку Вялікага княства Літоўскага, бібліятэкі, беларускія каштоўнасці са збройнай палаты, калекцыі былых Магілёўскага, Менскага і іншых музэяў, якімі СССР самовольна распараджаўся (перадаваў Польшчы і г. д.). Савецкі Саюз павінен нам выплаціць кампэнсацыю за скалечаную ваеннымі аэрадромамі, палігонамі, гусеніцамі танкаў зямлю, за тэрыторыі і лясы, занятыя пад ракетныя базы, якіх у нас 23 з 44 па СССР, за землі пад рознымі лякатарамі і радарнымі ўстаноўкамі, што нішчаць здароўе нашых людзей, за плошчы, сапсаваныя тэрыконамі, за высечаныя лясы і загаджаныя рэкі, за ўсю тую шкоду, што прынеслі нашай тэрыторыі і зямлі саюзныя ведамствы і прадпрыемствы, якія высмакталі на-



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



Зянон Пазьняк на мітынгу ў Мінску (26 ліпеня 1989). Фота Я. Максімюка.



шу нафту, соль, карысныя выкапні, рабочыя і матэрыяльныя рэсурсы, выкарысталі нашу працу і рабочую сілу, а ўзамен пакінулі звалку, сьмецьце, зьнішчаную прыроду, разбураны этнас і хворы соцыюм.

А хто заплаціць за генацыд, за два мільёны забітых, за разбурэньне сельскай гаспадаркі ў час калектывізацыі, за працу і сьмерць сотняў тысяч беларускіх ссыльных на Поўначы і ў Сібіры. Хто заплаціць за прымусовую сьмерць тысячаў беларускіх хлопцаў у Афганістане. Гэта ж была не айчынна, а брудная, подлая, несправядлівая вайна, якая зыходзіла з антынароднай палітыкі СССР, а не зь неабходнасьці народнай абароны. У сусьветнай практыцы жыцьцё салдатаў у такіх выпадках падлягае страхаваньню і сям'я ў выпадку яго пагібелі атрымлівае вялікую грашовую кампэнсацыю (да 100 тысяч рублёў). Міністэрства абароны СССР будзе за гэта плаціць ці не? Пакуль, яно плаціць толькі дэмагогіяй аб ,,интернациональном долге".

Калі б Беларусь не аддавала СССР кожны год амаль палову нацыянальнага прыбытку, калі б сама валодала сваёй тэрыторыяй, прыроднымі рэсурсамі і вытворчымі фондамі, калі б сама забірала сваю валюту, вяла б сваю міжнародную палітыку і сама распараджалася сваім лёсам, тады ад Чарнобыля мы ўжо даўно і эфэктыўна ратаваліся б і, упэўнены, выратаваліся б. Для гэтага ў нас ёсьць усё, акрамя свабоды.

Нацыянальная дзяржаўная незалежнасьць — гэта становішча ў грунце сваім сацыяльнае, якое аб'ядноўвае ўсё насельніцтва нацыі. Бо самастойнасьць, незалежнасьць народу і гаспадарства — гэта нармальны стан грамадства, які гарантуе яму працу для сябе, культурнае развьвіцьцё і гістарычнаю пэрспэктыву.

Цяпер ня трэба быць надта дасьведчаным, каб зразумець, што колькі б мы, працавітыя беларусы, ні працавалі, мы ніколі ня будзем багатымі, бо наша эканоміка і гаспадарка каляніяльныя. Простаму чалавеку зразумела, што, калі мы атрымліваем жалеза з СССР, робім на нашых заводах аўтамабілі і адпраўляем іх назад у СССР, мы прадаём сваю працоўную сілу, і называецца гэта каляніяльнай эксплюатацыяй. Чалавеку зразумела, што калі прыбытак на 1 гектар сельгасугодзьдзяў у Беларусі ў 2-3 разы вышэйшы, чым у цэлым па СССР, а зарплата адпаведна ніжэйшая, то гэта рабаваньне нашай працы і г. д.

За пяць гадоў перабудовы ўзьнялася вялікая хваля афіцыёзнай дэмагогіі, дэкляраваньня выправіць становішча, даць эканамічную ,,самастойнасьць" рэспублікам і г. д. Падзеі ж гэтых гадоў і палітыка Гарбачова выразна паказалі, што ніякай ,,самастойнасьці" ў складзе СССР быць ня можа. Камуністы праводзяць чарговае ашуканства народаў, крыху паслабляючы лейцы



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

імпэрыі (у асноўным на словах), каб потым забратаць яшчэ мацней на ўзроўні сучаснай дыктатуры ў лайкавых пальчатках.

Чарнобыльская трагедыя зьяднала ў адно ўсе нашы беды, усе нашы праблемы — экалягічныя, эканамічныя, палітычныя, культурныя, маральныя і паставіла пытаньне рубам — альбо мы памрэм як народ, як нацыя, як культура ў складзе СССР, альбо выратуемся праз незалежнасьць, праз выхад з СССР і аднаўленьне сувэрэннай Беларускай дзяржавы.

Беларусь была двойчы анэксавана ў склад Расійскай імпэрыі Першы раз у канцы XVIII стагодзьдзя ў выніку трох падзелаў фэдэратыўнай Рэчы Паспалітай. Пасьля Кастрычніцкага перавароту 1917 года бальшавікі абʼявілі аб скасаваньні ўсіх дагавораў царскай Расіі. Аднак ужо ў сьнежні 1918 года тэрыторыя Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) была акупавана адзьдзеламі Чырвонай Арміі. Законны, выбраны Усебеларускім Кангрэсам Урад БНР вымушаны быў эміграваць, бо стотысячнае войска Беларусі, сфармаванае на Румынскім фронце, з-за процідзеяньня немцаў не ўдалося перакінуць на Беларусь. Бальшавікі прывезьлі з сабой у абозе марыянэтачны камуністычны беларускі „урад", якога ніхто ня ведаў і ніколі не выбіраў. Пры дапамозе гэтага „ўраду" неўзабаве абʼявілі аб стварэньні БССР — часовай дзяржавы ў процівагу Беларускай Народнай Рэспубліцы.

Беларускі народ мае поўнае юрыдычнае і маральнае права аднавіць статус незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і патрабаваць ад СССР кампэнсацыі за панесеныя страты. Ёсьць іншы шлях, які вымагае рэальнага статусу Беларусі як члена ААН.

Другая мэта руху, цесна зьвязаная зь першай, — стварэньне дэмакратычнага грамадзтва, дэмакратычнай рэспублікі. Гэтай задачы БНФ прысьвяціў асноўную дзейнасьць за паўтара года і найбольш увагі. Без дэмакратычнага грамадзтва ў нашых варунках немагчымая і незалежнасьць, і адраджэньне нацыі і культуры, бо існуючы рэжым у БССР самы кансэрватыўны, антынародны і антыдэмакратычны, а ў намэнклятурнай верхавіне нават — антысацыяльны. Антыдэмакратызм рэжыму абумоўлены поўнай манаполіяй КПСС на ўладу і поўнай бесканрольнасьцю камуністычнай намэнклятуры і кіраўніцтва з боку народу.

Антынароднасьць беларускага партыйнага апарату вынікае перш за ўсё зь яго ідэялёгіі нацыянальнага нігілізму, г. зн. непрыняцьця, адмаўленьня нацыянальнай культуры і мовы беларускага народу, нянавісьці да яе свабодных носьбітаў і творцаў. Найбольш акрэсьлена нацыянальны нігілізм сфармаваўся менавіта ў Беларусі. Тут ён мае даўнія карэньні, бярэ пачатак са зьместу і праяў асобай вынарадавецкай палітыкі царызму ў дачыненьні да Беларусі. Царызм імкнуўся сьцерці беларусаў і Беларусь з карты сьвету, як цэнтральную і патэнцыяльную геапалітычную сілу на захадзе Расійскай імпэрыі. Бальшавізм пераняў геапалітычную палітыку рускіх цароў і праводзіў яе з асаблівай жорткасьцю ў 20-х, 30-х і 40-х гадах. Асноўнымі выканаўцамі генацыду ў Беларусі былі НКВД і пагранічныя войскі. Наладжавалі і масавыя адстрэлы людзей. Пра гэта ўжо была напісана ў друку.

Арганізацыяй рэпрэсій, працэсаў і забойстваў на Беларусі займаўся непасрэдна ЦК ВКП(б) праз мясцовыя партыйныя камітэты. Потым ліквідаваліся кіраўнікі гэтых камітэтаў па ініцыятыве іншых кіраўнікоў і г.д. Злачынства мела шматступенны характар, дзе партапаратчыкі і энкавэдэшнікі зьяўляліся адначасова злачынцамі і ахвярамі ўласных злачынстваў. У выніку генацыду Беларусь страціла мільёны людзей, лепшых сялян, спэцыялістаў, прафэсуру, пісьменьнікаў і творцаў, вучоных, інтэлігенцыю і нават мясцовы партапарат, які ў значнай ступені, трапіўшы ў гэтую маскоўскую мясарубку, перадушыў сам сябе.

На месцы выбітных мясцовых спэцыялістаў і апаратных работнікаў прысылаліся „выдвиженцы" — функцыянеры з Расіі. І першае, чым яны пачалі займацца, — гэта зачыняць беларускія школы і змагацца з „нацдэмаўшчынай", якая здавалася ім у кожным беларускім слове. Мясцовы бюракрат мог зрабіць карʼеру ў такіх варунках, толькі адмовіўшыся ад „нацдэмаўшчыны" і ўсяго, што зьвязана з нацыяй і беларускай культурай. Так усталяваўся ў КПБ сьветапогляд нацыянальнага нігілізму; так узьнікла племя апаратных рэнэгатаў нацыі, манкуртаў, што давілі беларускую мову і культуру амаль да скону і прадаўжаюць яе зьнішчаць па сёньняшні дзень.

Беларуская арганізацыя КПСС нясе адказанасьць за генацыд, за вынішчэньне нацыянальнай культуры, мовы, за разбурэньне гістарычнай спадчыны і фальсыфікацыю гісторыі Беларусі, за падтрымку сыстэмы каляніяльнай эканомікі, за растаптаныя нацыянальныя традыцыі, веру і мараль, за бязьдзейнасьць пры чарнобыльскай катастрофе, за стварэньне штучнай сакрэтнасьці аб выніках радыяцыйнага заражэньня, што выклікала сьмерць і страту здароўя людзей.

Падзеі паказваюць, што ніякіх гуманістычных ці хоць бы элементарна здаровых высноў са становішча ў Рэспубліцы гэтая арганізацыя і яе кіраўнікі зрабіць ня ў стане. Прапануецца эскаляцыя кансэрватызму, упартае ахайваньне дэмакратычных працэсаў, апэляцыя да вэтэранаў і пабудова сапраўднага сацыялізму. Усё гэта паглыбляе самаізаляцыю КПБ, выклікае стыхійную, часам ужо нястрымную нянавісьць да камуністаў у народзе. Апошні аспэкт ня можа не хваляваць, бо гэта крок да „румынскага



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



Сяржук Сокалаў-Воюш, Вінцук Вячорка, Зянон Пазьняк. Фота А. Ільіна.

варыянту". Наўрад ці ўсьведамляюць гэта сабе кіраўнікі КПБ, як зрэшты не ўсьведамляў і Чаўшэску.

Яны ніяк ня могуць зразумець, што эпоха марксізму-ленінізму, эпоха манаполіі КПСС ужо незваротна мінае. Мінае ва ўсім сьвеце. Рухомая практыка гісторыі XX ст. даказала беспадстаўнасьць, злачыннасьць, утапізм і нежыцьцёвасьць марксізму-ленінізму і ўсіх „ізмаў" на яго аснове. Чалавецтва выпроставе плечы і пачынае вылечвацца ад камунізму. І нішто ўжо ня спыніць яго выздараўленьня. Камуністычны кансэрватызм бяссэнсоўны. Ён можа прывесьці толькі да чарговых няшчасьцяў людзей.

Ёсьць шлях больш гуманны, якім выходзіць з камунізму Усходняя Эўропа. Я б адзначыў тут чатыры этапы выхаду з камунізму і вяртаньня ў цывілізаваны стан: асэнсаваньне злачынства, пакаяньне, адмаўленьне ад ідэялёгіі марксізму-ленінізму і чацьвёртае — суд над канкрэтнымі злачынцамі.

Зрэшты, што датычыць марксізму-ленінізму, то адмаўленьне ад яго ёсьць працэс гістарычны і аб'ектыўны. Усталёўвалася гэтая ідэялёгія сілай, крывёй і гвалтам з прычыны якраз сваёй цалкавітай штучнасьці і нежыцьцёвасьці. Антычалавечнасьць яе выявілася пазьней і выходзіла, як трэба было чакаць, з поўнай ненавуковасьці гэтага суб'ектыўнага вучэньня, аснаванага на ўтапічных сацыяльных канструкцыях і на вынікаючым адсюль эканамічным авантурніцтве. Авантурызм грунтаваўся перш за ўсё на адмаўленьні прыватнай уласнасьці і рыначнай таварнай вытворчасьці як кораня, на думку Маркса, эксплюатацыі і няроўнасьці людзей. Сацыялізм ён разглядаў якраз як нярыначную вытворчасьць. Прысьвяціў канструяваньню такіх канцэпцый усё жыцьцё, хоць з самага пачатку было відаць, што ўсе яны чарговая ўтопія. Але засьведчыць яе вымушана была сама гістарычная практыка.

Наколькі шкоднымі для грамадзтва могуць стаць сацыяльныя ўтопіі, даказала гісторыя бальшавізму і партыйнай звышдзяржавы СССР. Сталін, схіляючыся з прычын свайго невысокага разьвіцьця да ўсялякага спрашчэньня, арганізаваў грамадзтва часткова па Марксу, часткова па Томасу Мору і абараняў сваю „Утопію" ленінскімі мэтадамі зусім не з-за любові да чыстай тэорыі, у якой ён слаба разьбіраўся. Справа ў тым, што са зьнішчэньнем маёмнай прыватнай уласнасьці людзей, рынку, таварнай вытворчасьці і з абагульненьнем, абдзяржаўліваньнем маёмасьці і сродкаў вытворчасьці прыватнай уласнасьцю ў грамадзтве становіцца сама дзяржаўная ўлада. Тая самая ўлада, да якой так імкнуліся і захапілі бальшавікі. У гэтым сутнасьць. З валоданьня ўласнасьцю дзяржавай вынікае ўся камуністычная палітыка, іх тэорыя, ідэялёгія, дэмагогія, міжусобная грызьня, генацыд, лягеры і г.д. Бо дзяржава, неабмежаваная ўлада давала ім усё. І яны праявілі сябе як уласьнікі хцівыя, жорсткія. Дзеля ўтрыманьня, павелічэньня і ўмацаваньня сваёй уласнасьці яны гатовыя былі ўтапіць у крыві усё чалавецтва, скарыстаць любую




„Дзяды 1989" у Курапатах. Фота А. Ільіна.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

ідэялягічную ілюзію, утопію, толькі б удасканаліць уладу і захаваць яе непадзельную самаісную каштоўнасьць. Вось чаму цяпер, калі ўся іх паўцывілізацыя зайшла ў тупік і трэба даваць задні ход, яны супраціўляюцца так шалёна. Здавалася б, што яны дзейнічаюць нават супраць лёгікі і мы схільны бачыць у такіх наводзінах нешта ірацыянальнае. Але ўсё рацыянальнае ў іх Утопіі.

Цяпер нам кажуць: сыстэма перажывае крызыс, былі дэфармацыі сацыялізму. Аднак ніякага крызысу сыстэма не перажывае. Крызыс — гэта хвароба самаразьвіцьця, якая вылечваецца. У дадзеным выпадку сыстэма і ўсё грамадзтва зайшлі ў тупік. А гэта канец. Шляху далей няма. Наперадзе пагібель, распад цывілізацыі. Прыкметы тупіку: ніхто не зацікаўлены ў паляпшэньні працы. (Для чалавека ў сыстэме яно бяссэнсоўнае). Ніхто не гаспадар. (Няма канкрэтнай уласнасьці. Таму безгаспадарнасьць і расклад). Адсутнасць правоў і свабодаў асобы. Адсюль пасыўнасьць, апатыя і, што самае страшнае, — крызыс маралі.

Выхад жа з тупіку — ня ўбок і не наперад да „сапраўднага" ці якога там яшчэ „дэмакратычнага" сацыялізму. Выхад з тупіку толькі адзін — назад, калі аднак грамадзтва яшчэ здольнае рухацца. Назад да рынку і прыватнай уласнасьці, назад да дэмакратыі, назад да рэлігіі і традыцыйнай маралі, назад да гуманнай культуры, назад да сувэрэнітэту і дзяржаўнай незалежнасці нацыяў. І толькі адышоўшы і агледзеўшыся навакол, народы змогуць пайсці наперад, як хто хоча, разам ці паасобку, без падказкі і ўказаньняў розных „старэйшых братоў" і крывавых настаўнікаў чалавецтва. Законы грамадзтва, як і прыроды, нельга гвалціць і ігнараваць. Прырода і гісторыя помсьцяць за гэта.

Відавочна, што кожны сумленны чалавек сваёй гуманнай сутнасьцю павінен змагацца з камунізмам і пераадольваць камуністычную ідэялёгію як крайне антычалавечую, негуманную і антыграмадзкую зьяву.

У сувязі з гэтым даўно насьпела пара паставіць пытаньне аб дзейнасьці У.І. Леніна і яго акружэньня — Троцкага, Бухарына, Сьвярдлова, Дзяржынскага, Уншліхта, Зіноўева, Калініна і іншых. У адрозьненьне ад Сталіна Ленін пакінуў масу дакумэнтаў і сьведчаньняў аб уласнай ініцыятыве і прыналежнасьці да арганізацыі масавых забойстваў, зьнішчэньня нявінных людзей, арганізацыі канцэнтрацыйных лягераў, тэрору, нечалавечых жорсткасьцяў і генацыду. Частка гэтых дакумэнтаў зьмешчана ў яго поўных зборах твораў, частка апублікавана нядаўна, як, напрыклад, фэнамэнальны па сваім жудасным злачынным цынізьме сакрэтны ліст У.І. Леніна ад 19 сакавіка 1922 года для членаў Палітбюро аб правядзеньні расправы над праваслаўным духавенствам з мэтай запалохваньня Царквы, з прапановай правадыра расстраляць „чем больше..., тем лучше" і „с такой жестокостью, чтобы они (праваслаўнае духавенства — З.П.) не забыли этого в течение нескольких десятилетий") Собеседник, М., 1990, апрель, № 16, с. 7). Згодна з гэтым плянам і ініцыятывай У. І. Леніна было расстраляна звыш васьмі тысячаў чалавек, у тым ліку Петраградзкі мітрапаліт Веніямін.

Фігура У. І. Леніна была кананізавана ў бальшавіцкім пантэоне яшчэ за часы Сталіна. Тады ж мэтанакіравана стварыўся і ленінскі культ, што было выгадна яго пераемніку дзеля стварэньня ўласнага культу. Прырода камуністычных культаў як своеасаблівых сацыяльных сурагатаў рэлігіі (сама марксісцкая ўтопія трымалася на веры — „учение Маркса всесильно, потому что оно верно" — У. І. Ленін) дастаткова добра разгледжана ў літаратуры. Ня будзем на гэтым спыняцца. Адзначым толькі, што ленінскі культ кансэрватары-камуністы па інэрцыі падтрымліваюць і сёньня, апелюючы да „геніяльнасці" Леніна, вычляняючы „лепшыя рысы", уклад у рэвалюцыю (безадносна да маралі і значэньня гэтага „ўкладу" для людзей) і г.д.

Знаёмства з фактамі, сьведчаньнямі і дакумэнтамі, зьвязанымі зь дзейнасьцю Леніна з 1917 па 1922 г., раскрывае перад намі тыпаж дзеяча не абцяжарнага ніякімі законамі маралі і права, акрамя права неабмежаванай улады і палітычнай мэтазгоднасьці. У гісторыі чалавецтва, пачынаючы ад цара Хамурапі, цяжка




Дзень Незалежнасьці (25 сакавіка 1990) у Менску. Фота А. Ільіна.




© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

назваць лідэра, які б так шмат, адкрыта і шматслоўна пісаў і сьведчыў пра свае злачынствы. Сталін не пакінуў ні радка аб прыналежнасьці да генацыду. Ленін спрэс пісьмова абураўся, што мала расстрэльваюць заложнікаў, прастытутак, сялян, буржуяў, сьвятароў і г. д. Узьнікае нават сумненьне, ці разумеў гэты юрыст па адукацыі, былы памочнік прысяжнага паверанага, што тварыў найвялікшае зло?.

Некаторыя камуністы мяркуюць, што на XXVIII зьезьдзе КПСС самы час разгледзець пытаньне аб дзейнасці У. І. Леніна і яго акружэньня, што бяз гэтага далей „рухацца" немагчыма і г. д. Можа, гэта і выратавала б на нейкі час ад краху КПСС, але ёй трэба тады адмовіцца ад бальшавізму і перайсьці на пазыцыі сацыял-дэмакратыі (так бы мовячы, у запасную траншэю для камуністаў). Да гэтага, аднак, яны не гатовы. Дый ня мае яно ўжо значэньня. Пазьняцца лідэры. Народ, што становіцца на шлях свабоды, хораша сам разьбярэцца ва ўсім і вырашыць па-добраму, па-чалавечаму.

*Зянон Пазьняк — лідэр Беларускага Народнага Фронту.*
*Артыкул перадрукаваны са штомесячніка »Беларусь« (№ 7, 1990).*



# ЧАРНОБЫЛЬСКАЕ

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

АЛЕСЬ ГАЛЬКЕВІЧ

## ЧАРНОБЫЛЬ...
## АПОШНЯЕ ЗЛАЧЫНСТВА КАМУНІЗМУ?

26 красавіка 1986 года, дзень аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, увайшоў у сусветную гісторыю як дата найвялікшай у гісторыі чалавецтва катастрофы. Аднак дэтанатар гэтай катастрофы закладзены быў не вясной 1986, а восенню 1917. Кастрычніцкі пераварот бальшавікоў запусціў часавы механізм міны замаруджанага дзеяння, якая і выбухнула ў тую ціхую красавіцкую ноч.

Гэты выпадак мог прыдарыцца год раней або год пазней, але прыдарыцца ён мог толькі ў гэтай краіне, краіне, якая на працягу сямі дзесяткаў год з'яўлялася ўзорам таталітарызму ў сусветным грамадстве.

Манаполія ў палітыцы, эканоміцы, культуры, поўнаўладдзе і бяскарнасць рэпрэсіўных органаў, давялі да абясцэнення чалавечага жыцця, да духоўнага паралюшу грамадства.

Таталітарны рэжым гэтай імперыі, самай вялікай у свеце, задумваў і ажыццяўляў усё самае-самае... Самыя вялікія канцлагеры, самыя пачварныя катаванні, самыя вялікія ў свеце гідрастанцыі, заводы і... атамныя рэактары. Таму і не дзіўна, што пры распрацоўцы канцэпцыі развіцця ядзернай энергетыкі выбар упаў менавіта на рэактар тыпу РБМК.

Па-першае, гэта адзін з магутнейшых рэактараў у свеце, па-другое ,самы танны ў свеце (за кошт бяспекі эксплуатацыі), і самае галоўнае — гэта ж проста першы раз у свеце! Галоўная „вартасць" гэтага рэактара ў тым, што ён надзелены такім унікальным канструкцыйным дэфектам, як дадатны каэфіцыент рэактыўнасці. Гэта значыць, што пры страце моцы ніжэй 20% рэактар стаецца няўстойлівым у кіраванні. Нагадаю, што Чарнобыльская катастрофа здарылася пры паніжэнні моцы на 5%. Рэактары такога тыпу можна бяспечна эксплуатаваць толькі ў сярэднім рэжыме, пры выкарыстанні 50-70% моцы. Але ці маг-


© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

чыма такое ў краіне „развітага сацыялізму", дзе доктар навук можа быць высланы на базу перабіраць бульбу, а сакратар ЦК КПСС па сельскай гаспадарцы (Лігачоў) мае права даць загад арміі правесці крывавую бойню ў Тбілісі?

Такая дзікая краіна не мае права будаваць і эксплуатаваць ядзерныя станцыі. Таталітарызм і ядзерная энергетыка — несумяшчальныя!

### Колькі каштуе сакрэтнасць?

*... Весь ход событий в связи с аварией, меры по ликвидации ее последствий с новой и особенной силой подчеркивают такое качество советской политической и государственной системы, как чувство ответственности. Ответственности за жизнь, здоровье как советских людей, так и иностранных граждан...*

*... В эти дни лишний раз можно было убедится в подрывном характере деятельности некоторых западных голосов...*

(У прэсцэнтры МЗС СССР, ТАСС, май 1986)

У кожнай дэмакратычнай краіне ахова сакрэтаў каштуе, і то нямала. Але ў адрозненне ад краін з таталітарным рэжымам, гэтае не вымагае ад падатнікаў страты жыцця і здароўя, не з'яўляецца пагрозай для існавання наступных пакаленняў. У СССР знаходжанне ў руках аднаго міністэрства сярэдняга машынабудавання прадукцыі ядзерных боегаловак, узбагачэння руды, праектавання і будаўніцтва ядзерных станцый, давяло да рэжыму звышсакрэтнасці і непадкантрольнасці грамадству гэтага суперканцэрна.

Першы званок прагучаў у 1957 годзе, калі пад Чалябінскам здарыўся міні-Чарнобыль. Тады таксама схлусілі, як уласнаму народу, так і сусветнай грамадскасці. Праз 19 гадоў гісторыя паўтарылася зноў, з той толькі розніцай, што цяпер за штурвалам карабля з назвай „Камунізм" стаяў чалавек не з „валюнтарысцкімі" ці „застойнымі" поглядамі, а чалавек, які прэтэндуе на ролю вынаходніка „нового мышления". Напэўна, дзякуючы „новому мышлению" мы даведаліся аб Чарнобыльскай катастрофе з паведамленняў шведскага, а не маскоўскага радыё.

Праз чатыры гады жыхары Уфы паілі дзяцей атручанай фенолам вадой. Чаму? Таму, што кіраўнікі горада таксама валодалі „новым мышлением". І развважалі прыкладна так: „Потравим всех, мы за ценой не постоим, зато паники не будет". (Дарэчы, на Сахары панікі таксама ніколі не было, там папросту няма каму панікаваць). Усе сем дзесяцігоддзяў гісторыі злачынстваў камунізму пацьвярджаюць яго генетычнае чалавеканенавісніцтва.



Таму, калі чуеш аб пабудове чарговага віду сацыялізму, гэтым разам „с человеческим лицом", бярэ над табою верх сумненне, ці хто-небудзь застанецца ў жывых пасля завяршэння гэтага эпахальнага будаўніцтва.

У красавіку-маі 1986 года акадэмік АН БССР Несцярэнка запрапанаваў І сакратару КПБ Слюнькову, каб той адмяніў правядзенне першамайскіх святаў і дэманстрацый і папрярэдзіў насельніцтва наконт захавання элементарных нормаў бяспекі. Але так не сталася. Не была праведзена і ёдавая прафілактыка. Затое неўзабаве адняли ўсе апараты радыёметрычнага кантролю, якія знаходзіліся ў распараджэнні службаў цывільнай абароны. Сакрэтнасць звыш усяго! Ажно да 9 мая сотні дзяцей у Нароўлі, Хойніках, Брагіне, у адлегласці некалькіх дзесяткаў кіламетраў ад патыхаючага агнём радыеактыўнага вулкана 4 блока Чарнобыльскай АЭС, пад гукі бравурных маршаў праводзілі перадсвяточныя рэпетыцыі. Сотні тысяч беларускіх дзяцей гулялі ў радыеактыўных пясочніцах і пілі першае радыеактыўнае малако. Але нечалавечай сістэме былі яшчэ патрэбны і прапагандавыя відовішчы. У тыя першыя дні мая была праведзена футбольная гульня паміж камандамі гарадоў Брагіна і Хойнікаў. Як паведаміла партыйная прэса, гэтая „гульня смерці" прайшла „пры переполненых трибунах". Гісторыя дагэтуль ведала толькі адну падобную гульню. У гады другой сусветнай вайны, паміж камандамі Люфтвафе і „Дынама" Кіеў. У першай гульні, якую праводзілі фашысты, ахвярамі сталі толькі футбалісты пераможнай каманды кіеўскага „Дынама", але нягледзячы на расстрэл яны засталіся ў гісторы як Пераможцы. У другой „гульні смерці", праведзенай камуністамі, не магло быць пераможцаў, як сярод удзельнікаў, так і сярод гледачоў. Але затое ўсе сталі ахвярамі. А перамог КАМУНІЗМ. Ён даказаў, што ў футбол гуляюць не толькі пад навальнічнымі хмарамі, але і пад радыеактыўнымі. Хто палічыць, колькі чалавечых жыццяў каштавала тая „пірава перамога"? Хто палічыць чалавечыя страты ад сакрэтнага загаду Мінздрава СССР „о запрете связывать заболевания с последствиями Чернобыльскай катастрофы", ад увядзення строгага рэжыму сакрэтнасці на статытыку захворванняў у зонах, пацярпелых ад аварыі?

Перш чым адказаць на гэтыя пытанні, трэба зразумець — каму выгадны рэжым сакрэтнасці, хто ў ім зацікаўлены? Ува ўсе часы ў захаванні тайны былі зацікаўлены злачынцы, якія такім чынам імкнуліся пазбегчы кары. Толькі праз 50 год КГБ раскрыла тайну забойства польскіх афіцэраў у Катыні, але да гэтай пары мы не ведаем праўды пра 250 000 расстраляных у Курапатах. Не маем доступу да архіўных матэрыялаў, звязаных са злачынствам камунізму на тэрыторыі, якая займае 1/6 частку



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

свету, а перанесла толькі гора і прыніжэння, якіх хапіла б на ўсю галактыку.

Да тае пары, пакуль будзе існаваць Палітбюро ЦК КПСС, будуць існаваць і прычыны для надпісаў „совершенно секретно".

У жніўні 1986 года старшыня Дзяржкамгідрамета Ізраэль прызнаўся, што „ў зоне АЭС самалёты ўздзейнічалі на пагоду пры дапамозе спецыяльных рэагентаў". Гэтае „ўздзеянне" закранула і Магілёўскую вобласць, на тэрыторыю якой пасадзілі радыеактыўнае воблака, што ішло на Маскву. „Рыжы" дождж, які выпаў, характарызаваўся не толькі рэзкім пахам, але і надпісам „совершенно секретно". За астатнія чатыры пасляаварыйныя гады назбіралася дастатковая лічба падобных „штучак", якія маглі б заняць месца ў кнізе рэкордаў.

## Чарнобыль і кніга рэкордаў Гінеса

Што заслугоўвае на тое, каб быць занесеным у „чорную кнігу" рэкордаў Гінеса?

1. Упершыню ў свеце быў сканструяваны і пабудаваны рэактар РБМК, самы магутны, самы танны і самы выбухованебяспечны.

2. У выніку яго пабудовы і эксплуатацыі здарылася самая вялікая, спрычыненая чалавекам, катастрофа на свеце.

3. Пасля аварыі, на прэсканферэнцыі, старшыня Дзяржкамгідрамета Ізраэль заявіў, што ўзровень радыяцыі над чацвёртым блокам Чарнобыльскай АЭС складае 0.015 рэн/гадз., пад час калі ён складаў 15 000 рэн/гадз. (Нават цяпер ён складае 500 рэн/гадз.) Тым самым была выказана самая вялікая на свеце хлусня, якая ў мільён разоў адрозніваецца ад рэчаіснасці.

4. Праз тры гады дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР зацвердзілі Ізраэля на тую ж пасаду, установіўшы сусветны рэкорд дэпутацкай беспрынцыпнасці.

5. Праз год пасля вышэйпамянёнага рэкорду тыя ж самыя дэпутаты адолелі новую „вяршыню": прымаючы праграму па ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай аварыі, санкцыянуюць вытворчасць (а значыць, і рэалізацыю) прадуктаў харчавання, шчодра „прыпраўленых" радыёнуклідамі.

6. Упершыню ў сусветнай практыцы былі праведзены пышныя „святочныя" гульбішчы пад радыеактыўным попелам (па-відавочнаму, з нагоды катастрофы). Галоўным дэвізам гэтых „святаў" стаўся лозунг: „Усё лепшае — дзецям!", уключна, безмоўна, з „лепшымі" радыёнуклідамі і гарачымі часцінкамі.

7. На працягу чатырох гадоў пасля аварыі вытвараліся прадукты харчавання, забруджаныя радыёнуклідамі, у выніку чаго





Наступствы Чарнобыля — дзеці хворыя на рака крыві... У чатырохгадовай Касі нямоглыя ножкі, нават сесці на ложку яна можа толькі з мамінай дапамогай... Фота К. Войткі.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

больш за ўсіх пацярпелі дзеці. Параўнальны аналіз замераў, зробленых на шчытападобнай залозе ў дзяцей з Хойнікаў, Мінска і Віцебска, паказвае, што дзеці, пражываючыя ў чыстай зоне, набралі радыёнуклідаў у 2-3 разы больш за тых, што жывуць у забруджанай зоне. Камуністы паступілі дужа арыгінальна: чыстыя прадукты — у забруджаную зону. Брудныя прадукты — у чыстую зону. Такім чынам да 2.2 млн чалавек, якія жывуць у абставінах пастаяннага ўздзеяння радыяцыі, далучылася яшчэ 8 млн чалавек, пражываючых у чыстай зоне. Паводле ўлюбёнай фармулёўкі нашых ідэалогаў — „произвошел стопроцентный охват населения". Апошнім часам, з мэтай павялічыць асартыменты радыёнуклідаў для насельніцтва, пачаўся выпуск радыеактыўнай мэблі і піяніна. Як паміраць, то ў радыеактыўнай труне і пад радыеактыўную музыку!

8. Калі разглядаць непасрэдныя чалавечыя страты толькі на прыкладзе 600 000 удзельнікаў ліквідацыі аварыі, атрымаўшых як мінімум па 25 бэр, то ад 7.5 тыс. да 15 тыс. з іх могуць захварэць на прамянёвую хваробу. Улічваючы, што пры існуючым узроўні развіцця медыцыны ў СССР падобныя захворванні практычна невылечныя, гэтыя страты можна супаставіць народу са стратамі дзесяцігадовай вайны ў Афганістане.

Гэта азначае, што ў часы „перастройкі", „гласности" і „нового мышления" быў ціха і спакойна разыграны ўнутраны Афганістан.

Падводзячы вынікі ўсім гэтым „достижениям", неабходна адзначыць асаблівыя заслугі камуністаў у правядзенні мэтанакіраванага чатырохгадовага генацыду супроць беларускага народу. Гэты генацыд па сваёй жорстасці і цынічнасці можна супаставіць з дзеяннямі Сталіна, Гітлера і Палпота.

## Дзве маралі або Іуды беларускага народу

*...Авария на ЧАЭС, реакция на нее, стали своего рода проверкой политической морали. Еще раз обнаружилось два разных подхода, две разные линии поведения... (З выступлення Гарбачова М. С. па тэлебачанні СССР 14 мая 1986 г).*

Цяжка тут не пагадзіцца з Гарбачовым, што катастрофа на ЧАЭС адыграла ролю кантрастнага вадападзелу дзвюх сістэм, дзвюх разнапалюсных маральнасцяў.

Аднак нягледзячы на іхнюю супрацьлегласць, трэба прызнаць, што рэакцыя на Чарнобыльскую катастрофу як з аднаго, так і з другога боку, была выключна шчырай.



Найбольш поўна гэтая шчырасць праявілася ў інфармаванні насельніцтва аб узніклай катастрофе. На захадзе эфір захлёбваўся ад каментарыяў, меркаванняў і прагнозаў. Паўсюдна ўведзены быў жорсткі кантроль прадуктаў харчавання, а медыкі давалі рэкамендацыі па элементарнай радыяцыйнай прафілактыцы. У грамадзян, якія пабывалі на тэрыторыі СССР, адбіраліся забруджаныя асабістыя рэчы і выплачвалася адпаведная кампенсацыя. Такая ж кампенсацыя выплачвалася і фермерам, на чые землі выпалі радыеактыўныя асадкі. Атрыманая з гэтых зямель прадукцыя знішчалася. Гэта была фактычна шчырая пазіцыя дэмакратычных урадаў, якія ўжо дзесяткі (а то і сотні) гадоў адчуваюць дыханне наступаючай на пяткі апазіцыі. Палітыкі ўжо даўно засвоілі правіла: „Скупы плаціць двойчы", таму і рабілі ўсё магчымае і немагчымае дзеля аховы здароўя сваіх грамадзян.

А ў краіне, дзе здарылася гэтая аварыя, чуваць было бравурныя маршы, пад гукі якіх тысячы дзяцей сталі безабароннымі ахвярамі дарослых прыдуркаў. Рэпартажы па тэлебачанні паказвалі мірныя статкі кароў на пашы кіламетраў некалькі ад эпіцэнтра катастрофы. Газеты пераконвалі нас у тым, што выкураная пачка папяросаў у сто разоў больш шкодная для здароўя, чымсці, скажам, шпацыр пад радыеактыўным воблакам.

А ТАСС быў упаўнаважаны паведаміць:

*... Рядом западноевропейских стран приняты меры по ограничению импорта из СССР и некоторых европейских стран СЭВ продовольственных и других товаров.*

*Такие действия подрывают цели международных соглашений о торговле, не соответствуют общепринятой практике...*

Тысячу раз маюць рацыю аўтары гэтага паведамлення. Клопат аб здароўі і памыснасці сённяшніх і будучых пакаленняў не адпавядае агульнапрынятай практыцы камуністычнай ідэалогіі. Даволі выразна праявілася гэта ў першыя дні пасля катастрофы. Першыя пра яе даведаліся партыйныя функцыянеры. Іхняя рэакцыя на „мірную" атамную бамбардзіроўку была імгненная і па-чалавечаму зразумелая. Зараз жа з небяспечнай зоны былі адпраўлены іхнія дзеці і жонкі. Аднак жа ўзніклі складанасці ў адносінах з насельніцтвам, якое пасля эвакуацыі сем'яў кіраўнікоў дужа цяжка і з недаверам успрымала канцэпцыю „бяспечнага" пражывання ў пацярпелых зонах. „Кахаючым" татам і мамам высокае начальства паставіла варунак: або вяртаеце сем'і назад у зону, або пакідаеце партыйныя білеты, пасады, прывілегіі і кар'еры. Усе (!) „абмянялі" „ум„ честь и совесть нашай эпохи" на здароўе і будучыню сваіх дзяцей...



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Народ тайком цешыўся з „піравай перамогі", хаця трэба было плакаць, а не цешыцца.

Ці можа чалавек, які здрадзіў уласным дзецям, клапаціцца пра здароўе і памыснасць чужых? Жывёлы дый тыя, абараняючы сваіх дзяцей ад драпежнікаў, выбіраюць смерць разам з імі, чымсьці жыццё без іх. Толькі халаднакроўныя змеі пажыраюць сваё вылупленае патомства. Можа быць, у бальшавікоў такія ж адносіны да гэтага падкласа жывёльнага свету?

Дык хто ж яны, злачынцы ці ахвяры? Зусім магчыма, што і адны, і другія. Сёння ў пацярпелых раёнах новае начальства. Папярэдняе за „гераізм" і адданасць сістэме атрымала ордэны, павышэнні ў кар'еры і пасады ў чыстых зонах. А ўсё-такі не яно выконвала галоўныя ролі ў трагічным тэатры „времен перестройки и гласности". Галоўных актораў трэба назваць паіменна:

**СЛЮНЬКОЎ** — сёння член Палітбюро ЦК КПСС, у той час першы сакратар Кампартыі Беларусі. Гэта дзякуючы яму прайшлі пампезныя святочныя дэманстрацыі ў маі 1986. Гэта дзякуючы яму шмат з тых дзяцей, якіх выгналі на гэтыя „святы", ляжыць сёння на шпітальных ложках. Гэта дзякуючы яму не было прынята ніякіх мераў па ёдавай прафілактыцы і па папярэджанні насельніцтва пра небяспеку. Гэта дзякуючы яму пасля аварыі ледзь не пачалася пабудова ядзернай станцыі ў адзінай чыстай вобласці Беларусі, Віцебскай, а атамную ТЭЦ ставілі ў адлегласці 34 кіламетраў ад двухмільённага Мінска.

Гэты няпоўны паслужны спіс дазваляе зразумець, за якія „заслугі" Слюнькоў быў уганараваны крэслам члена Палітбюро.

**ТАРАЗЕВІЧ** — сёння старшыня камісіі Вярхоўнага Савета СССР па нацыянальных пытаннях, у той час старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі. Так як і Слюнькоў, ён неўзабаве пасля аварыі „эміграваў" у Маскву. Да ўсіх „заслугаў" Таразевіча трэба дадаць і асабістае ўдзельніцтва ў здзяйсненні аперацыі па разгоне антысталінскай дэманстрацыі ў Курапатах 30 кастрычніка 1988 года. Чалавек з „абоймы" Лігачова.

**КОНДРУСЕЎ** — сёння галоўны санітарны доктар СССР, тады галоўны санітарны доктар Беларусі. Зацверджаныя ім нормы дапушчальнай колькасці радыенуклідаў у прадуктах харчавання дзейнічаюць і да сёння:

малако — 370 бекерэляў/літр
масла — 1110 бк/кг
агароднiна — 1110 бк/кг



мяса — 1110 бк/кг
згушчанае малако — 1110 бк/кг
сухое малако — 1850 бк/кг

(У 1986-1987 гадах дапускаліся прадукты харчавання з забруджанасцю ад 37 000 бк/кг да 370 000 бк/кг. Акрамя гэтага, да гэтай пары партыйнымі чыноўнікамі санкцыяваны выраб кактэйля „камунізм": рыхтуецца яго, змешваючы чыстае і забруджанае малако або мяса, каб атрымаць нейкі такі ўсярэднены прадукт).

Гэта дзякуючы яму дзяцей 3 года пасля катастрофы кармілі бульёнамі, згатаванымі на касцях з вялікай колькасцю стронцыя-90. Гэта дзякуючы яго „турботам" дзеці, што жылі ў чыстых зонах, разам з шакаладам, цукеркамі і кандытарскамі вырабамі атрымоўваюць сваю дозу радыяцыі, ад чаго розніца паміж пражываючымі ў „брудных" і „чыстых" раёнах паступова знікае.

**САЎЧАНКА** — былы міністр аховы здароўя Беларусі, на долю якога выпала роля Галоўнага Дэзінфарматара рэспублікі. Вось урыўкі з яго інтэрв'ю „По слухам и авторитетно" газеце „Советская Белоруссия" ад 22 мая 1986 г.:

*... В настоящий момент обстановка в республике вполне нормальная, во всех районах Гомельской области ведутся сельхозработы. Повсеместно наблюдается выраженная тенденция к снижению радиоактивного фона, и сегодня уже можно говорить о безопасном его уровне на всей территории, за исключением зоны отселения... применение йодных препаратов целесообразно было лишь в опасных зонах, и сейчас там такой необходимости нет.. нет оснований для ограничений в отношении загородных прогулок, пребывания детей на свежем воздухе...*

Застаецца дадаць, што пасля адыходу ў адстаўку, Саўчанка быў узнагароджан партфелем старшыні таварыства „Міласэрнасць" (!!!), таварыства, створанага партапаратам спецыяльна для яго. Здавалася б, вяршыня цынізму здабытая? О не! Увосень 1989 г. Саўчанка, як старшыня таварыства „Міласэрнасць", разам са старшынямі двух іншых філантрапічных таварыстваў (Фонд Міру і Дзіцячы фонд імя Леніна) падпісвае зварот да народаў і парламентаў свету з просьбай аб „дапамозе ахвярам Чарнобыля", большасць якіх стала ахвярамі дзякуючы асабістаму ўдзелу Саўчанкі. Праўды, няма мяжы бальшавіцкай крывадушнасьці!



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



Мінскі гематалагічны цэнтр. Дзеці — мімавольныя ахвяры Чарнобыля — прабываюць тут з мамамі. Далёка не ўсім патрабуючым хапае месцяў... Фота К. Войткі.

**Акадэмікі ІЛЬІН і ЧАЗАЎ.** Дырэктар інстытута радыёбіялогіі АН СССР Ільін і былы міністр аховы здароўя СССР Чазаў сталі ґалоўнымі аўтарамі і абаронцамі „навуковай" тэорыі бяспечнага пражывання на забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі. Яны адыгралі галоўную ролю ў дэзінфармацыі сусветнай навуковай грамадскасці. Яны з'яўляюцца аўтарамі гнеўнага ліста на адрас Гарбачова і Рыжкова, у якім скардзяцца на „строптівых" украінскіх і беларускіх вучоных, не жадаючых прызнаць іхнюю канцэпцыю — 35 бэр за 70 гадоў жыцця. У беларускіх і украінскіх вучоных была больш простая і чалавечая канцэпцыя: там, дзе нельга атрымаць чыстыя прадукты харчавання — нельга і жыць.

Тое, наколькі „навуковы" падыход акадэміка Ільіна да праблемаў, звязаных з радыяцыйнай небяспекай, відаць з яго інтэрв'ю, распаўсюджанага АПН у маі 1986 г.

Карэспандэнт: ... *Надо ли соблюдать меры предосторожности, больше находится в помещениях, не открывать форточки? В этом есть необходимость?*

Ільін: *Ее не было и нет.(!)*

Карэспандэнт: *Есть ли уверенность, что работа людей в условиях повышенной радиоактивности не скажется на их здоровье?*



Ільін: *Да, есть.*

Цікава супаставіць, скажам, тое, што гаварылася ў 1986 г. з тым, што маем у 1990.

Сустрэча Е. П. Вяліхава з замежнымі журналістамі (ТАСС, 26 мая 1986 г.):

*... Всякие разговоры о возможном переносе радиоактивных осадков лишены оснований. И тем не менее кое-где на Западе еще слишком эмоционально подходят к оценке случившегося, стараются извлечь из аварии свои интересы...*

| Рэспублікі | Плошча (кв. км) тэрыторыі рознай ступені забруджанасці цэзіем-137 | | | Асігнаванні выдзеленыя на перасяленне ў пераліку на аднаго перасяленца (у тыс. руб). |
|---|---|---|---|---|
| | 5-15 | 15-40 | Звыш 40 | |
| | кюры на квадратны кіл. | | | |
| Украіна | 1960 | 820 | 640 | 120 |
| Беларусь | 10185 | 4210 | 2150 | 45 |

Думаю, што прыведзеная табліца паказвае, наколькі „навуковыя" прагнозы акадэміка Вяліхава. Асігнаванні на перасяленне жыхароў заражанай тэрыторыі выражаюць не сапраўдную неабходнасць тых ці іншых капіталаўкладаў, а актыўнасць грамадскасці ў змаганні за выжыванне. І калі на Украіне і Беларусі існуе арганізаванае супраціўленне радыяцыйнаму генацыду, то ў Расіі, дзе такога руху няма, на аднаго перасяленца запланавана ўсяго 21 тысяч рублёў.

Сёння мы ведаем, што тысячы людзей, што прымалі ўдзел у ліквідацыі Чарнобыльскай катастрофы, прыкаваны да шпітальных ложкаў, сотні сталі інвалідамі, а многія ўжо ніколі не змогуць паглядзець у вочы акадэмікам Ільіну і Чазаву. Ды ці можна пасля шматгодовай хлусні і дэзінфармацыі называць іх вучонымі, а іхнія канцэпцыі навуковымі?

Нас яшчэ чакае Чарнобыльскі Нюрнберг, дзе павінны судзіць не толькі канкрэтных віноўнікаў радыяцыйнага генацыду, але і камуністычную сістэму, якая іх нарадзіла і выпеставала.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

**Быць ці не быць?**

Гэтае Гамлетаўскае пытанне стаіць зараз перад беларускай нацыяй. Чатыры гады злачыннай бяздзейнасці ўладаў, прадукцыі і рэалізацыі ,,брудных'' харчоў ужо прыносяць свае ,,чорныя'' плады. Аднак перш чым Чарнобыльская трагедыя даткнула чалавечыя лёсы, яна закранула тыя гатункі флоры і фауны, якія аказаліся на заражанай тэрыторыі.

Доследы, праведзеныя супрацоўнікамі інстытута экалогіі АН БССР, паставілі перад навукоўцамі шэраг загадак, адказ на якія яшчэ ў будучым.

*... Чаму, скажам, у аднаго гатунку грызуноў генетычныя анамаліі ў клетках павялічыліся на 3 разы, а ў другога на 7 разоў? Чаму рэкардсменамі па запашанні радыенуклідаў у 1988 годзе сталі ласіца і шэрая чапля? Чаму ў 1986 г. сярод палескіх балотаў летам можна было спаць на сене спакойна, не дакучаў ні адзін камар, а ў 1989 г. ад безлічы мошкі нельга было дыхаць і працаваць без спецыяльнай засцярогі? Чаму ў зоне рэзка знізілася нараджальнасць у ласёў, дзікаў, казуль, а ў грызуноў пачалі раскладацца эмбрыёны? Чаму на лясных дарогах пачалі паяўляцца дробныя млекакормячыя, памёршыя »сваёй смерцю«? (З артыкула навуковага супрацоўніка інстытута экалогіі АН БССР Эдуарда Самусенкі).*

Чаму, урэшце, практычна зніклі та́кія непатрабавальныя птушкі, як вараб'і, якія да аварыі ранкамі будзілі сваім адвечным шчэбетам гараджан і вяскоўцаў рэспублікі? Спіс пытанняў можна было б працягваць, аднак дзеля таго, каб адказаць на іх, трэба час і сродкі. Ні аднаго, ні другога не хапае на ўратаванне дзяцей, дык куды ўжо да фундаментальных доследаў.

Толькі за 3 месяцы гэтага года ў Мінскім дзіцячым гематалагічным цэнтры памерла толькі дзяцей, колькі за ўвесь мінулы год. У 2.5 разы павялічыўся лік псіхічных захворванняў, у два разы павялічыўся лік анкалагічных захворванняў і самагубстваў. У гэтым няма нічога дзіўнага. Бо як жа іначай, калі 14-гадовая дзяўчынка, якая жыве ў вёсцы, у якой у сярэднім забруджанасць тэрыторыі складае 140 кюры/км² (а гэта значыць, што ёсць плямы і па 300-400 кюры/км²), ужо цяпер заяўляе, што яна баіцца стаць маці. Калі дзеці з Хойнікаў, маленькія вязні радыяцыйнага канцлагера (у лес нельга, на вуліцу нельга, усюды радыяцыя) вынайшлі новую гульню пад назвай ,,радыяцыя'', увесь сэнс якой заключаецца ў тым, што дзеці займаюцца ,,эвакуацыяй'' лялек і цацак з аднаго кутка пакоя ў іншы. У 80% дзяцей Нараўлянскага раёна пашкоджаная шчытападобная за-





Да сваёй хваробы Наташа жыла ў Гародні. Сярод жывых яе ўжо няма... Фота К. Войткі.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

лоза, у іншых пацярпелых раёнах тая ж залоза пашкоджаная ў 30-50% дзяцей. У Краснапольскім і Хойніцкім раёнах параджаюцца дзеці-мутанты з шасцю пальчыкамі на ножках і ручках, з адным вокам і г.д. (толькі ў Хойніках за 1989 год зарэгістраваны 21 выпадак прыроджанай паталогіі, чаго раней лекары мясцовага радзільнага дома не назіралі). Доследы пад лёгачнымі тканкамі памёрлых людзей з Магілёўскай і Гомельскай вобласцяў, праведзеныя прафесарам Пятраевым з Беларускага Дзяржаўнага універсітэта, паказваюць, што ў 1 см³ лёгкіх знаходзіцца ад 10 да 100 гарачых часцінак. А гэта азначае, што, скажам, лёгкія маці, якая корміць, з'яўляюцца дадатковай крыніцай апрамянення для яе ўласнага дзіцяці. Удумайцеся ў гэта, людзі! Хай гэтае апрамяненне і неістотнае (у параўнанні з радыяцыйным фонам пракажонай зямлі), але сам факт таго, што маці, абдымаючы і галубячы сваё дзіця, выстаўляе яго на дадатковае апрамяненне, па сваёй сутнасці пачварны і не змяшчаецца ў нармальнай чалавечай свядомасці...

Уздзеянне радыёнуклідаў, уводжаных у арганізм разам з ежаю, шматразова павялічваецца дзякуючы „навуковай" канцэпцыі атрымлівання чыстых прадуктаў харчавання на бруднай тэрыторыі, апрацаванай у Аграпроме БССР. Канцэпцыя выглядае вельмі проста. Аказваецца, хопіць усяго толькі ўвесці ў глебу ў 3-4 разы (звыш нарматываў) болей мінеральных угнаенняў, каб прадукцыя тут жа стала „чыстай".

Як і разумеце, чыстай яна не стала, затое да трапляючых у арганізм радыёнуклідаў дайшлі яшчэ нітраты і іншыя „карысныя" рэагенты. Такі „кактэйль" і выклікае шматразовасць уздзеяння радыёнуклідаў на здароўе людзей.

### Ці ёсць святло ў канцы тунеля?

Дваццатае стагоддзе стала самай трагічнай вехай у лёсе беларускага народу.

У шматзвеннявым ланцугу бясконцых страт і першая сусветная вайна, адняўшая тысячы чалавечых жыццяў, і крывавы сталінскі генацыд 30-х гадоў з двухмільённымі брацкімі магіламі ў беларускіх лясах, і другая сусветная вайна, забраўшая з сабой кожнага чацвёртага з 10 мільёнаў. І ўсё-такі ніколі да Чарнобыля мы не стаялі так блізка краю прорвы, таму што заўсёды заставалася надзея і вера ў наступныя пакаленні. Сёння гэтая надзея і вера гасне з кожным днём пражывання пятай часткі насельніцтва рэспублікі на „чарнобыльскіх" землях, з кожнай новай ахвярай лейкаміі або рака, з кожным выпадкам нараджэння дзяцей-мутантаў.



І дзеля таго, каб гэтая надзея не згасла канчаткова, трэба перш за ўсё ўзняцца з каленяў і скінуць з сябе камуністычнае ярмо.

Трэба ствараць страйкавыя камітэты, падтрымаць страйкуючых рабочых Гомеля і Нароўлі, таму што яшчэ пяць гадоў улады бальшавікоў мы папросту не вытрымаем. Трэба разлічваць перад усім на саміх сябе, а не на дапамогу Захаду ці Усходу. Зараз — або ніколі! Гэты дэвіз павінен стацца дэвізам нацыі.

Ці можам мы спадзявацца на дапамогу звонку? Безумоўна. Але трэба памятаць і аб тым, што перад тымі, хто захоча аказаць такую дапамогу, будзе стаяць цяжкапраходны маральны бар'ер. Бо дапамога трапіць у рукі тым, хто ўсе гэтыя гады праводзіў палітыку радыяцыйнага генацыду супроць уласнага народу. Таму, чым хутчэй будзе звержаны таталітарны рэжым, тым больш эфектыўнай будзе дапамога. А тое, што бальшавікі зацікаўленыя ў тым, каб дапамога праходзіла толькі праз тых, на чыім сумленні духоўны і экалагічны Чарнобыль, відаць на прыкладзе іхніх адносін да арганізацыі „Дзеці Чарнобыля" Беларускага Народнага Фронту. Арганізацыя, якая мае свае аддзелы ў многіх краінах свету, да гэтай пары не мае статусу юрыдычнай асобы ва ўласнай краіне, і таму валютны рахунак адкрывае ў Варшаве, а не ў Мінску. Але больш за ўсё партапарату не адпавядае тое, што дапамога праз „Дзяцей Чарнобыля" даходзіць непасрэдна да ахвяраў катастрофы, а не засядае ў кішэнях і маразільніках партыйнай наменклатуры. Гучны скандал, які выбухнуў зімою 1990 г. пасля марскога круізу прадстаўнікоў „нового мышления" за кошт сродкаў, выдзеленых для чарнобыльцаў, з'яўляецца толькі дапаўняльным доказам усёй амаральнасці існуючай сістэмы. Дзеля таго, каб стварыць фінансавы і інфармацыйны вакуум вакол арганізацыі „Дзеці Чарнобыля" Беларускага Народнага Фронту, было створана на паперы яшчэ некалькі арганізацыяў з такой назвай. А ў газеце „Беларус" у Нью-Ёрку (люты 1990) была змешчана аб'ява, заклікаючая перасылаць долары для „Дзяцей Чарнобыля" на адрас: Мінск, вул. Кірава 17, гэта значыць, на адрас размяшчэння Мінскага абкома КПСС... Каментарыі, як кажуць, лішнія.

Разам з дэзінфармацыяй пра дзейнасць арганізацыі працягваюцца няспынныя рэпрэсіі супроць яе членаў. Пасля таго, як дзецям Слаўгарадскага, Веткаўскага і Хойніцкага раёнаў было бясплатна раздадзена 15 тон дыетэтычнага харчавання, супроць аднаго з актывістаў камітэта „Дзеці Чарнобыля" ў Слаўгарадзе была ўзбуджана крымінальная справа з абвінавачаннем у крадзяжы 3 тон дзіцячага харчавання з мясцовай крамы. Уся абсурднасць гэтага абвінавачання ў тым, што падобнае харчаван-



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012

не ніколі ў Слаўгарад не паступала, ды і як жа адзін чалавек можа забраць з сабою 3 тоны? Аднак „власть имущие" замест простай логікі карыстаюцца дактрынай доктара Гебельса: „Чым больш неверагодная хлусня, тым большая верагоднасць, што ў яе паверацъ".

На пастулатах хлусні і гвалту трымаліся і трымаюцца ўсе камуністычныя сістэмы на свеце. (Мне могуць запярэчыць. А як ацаніць шляхетны жэст таварыша Фідэля, які запрасіў на Кубу дзесяць тысяч чарнобыльскіх дзяцей з Беларусі і Украіны? Трэба аддаць належнае дыктатару Фідэлю, такую заяву мог зрабіць толькі чалавек, які дасканала вывучыў камандна-адміністратыўную сістэму. Ён у прынцыпе нічым не рызыкаваў, і мог бы назваць лічу ў сто разоў большую, дасканала ведаючы, што прывезці чартэрнымі рэйсамі і потым забраць 10 000 дзяцей для краіны, дзе самалёты прастойваюць з-за адсутнасці паліва, а пасажыры з-за адсутнасці самалётаў, папросту немагчыма. Так што гэтая прапагандысцкая штучка была выкінута з мэтай даць у рукі артадаксальных кансерватараў у Вярхоўным Савеце СССР козырнага туза на выпадак, калі дэмакраты паспрабуюць блакаваць пастаўку нафты, без якой рэжым Кастра працягне ногі).



Прамянёвая хвароба ў СССР практычна невылечная. Не хапае лекараў спецыялістаў, апаратуры, медыкаментаў... Фота К. Войткі.



© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Пытанне аб упадку гэтых сістэм ,створаных на сталінскі капыл, ужо стаіць на парадку дня.

Але дзеля таго, каб дэмантаваць наладжаную сталінскую машыну прыгнёту і рабства ў яе беларускім варыянце, не хопіць адно намаганняў Беларускага Народнага Фронту. Толькі ўвесь народ, устаўшы з каленяў, здольны спыніць бесчалавечныя дзеянні камунізму. Толькі тады, калі замест пытальніка ў назве гэтага артыкула будзе пастаўлена кропка, можна будзе сказаць:

— Народ уваскрос!

— Сапраўды ўваскрос!

І галоўны шлях, які вядзе да ўваскрашэння народу, гэта шлях да незалежнасці Беларусі.

### З новымі ідэямі, да новага жыцця

Незалежнасць для Беларусі з'яўляецца не рамантычнай ідэяй тыпу „свабода дзеля свабоды", а галоўным і вырашальным крокам да ўратавання нацыі. Толькі незалежная рэспубліка можа патрабаваць вываду ўсіх ядзерных ракетных базаў (на тэрыторыі Беларусі, складаючай каля 4% агульнасаюзнай тэрыторыі, распаложана 40% ядзерных ракетных арсеналаў СССР).

Толькі незалежная Беларусь можа прыйсці ў агульнаеўрапейскі дом, першай на свеце, адмовіўшыся ад стварэння і ўтрымання арміі. Навокал няма агрэсіўна настроеных суседзяў, дый каму акрамя нас саміх патрэбны атручаныя Чарнобыльскім попелам землі. Быць без арміі не азначае быць слабой і залежнай дзяржавай. Бо толькі моцны чалавек можа дазволіць сабе знаходзіцца сярод узброеных без зброі.

Толькі моцны духам народ можа дазволіць сабе адмовіцца ад арміі. Дарэчы, часовая забарона стварання арміі дапамагла ў свой час Японіі аказаць эфектыўную дапамогу ахвярам ядзернай бамбардзіроўкі Хірасімы і Нагасакі. У нас таксама няма іншага шляху, бо ж кожная тысячная доля ашчаджанага нацыянальнага даходу — гэта чыесьці ўратаваныя жыцці. Дзеля захавання ўнутрыдзяржаўнай бяспекі зусім дастаткова нацыянальнай гвардыі і рэкамендаванай праз ААН дывізіі паветрна-дэсантных войскаў.

Вывад з тэрыторыі Беларусі ўсіх ракетных базаў і велізарнай колькасці звычайнага войска зменіць палітычны клімат у Еўропе. Дазволіць на значнае памяншэнне вайсковага бюджэту як блоку НАТА, так і суседнім краінам. Пры добрай волі урадаў гэтых краін частка сродкаў можа быць перададзена для аказання дапамогі пацярпелым ад Чарнобыльскай катастрофы. Краіна, на тэрыторыю якой выпала 70% радыеактыўных асад-



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

каў ад Чарнобыля, не можа быць сябрам адных і ворагам іншых. Чарнобыльская бяда сама падказвае палітычны статус Беларусі як нейтральнай дзяржавы. Маецца на ўвазе нейтралітэт, як часовы крок, да стварэння агульнаеўрапейскіх сілаў бяспекі, з аб'яднанымі ўзброенымі сіламі Еўропы. Але ўсе гэтыя ідэі можна прывесці ў жыццё толькі пасля аб'яўлення незалежнасці. Прытым, наступствы такога кроку былі б менш цяжкімі, чым для Літвы. У гэтым выпадку задзейнічаў бы статус Беларусі як члена ААН, згодна з якім эканамічную блакаду можна аб'явіць у выпадку згоды 2/3 дзяржаваў-членаў Савета Бяспекі ААН. Так што незалежнасць — рэальная, хаця, праўда, пасля праведзення свабодных выбараў у Вярхоўны Савет рэспублікі, на аснове шматпартыйнасці і дэмакратычнага Закону аб выбарах.

На беларускім народзе ляжыць вялікая адказнасць як за свой уласны лёс, так і за будучыню ўсяго чалавецтва. Амаль сто гадоў таму, у 1898 годзе ў Мінску, адбыўся першы з'езд партыі, якая сёння называецца КПСС. Дык вось, неабходна зрабіць усё, каб яна тут і была пахавана. Без пышных пахавінаў, жалобных прамоваў і вянкоў, але з пачуццём глыбокай задаволенасці ад пахавання нябожчыцы.

*Алесь Галькевіч — член Управы Беларускага Народнага Фронту »Адраджэнне«, каардынатар камітэту „Дзеці Чарнобыля" пры БНФ. Змешчаны ў »Календары« артыкул з'яўляецца перакладам тэксту на расейскай мове (Рэд.).*

**ЛЯВОН ТАРАСЕНКА**

## БЕЛАРУСКАЯ ХІРАСІМА

Дзень 26 красавіка 1986 г. назаўсёды ўвойдзе ў гісторыю Беларусі, Украіны, усяго свету. Чарнобыль. Нават цяпер, праз 4 гады, цяжка ацаніць страты ад уздзеяння радыяцыі на жывучых сёння, на будучыя пакаленні. Чалавецтва яшчэ не сустракалася з трагедыяй такога маштабу, віноўнікамі якой былі б самі людзі...

Што і чаму здарылася ў ноч з 25 на 26 красавіка? Пачыналася ўсё вельмі проста. Вырашылі правесці эксперымент, дарэчы, патрэбны эксперымент па адпрацоўцы дзеянняў у выпадку адключэння электрычнасці ў зоне рэактара — усё можа быць, раптам лопнуць электрычныя кабелі, што падаюць сілкаванне сістэмы забеспячэння самога рэактара...

Потым, пры аналізе прычыны аварыі (дакладней, катастрофы) спецыялісты скажуць, што яна стала магчымай у выніку неверагоднага збегу некалькіх акалічнасцяў, кожная з якіх паасобку магла стаць прычынай. Так што галоўная прычына — поўная некампетэнтнасць, падмацаваная бестурботнасцю (забягаючы наперад, скажу, **што пасля выбуху і разбурэння** рэактара ў персанала не было дазіметраў, каб дакладна памерыць узровень радыяцыі!). Усё гэта вынік нашай сістэмы гаспадарання („гром не грымне — мужык не перахрысціцца") і адукацыі, калі замест тэхнічных ведаў галовы будучых інжынераў набівалі неіснуючымі ў цывілізаваных грамадствах „навукамі": „палітэканомія сацыялізму", „навуковы камунізм" і г. д.

У 1 гадзіну 23 хвіліны 40 секундаў 26 красавіка начальнік змены блока А. Акімаў нарэшце ўцяміў, што трэба пільна заглушыць сам рэактар, бо з эксперыментам перабаршчылі. Ён націснуў кнопку аварыйнай аховы з мэтай, каб графітавыя стрыжні ўвайшлі ў спецыяльныя каналы. Графіт паглынае „лішнія" нейтроны і не дазваляе



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

празмерна разагрэцца рэактарнаму ядзернаму паліву. Стрыжні графіту апусціліся толькі на 2.5 метры замест 7 і... зачапіліся. А. Акімаў адключыў маторы, каб стрыжні зваліліся ўніз пад уздзеяннем сваёй вагі. Але было ўжо позна. У рэактары пачалося празмернае ўтварэнне перагрэтай пары, каналы для стрыжняў дэфармаваліся. Пачаўся абсалютна некантраляваны разагрэў рэактара. Пад уздзеяннем тэмпературы пара пачала раскладацца на вадарод і кісларод. У 1 гадзіну 23 хвіліны 58 секунд канцэнтрацыя вадароду ў грымучай сумесі дасягнула крытычнай адметкі. Выбух. Яшчэ выбух. Колькі іх было, цяпер сказаць цяжка: кажуць — два, тры, а то і больш. Па сутнасці, рэактар і пабудовы былі знішчаны серыяй выбухаў грымучай сумесі (а зусім не ў выніку ядзернага выбуху, як многія абывацелі думаюць). Частка актыўнай зоны рэактара расплавілася, а потым выпарылася. Выбухам грымучай сумесі яе выкінула ў атмасферу. Слуп вогнішча быў вышэйшы, чым вентыляцыйны комін, г. зн. больш, чым 170 метраў.

Менавіта ў той час вецер дзьмуў у бок паўночнага захаду, у бок Беларусі і далей Прыбалтыкі, Скандынавіі...

А беларусы спакойна спалі. Ды што беларусы... Зноў заснулі тыя жыхары г. Прыпяці, што прачнуліся ад страшных выбухаў. Гэта яшчэ нічога. Некалькі хлопцаў сядзелі і ўсю ноч лавілі жыўцоў у адлегласці 200 метраў ад катастрофы. Яны яшчэ бачылі як адзін з пажарнікаў залез на адметку вышэй рэактара і глядзеў проста ў жэрла... Что и не снились нашим мудрецам...

Што ж было потым? Тры гады маны, хлусні і сакрэтнасці. Ведама ж, галоснасць была яшчэ немаўляткам.

Першае, што прыйшло ў галаву кіраўнікам АЭС — рэактар цэлы!!! Трэба ліць ваду ў актыўную зону, ахалоджваць яе. І тоны вады ляцелі ў неба, падымаючы з сабой мірыяды часцінак радыёнуклідаў. Вакол станцыі валяліся кавалкі графіту. Здаецца, не з неба ж ён зваліўся, а з рэактара выкінула. Не-не, гэта, мабыць, запасны графіт раскідала. Такая лухта пайшла ў Маскву. Раніцой усё ж такі дырэктар АЭС Бруханаў запытаў у Масквы „дабро" на эвакуацыю Прыпяці, аднак Шчарбіна даў загад: „паніку не падымаць". Дзеці пайшлі ў школу... Субота. Малыя гуляюць у пясочніцах. Праўда, апоўдні пачалі мыць горад.

Самыя дапытлівыя паехалі на роварах бліжэй, глядзець як гарыць рэактар (пазней у іх развінецца цяжкая форма прамянёвай хваробы). Адгулялі 16 вяселляў. Камсамольскіх. А пад вечар скончалася вада (і дзякуй Богу) на АЭС.

Толькі позна вечарам 26 красавіка прыехаў намеснік прэм'ера Шчарбіна. Усё-такі ж „высветлілася" нарэшце, што рэактар не цэлы... Рашылі эвакуацыю Прыпяці правесці апоўдні 27 красавіка, у нядзелю. Аб'явілі, што нічога не браць з сабой, ад'язджаюць на тры дні. Некаторыя нават ашчадныя кніжкі не захапілі — яны ўжо ніколі не вернуцца ў Прыпяць...

А 6 мая той жа Шчарбіна на прэс-канферэнцыі скажа, што ў раёне аварыйнага блока радыёактыўнасць складае 15 мілірэнтген у гадзіну. На самай справе радыёактыўнасць была як мінімум у сто тысяч, а ў некаторых месцях у адзін мільён большая!!!

Увесь свет у той жа самы дзень ведаў, што ў Чарнобылі здарылася жахлівая катастрофа. А ў нас, як памятаем, „реактор цел". Мана працягвалася. У нядзелю 28 красавіка ў Мінску прайшоў цёплы дождж. А ў панядзелак людзі, прыйшоўшы на працу, даведаліся, што па чутках напярэдадні ў Мінску выпаў радыеактыўны дождж. Чуткі чуткамі, а Першамай справілі як мае быць, з дэманстрацыямі, і не толькі ў Мінску, але і ў Гомелі. Толькі 5 мая аб'явілі аб эвакуацыі з 30-кіламетровай зоны, куды папалі часткі раёнаў Гомельскай вобласці. Астатнія, зразумела, у норме...

Аб „разуменні"' сітуацыі кіраўнікамі рэспублікі сведчыць інтэрв'ю міністра аховы здароўя БССР М. Я. Саўчанкі („Советская Белоруссия", 22. 05. 86), дзе ён гаворыць: „Делая расчеты для всего населения республики, от самых неблагополучных деревень до Минска, мы не видим ни в одном случае превышения допустимого уровня".

„В настоящий момент обстановка в республике вполне нормальная, во всех районах Гомельской области ведутся сельхозработы. Повсеместно наблюдается выраженная тенденция к снижению радиационного фона, и сегодня можно говорить о безопасном уровне на всей территории, за исключением зоны отселения".

Вось так, усё добра, цудоўна, маркіза.

Забягаючы наперад, скажам, што потым праз колькі год народ даведаецца пра вёскі Чудзенічы і Малінаўку даволі далёка ад Чарнобыля, дзе забруджанасць нуклідамі была звыш 140 кюры на квадратны кіламетр. Але гэта стане вядомым праз тры гады, а тады, вясной 1986 г., усё было добра, была тэндэнцыя да зніжэння фону. (Сёння былы міністр аховы здароўя ўзначальвае Таварыства міласэрнасці — ці не насмешка?).

Беларусы, як вядома, законапаслухмяны народ. У яго выхавалі (ці выхавалі?), дзякуючы элементарнаму адстрэлу ў міжваенны перыяд, паважныя адносіны да афіцыйнага друку. Раз пішуць начальнікі, значыць, так яно і ёсць. І жылі, бо не ведалі.




© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

А потым неяк прывыклі, прызвычаіліся, што Чарнобыль — гэта бяда братняга украінскага народу. Так пішуць, ды і зноў жа, ён на Украіне знаходзіцца. І толькі амаль што не праз 3 гады, 20 сакавіка 1989 г. газета „Правда" выпрашыла сказаць трохі праўды і прыадкрыла заслону таямнічасці. Ажно высветлілася, што каля 75% найбольш забруджанай тэрыторыі прыходзіцца ... на Беларусь! Гэтая „навіна" выклікала амаль што не шок у грамадскасці краю. Ды і было ад чаго. Праз тры гады мы даведаліся, што каля 1/5 ворнай зямлі забруджана ў такой ступені, што становіцца праблематычным атрыманне адносна чыстай сельскагаспадарчай прадукцыі.

А ў маі 1989 г. нарэшце надрукавалі карту рэспублікі, дзе адзначана зона рызыкоўнага збору грыбоў, а гэта каля паловы тэрыторыі. А дзе ж грыбы 1986, 1987, 1988 гг..? Аказваецца, з'елі...

Між тым, ужо 2 мая урадавай камісіі была прадстаўлена Дзяржгідраметам першая карта забруджнасці радыёнуклідамі ў радыусе 100 кіламетраў ад месца катастрофы, але ўрад палічыў мэтазгодным трымаць звесткі пад спудам. Чаму? Адказ аказваецца вельмі просты. Каб адцягнуць рашэнне праблемы як мага далей, то і сама рассасецца. Безадказнасць кіраўнікоў як у Маскве, так і ў Мінску мяжуе са злачынствам. Цяпер, праўда, яны робяць так, каб перакласці частку адказнасці на вучоных. Маўляў, яны не могуць дагаварыцца ніяк, добра ці дрэнна атрымаць 35 бэр за жыццё.

Як ні дзіўна на першы погляд, але канцэпцыю „35 бэр за жыццё" пачало прабіваць і бараніць усімі сіламі... Міністэрства аховы здароўя СССР (зразумела, і БССР таксама, бо субардынацыя ў медыкаў, як у войску). А аўтарамі з'явіліся акадэмікі з Інстытута біяфізікі згаданага вышэй міністэрства, у прыватнасці, акадэмік Ільін.

Тут наогул многа яшчэ няяснага. Здавалася б, медыкі павінны быць самымі паслядоўнымі змагарамі за здароўе насельніцтва, самымі жорсткімі кантралёрамі, калі размова заходзіць аб нормах радыёактыўнага забруджання, якія забяспечылі б больш-менш нармальнае пражыванне.

А тут атрымалася зусім наадварот. Напрыклад, у маі адразу пасля катастрофы, былі ўстаноўлены часовыя (да якога часу, цікава?) нормы для шчыльнасці забруджання глебы па цэзію-137 — 7.0 кюры/км². Але ў хуткім часе лічба павялічылася да 15 кюры і адразу зона „бяспечнага" пражывання значна пашырылася. Ці была тут на памяці галоўных нашых лекараў думка аб сваім абавязку — здароўі людзей ?Безмоўна, не! Галоўнай прычынай была спроба як мага больш сэканоміць грошай, бо што там казаць пра 15 кюры, калі чатыры гады не адсялялі насельніцтва нават з вёсак Чудзенічы і Малінаўка, што ў Магілёўскай вобласці, дзе шчыльнасць забруджання па цэзію ажно 140 кюры/км².

Карацей, праблема наступстваў Чарнобыльскай катастрофы — гэта безадказнасць праектантаў і эксплуатантаў станцыі дзесяцікроць памножаная на разгубленасць „адказных"' таварышаў на месцах і ў Маскве ў першыя дні і месяцы, на сквапнасць цэнтральных уладаў, на мяккацеласць і некампетэнтнасць „спецыялістаў" з Міністэрства аховы здароўя.

І вось Беларусь, якая ні сном ні духам не мела ніякага дачынення да Чарнобыля, нацярпела больш за ўсіх. Здавалася б, рэспубліканскае кіраўніцтва павінна было з самага пачатку заняць непрымірымую пазіцыю ў адносінах да націску з Масквы: бараніць свой народ. У 1986 г. у кіраўніцтва БССР у гэтым сэнсе былі і чыстыя рукі, і чыстае сумленне. Аднак, цуду-пераўтварэння не адбылося. Бо шаноўны пан Слюнькоў не быў і не адчуваў сябе кіраўніком і прадстаўніком беларускага народу. Яго Масква паставіла, яго Масква і забрала ў хуткім часе на павышэнне ажно ў Палітбюро ЦК КПСС. Дзе там рупіцца аб беларусах, калі такія авансы свецяць. А як пан, так і чэлядзь. У выніку — мясцовыя ўлады станавіліся з кожным днём яшчэ большымі заложнікамі прыгоннай сістэмы. А ў гістарычным кантэксце, я ўпэўнены, саўдзельнікамі злачынства супраць свайго народу, ахвярамі ўласнага даверу да сваіх уладароў.

Памеры мажлівай трагедыі народу цяжка ацаніць. Некаторыя ракавыя захворванні павінны пачасціцца праз 6-10 год пасля уздзеяння павышанай радыяцыі, некаторыя праз 15-20 год. Самае жахлівае ў тым, што зрабіць тады што-небудзь будзе ўжо немагчыма. Хіба што спадзявацца на цуды будучай медыцыны...

І безумоўна, рашучыя, хоць і датклівыя, меры ў першыя месяцы пасля катастрофы змаглі б у дзесяткі, калі не сотні, разоў паменшыць наступствы катастрофы на ЧАЭС.

Аб „актыўных" дзеяннях службы аховы здароўя і органаў улады лепш за ўсё сведчаць даныя па дозе апрамянення, „схопленай" дзякуючы ёду-131. Яго перыяд напаўраспаду — 8 дзён, гэта значыць, што асноўная доза атрыманая арганізмам на працягу першых тыдняў. Дык вось, дозу больш 100 бэр атрымала каля 30 тысяч чалавек, 30-100 бэр — каля 160 тысяч, а звыш мільёна — да 30 бэр. Гэта даныя, прыведзеныя адным з праводнікаў лініі акадэміка Ільіна на Бе-



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

ларусі — акадэмікам Манцюхіным. Наколькі яны могуць выклікаць давер? Думаю, з папраўкай — трэба памножыць гэтыя лічбы ў 2-3 разы, бо ведаючы ўзровень абсталявання сучаснай тэхнікай „каманды" Мацюхіна, цяжка спадзявацца на іншае.

Нягледзячы на мажорныя заявы „ахоўнікаў" здароўя ў першыя гады пасля аварыі, прычын для неспакою не толькі не паменшылася, але і наадварот. Зараз ужо нават высокапастаўленыя чыноўнікі пачынаюць прыводзіць пад націскам грамадскасці некаторыя лічбы аб узрастанні колькасці захворванняў, асабліва сярод дзяцей. Хаця да поўнай, праўдзівай статыстыкі яшчэ далёка.

Нарэшце, колькі слоў наконт таго, чаму Чарнобыльскую катастрофу называюць Беларускай Хірасімай.

Па афіцыйных звестках, з рэактара было выкінута каля 3% ядзернага паліва, што адпавядае 60 кг высокарадыеактыўных рэчываў. Для параўнання, у выніку выбуху атамнай бомбы над Хірасімай стварылася толькі 740 г радыеактыўных адыходаў. Гэта азначае, што чарнобыльскі выбух адэкватны выбуху 90 бомбаў той моцы, што хірасімская. Зразумела, трэба ўлічыць, што ў першым выпадку не было такога моцнага выпраменьвання святла і ўдарнай хвалі.

Зноў жа ўзнікае пытанне, адкуль узяліся тыя 3%? А ні адкуль, высмактаны амаль што не з пальца. Справа ў тым, што гэтая лічба ацэненая на аснове даных, якія выдала машына на 10 хвілін да выбуху грымучай сумесі вадароду і кіслароду, бо машына вельмі доўга лічыць. Так што, безумоўна, за тыя 10 хвілін актыўная зона, што расплавілася і была вынесена вонкі з рэактара, была значна большая. Сёння многія спецыялісты лічаць, што было выкінута да адной трэці ядзернага паліва. Так што гэтае пытанне, здаецца, назаўсёды застанецца без адказу, бо рэшткі, што ляжаць у рэактары, ніхто не ўзважыць.

*Лявон Тарасенка — віцэ-прэзідэнт Беларускага экалагічнага саюзу. Тэкст напісаны спецыяльна ў »Каляндар« (Рэд).*

## ГІСТАРЫЧНАЕ

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

УЛАДЗІМІР КАЗБЯРУК

## ВЕЛІЧ ЗДЗЯЙСНЕННЯЎ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

З кожным годам, з кожным дзесяцігоддзем мы ўсё больш выразна ўсведамляем веліч здзяйсненняў нашага першадрукара Францішка Скарыны. Жыў ён у XVI стагоддзі, а вось вывучаць яго дзейнасць па сутнасці пачалі толькі ў XIXст., прытым не беларускія, а польскія і рускія вучоныя. Беларускія даследчыкі звярнуліся да яго спадчыны ўжо ў нашым стагоддзі.

Сёння мы шмат ведаем пра Скарыну — і тое, што ён вучыўся ў Кракаўскім універсітэце, і што ў лістападзе 1512 г. бліскуча здаў у Падуі экзамен на высокую навуковую ступень „у лекарскіх навуках доктара", і што ў 1517-1519 гадах разгарнулася яго друкарская дзейнасць у Празе, а ў 1522 і 1525 гадах — у Вільні. І шмат іншых вестак — больш і менш значных — дайшло да нас.

Але і да сённяшніх дзён у жыцці і дзейнасці славутага палачаніна застаецца багата так званых „белых плям". Які быў лёс Скарыны паміж 1506 і 1512 гадамі — практычна нічога не ведаем. Стаў ён за гэты час „у вызваленых навуках доктарам". Але дзе і як — мы толькі можам рабіць здагадкі.

У адным з пратаколаў апошняга падуанскага экзамена называецца ён сакратарам караля „Datiae". І пачалі даследчыкі шукаць яго сляды ў Даніі (што зусім апраўдана) і ў Дакіі, не надта думаючы пра тое, што яна існавала ў Еўропе толькі ў пачатку нашай эры, больш чым за тысячу гадоў перад Скарынам. Нейкім апраўданнем, магчыма, можа служыць тая акалічнасць, што ў XV-XVI стагоддзях друкаваліся карты Клаўдзія Пталамея, на якіх можна было знайсці і Дакію. Але самі гэтыя карты былі створаны ў II стагоддзі.

Загадкай для нас усё яшчэ з'яўляецца і год нараджэння, і год смерці Скарыны. Мы не можам даць адказы і на шматлікія іншыя пытанні. (...)



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Францішак Скарына быў выхадцам з купецкага асяроддзя. Купецтва, як наогул мяшчанства, у тым ліку рамеснікі, прадпрыймальнікі, уяўлялі сабой, бадай, найбольш дынамічную сілу грамадства, што развівала вытворчасць, рухала прагрэс ва ўсіх галінах чалавечай дзейнасці, ажыццяўляла шырокі абмен таварамі, ідэямі, матэрыяльнымі і духоўнымі каштоўнасцямі, прытым не толькі ў межах аднаго горада, рэгіёна, але і ў найбольш шырокім міжнародным маштабе. Купец ішоў да суседніх народаў не з мячом, не з агнём, а з вынікамі працы чалавечых рук і дасягненнямі чалавечага розуму.

(...)

Нам сёння лёгка, а то і выгадна, нават модна, гаварыць пра так званую гістарычную абмежаванасць тагачаснай буржуазіі, гараджан, рамеснікаў. Але забываем, якую закасцянелую дагматычную ідэалагічную сістэму, што быццам ішла ад самога Бога, даводзілася ім пераадольваць і ламаць у змаганні за свае правы, колькі намаганняў трэба было, каб выламацца з-пад неабмежаванай улады свецкіх і царкоўных феадалаў.

З рук царкоўнікаў паступова забіралася права на прапаганду слова божага, а затым і на адукацыю ў больш шырокім сэнсе. Непахісны аўтарытэт Бібліі пачаў выкарыстоўвацца, каб падмываць тыя асновы феадальнага ладу, што цэлымі стагоддзямі ўяўляліся непарушнымі. А для гэтага Свяшчэннае пісание перакладалася на зразумелую народу мову. І Скарына — па ўсім відаць, католік — палічыў патрэбным і найбольш пажаданым выдаць Біблію для праваслаўнага насельніцтва, прызначаючы яе найбольш шырокім слаям тагачаснага грамадства. І даць усяму сваё тлумачэнне. І шукаў свайго чытача ў асяроддзі найбольш актыўнай часткі грамадства.

(...)

Нам яшчэ трэба асэнсаваць належным чынам тую акалічнасць, што Скарына друкаваў і пашыраў Біблію на даступнай народу мове. Гэта мела важнае ідэйнае значэнне, таму што давала чытачам магчымасць самім даведацца пра тое, што ў Свяшчэнным пісанні прапаведалася і што ад верных патрабавалася. А гэта значыць — і пабачыць тую рэальную бездань, што аддзяляла словы царкоўнікаў ад іх рэальных спраў.

Скарына сваёй дзейнасцю ніколі не падрываў асноў хрысціянскага веравучэння, норм маралі, і рабіць яго больш прагрэсіўным, чым ён быў на самай справе, нам няма патрэбы. Можна нават сказаць, што ён імкнуўся ўзняць на належную вышыню тое высакароднае, што ў Бібліі можна было знайсці. Разглядаючы яе як крыніцу ведаў, як навуку ўсіх навук, першадрукар змагаўся пры яе дапамозе за выхаванне ў „людей посполитых" найбольш высакародных грамадзянскіх і чыста чалавечых пачуццяў і норм паводзін: патрыятызму, абавязку людзей перад грамадствам, павагі да чалавека, непрымірымасці да несправядлівасці, крыўды, прыгнёту. Са школьнай парты мы памятаем, з якім пафасам Скарына праслаўляе патрыятычнае пачуццё ў прадмове да „Книги Иудиф-вдовици": „Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по возьдуху, ведають гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих, — тако и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають"[1].

(...)

Што датычыць гэтага славутага выказвання Скарыны пра звяроў, птушак, рыб і пчол, то тут адгадваецца пераасэнсаванне слоў з Евангелля ад Матвея: „... Лісы маюць норы, і птушкі нябесныя гнёзды, а Сын Чалавечы не мае дзе схіляніць галаву" (8, 20). У Скарыны яно перарасло ў разгорнуты паэтычны вобраз, напоўнены глыбокім патрыятычным зместам. Любоў да роднага гнязда, да родных вытокаў — тое пачуццё, з якім усё жывое — і тым больш чалавек, як разумная істота — прыходзіць на свет. І мы пераконваемся, як Скарына пры кожнай аказіі з гонарам падкрэсліваў, што ён паходзіць са слаўнага горада Полацка і што ён — Скарынін сын. Не проста „доктар", не проста „учитель", а яшчэ і сын свайго бацькі.

Але людзі не толькі да таго месца, „игде зродилися и ускормлены суть по бозе", „великую ласку", „имають" і берагуць. Скарына паказвае прыклад, як трэба ганарыцца і роднай мовай. І засведчыў ён гэта ў самай першай сваёй прадмове — да Псалтыра: „И видечи таковые пожитки (карысці — У. К.) в так малой книзе, я, Францишек, Скоринин сын с Полоцька, в лекарских науках доктор, повелел есми Псалтырю тиснути рускими словами а словенским языком напред ку чти и похвале богу в троици единому и пречистой его матери Марии, и всем небесным чином и святым божьим, а потом к пожитку посполитого доброго, наболей с тое причины, иже мя милостивый бог с того языка на свет пустил"[2]. Вось з якой пашанай у адным і тым жа сказе Скарына ўпамінае і свайго бацьку, і родны горад, і Бога „в троици единого", і Божую Маці Марыю, і ўсіх нябесных чыноў, і сваю родную мову.

(...)



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Для самога Скарыны галоўным аказалася пачуццё не рэлігійнае, а тое, што мы сёння назвалі б нацыянальнай прыналежнасцю. У тую эпоху сапраўдны патрыятызм выяўляўся ў рараце за сваю мову, якую з цяжкімі намаганнямі трэба было ўводзіць замест ці лацінскай, ці царкоўнаславянскай. Для Францішка Скарыны пытанне аб мове з'явілася адным з галоўных, якія яму давалося вырашаць, прыступаючы да здзяйснення сваёй задачы. Ад гэтага ў найбольшай ступені залежала пытанне аб тым, каму яго кнігі будуць адрасавацца.

Тады якраз адбываўся інтэнсіўны працэс фарміравання беларускай народнасці, і зварот да роднай мовы, хоць нават і не ў саміх перакладах, а ў прадмовах, пасляслоўях, каментарыях да кніг Свяшчэннага пісання, — адна з праяў гэтага працэсу.

(...)

У цэлым, бадай, можна згадзіцца з тым, што мова перакладаў Скарыны — у аснове сваёй царкоўнаславянская, але з выразнымі ўплывамі беларускай і іншых моваў. Як прызнаваў сам Скарына ў прадмове да Псалтыра: „Повелел есми Псалтырю тиснути рускыми словами а словенским языком". „Словенский язык" — гэта тая мова, на якой пашыраліся кнігі Свяшчэннага пісання.

Аднак Скарына ведаў, што гэтая мова, далёкая ад жывой, народнай, многім чытачам акажацца незразумелай. І ён паклапаціўся аб тым, каб зрабіць тэкст кнігі больш даступным нават непадрыхтаванаму чытачу: „... Положил есми на боцех некоторыи слова для людей простых, не рушаючы самое Псалтыри ни в чем же..."[3].

Такія пераклады „на боцех", каментарыі, а таксама прадмовы і пасляслоўі рабілі царкоўнаславянскія тэксты біблейскіх кніг зразумелымі, стваралі ўмовы для іх значнага пашырэння. З цягам часу беларускіх элементаў станавілася ў кнігах Біблії ўсё больш. Што ж датычыць прадмоў і пасляслоўяў, то яны напісаны на тагачаснай беларускай мове.

(...)

У часы Скарыны ішоў працэс фарміравання, выпрацоўкі норм уласна беларускай пісьмовай мовы. І ўжо XVI і тым больш XVII стагоддзі пакінуць нам у спадчыну тыя помнікі, пра якія Францішак Багушэвіч скажа: „Чытаў я ці мала старых папераў, па дзвесце, па трыста гадоў таму назад пісаных... у нашай зямлі, а нашай мовай чысцюсенькай, як бы вот цяпер пісалася".



Праўда, пра мову Скарыны так яшчэ не скажаш. Але першадрукар усёй сваёй дзейнасцю — перакладчыцкай, аўтарскай (прадмовы, што нагадваюць часта публіцыстычныя творы), друкарскай — даў магутны імпульс гэтаму працэсу.

Сам Скарына яшчэ, бадай, не звязваў праблем мовы і роднага слова з праблемамі нацыянальнай свядомасці, аднак ён ганарыўся сваім паходжаннем, родным горадам, родным народам („братия моя Русь"), роднай мовай. А пра выяўленне свядомасці нацыі ў слове — перш за ўсё ў мастацкім — ён яшчэ не гаворыць. Затое ж шукае праўды і сумленнасці ў аднолькавай ступені як у слове, так і ва ўчынках людзей. Адзінства слова і справы — адно з галоўных яго патрабаванняў і да тых, каму даверана высокая місія настаўніка, і да тых грамадзян краіны, якім адрасуюцца яго выданні.

Гэта ён пісаў у прадмове да „Паслання Іакава": „Затым не толико словом, але и делом показати веру хрестианскую, к тому обуздовати язык свой, убогыми не гордети, милостыню недостаточным чинити, вера бо без дел мертва ест"[4]. У гэтай жа прадмове звяртае на сябе ўвагу яшчэ адна думка, якую варта падкрэсліць: „Немногым учителем бывати, не более умети язык свой справовати; от него же все злые и добрые речи походять".

Як гэта расшыфраваць з улікам усёй дзейнасці першадрукара? Тут перафразіруюцца словы самога Паслання Іакава: „Браты мае! Не многія рабіцеся вучыцялямі, ведаючы, што мы больш дастанем прысуд" (3, 1).

Інакш кажучы, вучыць суджана нямногім. Затое ж многія павінны, абавязаны ўмець карыстацца сваім „языком", гэта значыць, мовай, хоць у апостальскім пасланні гаворка вядзецца пра сам орган чалавечай мовы: „Гэта і язык — невялікі член, але шмат робіць. Паглядзі, невялікі агонь, а як многа рэчаў запалівае..." (3, 5).

У Скарыны гаворка вядзецца пра мову як выяўленне свядомасці і маралі чалавека, яго духоўнай сутнасці, багацця ці нікчэмнай душы. Вось такім шляхам і раскрываецца грамадская функцыя слова.

(...)

Скарына ставіў перад сабой задачу несці людзям праўду аб „нравех добрых", удакладняючы і расшыфроўваючы: „Наболей о мудрости, о страху господнем, о слове божием, о справедливости, о вере, о любви, о надежде, о чистоте, о службе божией, о долготерпении, о смирении, о милостыни, о крепости, о трезвости, о мерности, о почтивости, о щедроте, о тихости, о дру-



© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

голюбии, о науце закона божия, о послушани родителей своих, о справовании самого себе, о товаристве добром и злом, о похвале мужей святых, о славе царей праведных, о достойности пророков божиих и иншихъ различных многих добрых обычаех и нравех..."[5].

Няхай нас сёння не палохаюць выразы „о страху господьнем", „о слове божием", „о служобе божией" і г.д. Гэтымі выразамі Скарына даказаў, што за ўсімі маральнымі нормамі, якія ён абвяшчаў, стаіць воля божая, а гэта значыць, што яны не могуць парушацца нікім — не толькі „людзьмі паспалітымі", але і тымі, хто мае ўладу. Такім вось чынам асветніцкая дзейнасць першадрукара, нягледзячы на яе знешне рэлігійны выгляд, мела зусім свецкі характар і была накіравана не на прапаганду самой па сабе пакорлівасці перад Богам і перад уладамі, свецкімі ці духоўнымі, а на абгрунтаванне цэлай сістэмы маральных прынцыпаў.

У пачатку XVI ст. Скарына дазволіў сабе, чалавеку свецкаму, урывацца ў кнігі Свяшчэннага пісання, пакідаць у іх не толькі сваё прозвішча, але і партрэт. У прадмовах ён асвятляў тыя праблемы свайго часу, якія яго хвалявалі як грамадзяніна і патрыёта. Інакш кажучы, на Біблію глядзеў скрозь прызму зямных праблем і браў іх ва ўсёй разнастайнасці і супярэчлівасці. Спасылаючыся на „Соборник" цара Саламона і на яго шырокі ахоп жыццёвых спраў, Скарына ўдакладняе: „Понеже в розмаитых речах люди на свете покладают мысли и кохания своя: едины в царствах и в пановании, друзии в богатестве и в скарбох, инии в мудрости и в науце, а инии в здравии, в красоте и в крепости телесной, неции же во множестве имения и статку, а неции в роскошном ядении и питии и любодеянии, инии теже в детех, в приятелех, во слугах и во иных различных многих речах. А тако единый каждый человек имать некоторую речь пред собою, в ней же ся наболей кохает и о ней мыслит"[6].

У сваіх трактоўках Скарына дазваляў сабе перафразіраваць, свабодна трансфармаваць нават найбольш кананічныя і непарушныя тэксты. Ён, напрыклад, у вершаванай форме перадаў славутыя дзесяць запаведзяў:

Первое: Веруй в бога единаго.
Другое: А не бери надармо имени его.
Третее: Помни дни светые светити.
Четвертое: Отца и матку чтити.
Пятое: Не забивай ни едина.
Шестое: И не делай греху блудна.
Седмое: Не вкради, что дружнего.



Восмое: А не давай сведецтва лживого.
Девятое: Не пожедай жены ближнего.
Десятое: Ни имения или речи его.

Пасля такога пераказу Скарына, вядома, даваў і сам тэкст запаведзяў у той форме, у якой яны былі ўзаконены. Але, каб ацаніць належным чынам ступень яго вальнадумства, варта параўнаць, напрыклад, тэкст дзевятай запаведзі з тым кананічным тэкстам, які і сёння перадаецца ў нязменным выглядзе: „Не пажадай дома бліжняга твайго, ні раба яго, ні рабыні яго, ні вала яго, ні асла яго, нічога, што ў бліжняга твайго". Скарына знайшоў спосаб, каб яўна анахранічны тэкст зрабіць больш прымальным.

(...)

Светапогляд Скарыны засноўваўся на рэлігійных догмах. У гэтым сэнсе наш першадрукар не адрозніваўся ад многіх іншых выдатных дзеячаў той эпохі. І тым не менш ён дазваляў сабе крытычны падыход да догмаў ці палажэнняў. У гэтым сэнсе паказальнай з'яўляецца прадмова да кнігі „Леувит Моисеовы". Скарына па сутнасці палемізуе з патрабаваннямі ахвярапрынашэнняў, так як яны даюцца ў Трэцяй кнізе Майсеевай „Левіт". Але робіць гэта не ад сябе, а прыводзячы цытату з Паслання апостала Паўла яўрэям.

Вось як гэтае пасланне гучыць у сучасным беларускім перакладзе:

„Бо закон, маючы будучага дабра, а не самы абраз рэчаў, тымі ж ахвярамі, што прыносяцца кожны год, ніколі не можа зрабіць дасканалымі тых, што прыходзяць (з імі).

Кінулі б прынасіць іх, бо ўжо не мелі б ніякае свядомасці грахоў тыя, што служаць, раз ачышчаныя.

Але ў іх штогоду ўспамін аб грахах, бо немагчыма, каб кроў быкоў ды казлоў знімала грахі".

Звернемся да прадмовы „Зыход". Гэта — Другая кніга Майсеева, а інакш кажучы — другая кніга ўсёй кананічнай Бібліі. Змест яе ў прадмове Скарыны перадаецца наступным чынам: „Пишеть же в сих книгах Мойсей о неволи сынов Ізраилевых, еже работаху во Египте; о нарожении своем и о утекании пред фараоном; яко господь бог явился в купине неопалимой и послал и, абы вывел людей Ізраилевых из Египта; о дивех, еже чинил со жезлом пред фараоном; о десети язвах, иже наведе бог рукою Моисеевою на всю землю Египетскую"[7].

У гэтай жа прадмове Скарына ставіць пытанне: „Что знаменовала ест неволя телесная сынов Ізраилевых во Египте? Не на-



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012

шу ли неволю?" (гэта значыць, духоўную). Так па сутнасці „неволя телесная" магла існаваць да таго часу, пакуль аказвалася непарушнай „неволя душная". Інакш кажучы, сапраўднае вызваленне чалавека немагчымае без вызвалення духоўнага, шлях да якога, на думку першадрукара, ляжыць праз асвету.

У падтэксце скарынінскіх выказванняў часта адчуваецца ўласны аўтарскі погляд на справы. Сам ён нездарма жадаў, „абы братия моя русь чтути лепей разумели". Бо калі ўзнікаюць пытанні спрэчныя або не зусім зразумелыя, дык як іх трэба „розумети", каб слава божая не пацярпела, але і каб быў „пожиток" „люду посполитому"? Каб спалучыць адно з другім? Яшче раз можна паўтарыць, што Свяшчэннае пісанне выкарыстоўваецца першадрукарам для разважанняў аб надзённых праблемах. Вось такое значэнне набываюць скарынінскія тэрміны „духоўнае разуменне" і „духоўнае вызваленне".

У прадмове вельмі дарэчы аказалася аналогія з лёсам ізраільцян ва ўмовах егіпецкага палону і з гісторыяй іх вызвалення. Разважаючы пра біблейскія падзеі, нельга было не задумацца над праблемамі, ад якіх залежаў лёс народа ў эпоху Скарыны. Сам гэты лёс непазбежна звязваўся з ростам і пашырэннем народнага ўсведамлення таго, што мы сёння называем нацыянальнай свядомасцю.

(...)

У выдавецкай дзейнасці Скарыны нам трэба падкрэсліць адзін надзвычай важны аспект. Каталіцкі касцёл вышэй за усё, вышэй за інтарэсы нейкай дзяржавы ці народа ставіў інтарэсы Бога, гэта значыць, Ватыкана. Адзінай мовай, на якой можна было звяртацца да Бога, лічылася лацінская. Яна ж ператварылася ў мову пісьменнасці і навукі для ўсёй Заходняй і Цэнтральнай Еўропы. Доўгія стагоддзі яна глушыла нацыянальныя мовы, закрываючы ім дарогу (хоць не заўсёды) у мастацкую творчасць, дзелавую пісьменнасць, у навуку.

Праўда, ад такой універсальнай функцыі і міжнароднага ўжывання лацінскай мовы была і свая бясспрэчная карысць. Гэтая акалічнасць садзейнічала духоўнаму абмену і ўзбагачэнню народаў, давала магчымасць прадстаўнікам розных краін засвойваць здабыткі ў галіне навукі і культуры розных народаў. І ў той жа час яна моцна затрымлівала рост нацыянальнай свядомасці народаў, абяззбройвала іх духоўна.

Каталіцкі касцёл думкам аб уладкаванні спраў зямных супрацьстаўляў вечнае блажэнства на тым свеце. Звычайны чалавек лічыўся безыменным рабом божым, у якога не павінна і не магло быць нейкіх асабістых інтарэсаў, памкненняў. Ды не толькі асабістых, але і грамадскіх.



© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

А вось у дзейнасці Скарыны ўсё пярэчыла такім патрабаванням царкоўнікаў і безыменным рабом божым ён не збіраўся сябе лічыць, падкрэсліваючы на кожным кроку сваю навуковую, чалавечую і нацыянальнаю годнасць, і нідзе ні разу не выказаў жадання заслужыць сабе рай на тым свеце, а ўсё шчыра клапаціўся пра справы зямныя, пра свой „люд посполитый", пра сваю „братию русь". Бог у яго „милостивый" за тое, што яго „на свет пустил", а не за тое, што можа зноў забраць да сябе. Ні разу нідзе першадрукар не сказаў пра тое, што яго на небе можа чакаць вечнае блажэнства. Усё гэта было сімптаматычным і натуральным у эпоху вызвалення асобы з путаў закасцянелых сярэдневяковых рэлігійных догмаў і ў сваю чаргу садзейнічала абуджэнню чалавечага ў чалавеку, павагі да свайго роднага краю, роднай мовы, да сваіх вытокаў, станаўленню нацыянальнай свядомасці беларусаў.

*Уладзімір Казбярук — кандыдат філалагічных навук, навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН БССР. Тэкст змешчаны са скарачэннямі, зробленымі без аўтарскага ведама (Рэд).*

---

[1] Францыск Скарына і яго час. Энцыклапедычны даведнік. Мінск, 1988 г. — с. 94.
[2] Тамсама — с. 22.
[3] Тамсама — с. 24.
[4] Тамсама — с. 185.
[5] Тамсама — с. 45-46.
[6] Тамсама — с. 51.
[7] Тамсама — с. 108.



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

**АНТОН МІРАНОВІЧ**

# ЦАРКОЎНЫЯ БРАЦТВЫ НА БЕЛАРУСІ

Другая палова XV і XVI стагоддзе — гэта час застою і паступовага заняпаду Праваслаўнай царквы на Беларусі. Наступ каталіцызму, пашырэнне рэфармацыі, з'яўленне на беларускіх землях кальвінізму, лютэранства і пратэстанцтва — такія галоўныя прычыны паслаблення становішча веравызнаўцаў праваслаўя. Спробы паправіць гэтае становішча і правесці рэформы не далі вынікаў, так як і не займела шырэйшага водгуку ў грамадстве (у тым і сярод праваслаўнага вышэйшага духавенства на землях колішняй Рэчыпаспалітай) уздзеянне з боку канстанцінопальскіх патрыярхаў. Пагроза існаванню царквы паявілася разам з прыбыццём сюды езуітаў (60-я гады XVI стагоддзя) і іхнімі намаганнямі ажыццявіць пастановы фларэнтыйскай уніі (1439 г.). Экспансія каталіцызму павялічылася ад часу стварэння праваслаўнай патрыярхіі ў Маскве ў 1589 г. Баючыся ўплыву Масквы, каталіцкі касцёл імкнуўся лацінізаваць тэрыторыю Беларусі. Гэта выявілася ў яго місійнай дзейнасці, у прапагаванні уніі, у перайманні кантролю над асветніцка-культурным жыццём. Адказам на гэта было ўзнікання аб'яднанняў, у якіх гуртавалася свецкае насельніцтва праваслаўнага веравызнання. Адной з формаў такіх аб'яднанняў было царкоўнае брацтва.

Брацтвы паявіліся ўжо ў другой палове XV ст. — не без уплыву заходнееўрапейскіх рамесніцкіх цэхаў, першым жа можна лічыць кушнерскае брацтва, якое заснавалася ў 1460 годзе ў Вільні. Яно мела свой уласны дом і кіравалася сваім статутам. Гэтае аб'яднанне гуртавала праваслаўных і служыла рэлігійна-сяброўскім мэтам. У XVI ст. яго дзейнасць пашырылася яшчэ на абарону інтарэсаў Царквы, змаганне супраць уніі, палеміку з іншымі плынямі рэлігійнай думкі.

Брацтвы выраслі на глебе ранейшых грамадска-рэлігійных супольнасцяў, якія склаліся ў парафіях. У некаторых выпадках царкоўныя супольнасці-брацтвы прыпадобніліся рамесніцкім цэхам. Кіраваліся яны сваімі статутамі, мелі ўласнае брацкае самакіраванне, якое ўзначальваў стараста. Заданнем царкоўных супольнасцяў было дбаць пра патрэбы царквы, духавенства, пра дабрачынную дзейнасць, і таксама адзначаць царкоўныя святы супольным брацкім застоллем. Брацтвы, у асноўным, размяшчаліся ў гарадах. У гарадах, дзе насельніцтва было канфесійна мяшаным, царкоўныя арганізацыі выступалі ў абароне інтарэсаў праваслаўных, як рэлігіных, так і свецкіх. Гэта якраз яны былі трывалай апорай для Царквы ў часы найбольш для яе небяспечныя. Прадстаўнікі брацтваў актыўна ўдзельнічалі ў абнаўленні царкоўнага жыцця, потым у абароне Царквы перад уніяй. Абарона Царквы звязаная была з абаронай культурнай і нацыянальнай самабытнасці.

Найраней узніклі брацтвы пры цэрквах Благавешчання ў Львове і Св. Тройцы ў Вільні. Абодва брацтвы адыгралі важную ролю ў гісторыі Праваслаўнай царквы на тэрыторыі колішняй Рэчыпаспалітай. Іхнія члены спрыялі развіццю інтэлектуальнага і рэлігійнага жыцця, умацаванню нацыянальнай свядомасці. Імпульсам для іхняй дзейнасці сталася заснаваная ў 80-х гадах XVI ст. Астрожская акадэмія. Значэнне брацтва правільна ацаніў антыёхскі патрыярх Іахім, які пад канец 1585 г. наведаў Львоў. Ён рэфармаваў львоўскае брацтва, імкнучыся выкарыстаць яго для адбудовы Царквы і адначасова стварыць узор іншым брацтвам. Брацтва абавязанае было наглядаць за маральнымі паводзінамі і дысцыплінай сваіх членаў, нягодных выключала са сваёй супольнасці. Падобныя правы брацтва мела ў адносінах да праваслаўнага духавенства і членаў іншых брацтваў. Такім чынам брацтвы, якія арганізаваліся паводле львоўскага ўзору, сталіся органамі, кантралюючымі духавенства і вернікаў у справах рэлігіі і маральнасці. Львоўскае брацтва, а потым і віленскае, прывілеем патрыярха Іахіма было ўзнята вышэй праваслаўнай іерархіі. Гэты прывілей быў пацверджаны патрыярхам Ерамеем, які адначасова брацкай царкве і манастыру Св. Ануфрыя надаў права стаўрапагіі, гэта значыць, выключыў іх з-пад епіскапскай улады і падпарадкаваў непасрэдна самому патрыярху.

Неўзабаве брацтвы новага тыпу, паводле львоўскага або віленскага ўзораў, пачалі ўзнікаць на беларускіх і ўкраінскіх землях: у Красным



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Ставе, Рагатыне, Бярэсці, Гарадку, Галагорах, Бельску, Любліне, Галічы, Старой Солі, Магілёве, а ў пачатку XVII ст. у Драгічыне, Дарагабычы, Кляшчэлях, Самбары, Замасці, Камянцы Струмілаўскім. З гэтага відаць, што брацтвы арганізаваліся ў гарадах з канфесійна мяшаным насельніцтвам, дзе выступала найбольшая пагроза лацінізацыі. У брацкай праграме рэформаў адной з важнейшых справаў было памкненне павысіць узровень адукаванасці духавенства і прыхаджан. Дзеля гэтага засноўваліся школы, друкарні, бібліятэкі. Такія школы ўзніклі ў Вільні, Гарадку, Пярэмышлі, Бярэсці, Бельску і Львове. Важнай дзялянкай працы царкоўных брацтваў была дабрачыннасць, да якой абавязвала назва „міласэрныя браты". Брацтвы засноўвалі і ўтрымлівалі прытулкі для бедных, хворых, калекаў і сірот. Дапамагалі збяднелым братам, апекаваліся хворымі, удовамі і сіротамі па памёршых братах.

Важным сваім заданнем брацтвы лічылі апеку над прыхадской святыняй, клопат пра ўтрыманне святароў і царкоўнай прыслугі. Некаторыя брацтвы сваім абавязкам лічылі апеку над царкоўным абсталяваннем, выконванне паслугаў у святыні, напрыклад, устаўлялі свечкі перад іконамі, збіралі ахвяраванні і г. п. Асаблівасцю брацтваў было тое, што існавалі яны толькі на тэрыторыі Рэчыпаспалітай, у іншых краінах царкоўных арганізацыяў такога характару не было.

З цягам часу, у XVII і XVIII стагоддзях, калі пашырылася і замацавалася уніяцтва, брацтвы сталі асноўнымі цэнтрамі, у якіх гуртаваліся самыя актыўныя палітычныя і грамадскія сілы, якія змагаліся за ўтрыманне свае канфесіі. Брацтвы ў Рэчыпаспалітай не былі масавымі арганізацыямі, але ў той жа час яны аб'ядноўвалі самых перадавых людзей эпохі. Праўда, у адрозненне ад брацтваў на Украіне, колькасць іх на беларускіх землях была меншая і грамадскае значэнне нашмат слабейшае, але ўсё ж такі адыгралі яны істотную ролю ў абароне свайго веравызнання ад уніяцкага напору.

Нягледзячы на унію, развіццё брацтваў паслабілася толькі ў першай палове XVIII ст. Націск з боку езуітаў і уніяцкай епархіі давёў да прыняцця уніі на пачатку XVIII ст. і львоўскім стаўрапагіяльным брацтвам. Грэкакаталіцкае (уніяцкае) веравызнанне пашыралася на Украіне. Няма патрэбы шырока тлумачыць, як важнае месца ў Праваслаўнай царкве займае свецкі элемент. Ад яго веры, пазіцыі, маральнасці, актыўнасці залежала, ці ўтрымацца праваслаўю на тэрыторыі Беларусі, Украіны і Польшчы. Брацтвы, хоць колькасна невялікія, у такіх справах, як змаганне за рэлігійную самастойнасць, свабоднае развіццё нацыянальнай культуры, карысталіся падтрымкай шырокіх колаў грамадства.

Царкоўныя брацтвы існавалі і ў пазнейшым часе, хоць іншыя былі ў іх заданні ў XIX і ў пачатку XX ст. ст. Тады яны зноў сталі рэлігійна-сяброўскімі аб'яднаннямі. Адыгралі немалую ролю ў вяртанні назад забраных царкоўных будынкаў і святыняў ды апецы над імі. Яны сталі адыгрываць яшчэ больш важную ролю ў міжваенныя гады, у час новай пагрозы Праваслаўнай царкве. Яны зноў былі вымушаны пачаць змаганне за пазіцыю праваслаўя ў Польшчы. Падтрымлівала іх праваслаўная іерархія. Яны займаліся выдавецкімі справамі, павышэннем узроўню асветы сваіх членаў, забеспячэннем царкоўнага абсталявання, палемікай з каталіцкім асяроддзем, асабліва па пытаннях гісторыі. Вялі дабрачынную дзейнасць, працягваючы традыцыі XVI і XVII стагоддзяў.

*Антон Міранов́іч — доктар гісторыі, даследнік гісторыі праваслаўя. Працуе у беластоцкім філіяле Варшаўскага універсітэта.*




© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

**ХРЫСЦІНА ГАМУЛКА**

## ДЗЕЙНАСЦЬ БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТА ГАСПАДАРКІ І КУЛЬТУРЫ (1926-1937)

Змагаючыся за ўплывы ў гаспадарчай і палітычнай галінах з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадой (БСРГ), Беларускі Сялянскі Саюз дайшоў да паразуменяя з прадстаўнікамі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Вынікам гэтага паразумення было заснаванне ў чэрвені 1926 г. у Варшаве Беларускага Інстытута Гаспадаркі і Культуры. У статуце, зацверджаным Міністэрствам унутраных спраў 7 мая 1926 г., сцвярджалася, што асноўнай мэтай інстытута з'яўляецца развіццё культуры, навукі і асветы, успамаганне сельскай гаспадаркі, прамысловасці, рамесніцтва, народнай вытворчасці, заснаванне фабрыкаў сельскагаспадарчых машын, прапагаванне меліярацыі ў сельскай гаспадарцы, арганізаванне выставак, курсаў, кааператываў, адкрыванне бібліятэк, чытэльняў, музеяў, домаў культуры і г. п. Сваю дзейнасць інстытут намерваўся весці, не кіруючыся ўказаннямі беларускіх палітычных партыяў. У склад першай управы інстытута ўвайшлі: старшыня — Адам Більдзюкевіч, скарбнік — кс. Адам Станкевіч, тэхнічны кіраўнік — Аляксей Назарэўскі. Рэвізійную камісію складалі: сенатары Вячаслаў Багдановіч і Аляксандр Уласаў і пасол Васіль Рагуля. Прэсавым органам інстытута сталася „Сялянская Ніва". Фінансавыя сродкі, неабходныя дзеля заснавання інстытута, удзяліў Амерыканскі Камітэт у Варшаве. Тэрыторыяй сваёй дзейнасці інстытут ахопліваў землі, на якіх пражывалі беларусы, і таму ўжо 26 чэрвеня 1926 г. заснаваўся аддзел БІГіК у Вільні. У склад управы віленскага аддзела ўвайшлі кс. Адам Станкевіч, Вячаслаў Багдановіч, Фабіян Ярэміч, Браніслаў Туронак і Я. Казлоўскі.

Членам Беларускага Інстытута Гаспадаркі і Культуры мог стаць кожны беларус без увагі на партыйную прыналежнасць. Пад канец 1926 г., у сувязі з актывізацыяй Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, галоўная ўправа інстытута, каб пазбегчы кампрамітацыі перад польскімі ўладамі, забараніла прымаць у гурткі БІГіК членаў Грамады. Узніклая сітуацыя, паводле ўправы, пагражала падпарадкаваннем інстытута Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадзе.

Развіццё БІГіК было вельмі хуткае. Да канца 1926 г. арганізаваліся віленскі, радашковіцкі і навагрудскі аддзелы. Пад канец 1927 г. аддзелы інстытута існавалі ў 50 мясцовасцях віленскага і навагрудскага ваяводстваў. Сваю вяршыню лік аддзелаў дасягнуў у 1930 годзе: 69 гурткоў і 36 бібліятэк. Магчыма, што гэта было звязана з выкананнем загаду арцыбіскупа Рамуальда Ялбжыкоўскага, які 10 снежня 1928 г. выдаў абежнік для духавенства, у якім абвінавачваў Беларускую Хрысціянскую Дэмакратыю ў „памылках рэлігійнага індэферэнтызму і бальшавізму" і забараняў католікам удзельнічаць у яе дзейнасці і чытаць партыйную прэсу. Праўда, ксяндзы-беларусы апратэставалі гэтае рашэнне ў Ватыкане, але тымчасова мусілі адмовіцца ад удзелу ў партыйных уладах і пакінуць яўную палітычную дзейнасць, бо апостольская сталіца не адказала на мемарыял.

Падзея гэтая паўплывала на далейшыя перамены ў хрысціянска-дэмакратычным руху. У кіраўніцтва партыі прыйшлі людзі свецкія, а святары абмежавалі сваё супрацоўніцтва да ўдзелу ў асветных, гаспадарчых і культурных згуртаваннях. Адным з іх быў Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.

Увесь час існаванне інстытуту вызначалі фінансавыя сродкі, якія знаходзіліся ў яго распараджэнні. Адной з праяваў дзейнасці БІГіК было ўрачыстае святкаванне ўгодкаў абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі (25 сакавіка 1918 г.). Найбольш урачыстае святкаванне было наладжана ў 10-ю гадавіну абвяшчэння незалежнасці. Прынялі ў ім удзел група Янкі Станкевіча, групоўка А. Паўлюкевіча, прыбылі таксама прадстаўнікі Латвіі і Літвы.

Акрамя арганізавання святкаванняў у гадавіны важных палітычных падзеяў БІГіК урачыста адзначыў 25-годдзе творчасці Янкі Купалы і 30-ю гадавіну смерці Францішка Багушэвіча (1930).

З мэтаю разбуджэння нацыянальнай свядомасці беларусаў інстытут з самага пачатку свайго існавання арганізаваў сустрэчы-лекцыі, прысвечаныя абмеркаванню выбраных пытанняў па гісторыі Беларусі. Спачатку лік гэтых сустрэчаў быў невялікі, і няшмат было ахвотных удзельнічаць у іх. Пераломным аказаўся 1930 год. Калі пабольшылася колькасць членаў БІГіК, то выразна пабольшала дакладчыкаў і слухачоў. Найбольш лекцый (60) прайшло ў 1932 годзе; прысутнічала на іх каля 10 тысяч слухачоў.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

З мэтаю пазнаёміць насельніцтва з беларускім мастацтвам БІГіК арганізаваў тэатральныя спектаклі. У 1928 г. быў створаны Беларускі Народны Тэатр, але яго дзейнасць пасля двух гадоў з-за недахопу фінансавых сродкаў спынілася. Былі зроблены захады дзеля заснавання бібліятэк у кожнай з мясцовасцяў, у якой існавала сядзіба інстытута. Але і гэтае заданне аказалася не пад сілу з-за недахопу памяшканняў, асобаў, якія гэтым заняліся б, а перш за ўсё з-за цяжкасцяў з перасылкай беларускіх кніжак і газет у паасобныя мясцовасці.

Асноўнай дзейнасцю інстытута ў культурна-асветніцкай галіне было змаганне за беларускае школьніцтва. Ужо ў першым годзе свайго існавання інстытут памкнуўся арганізаваць і ўтрымаць дзве пачатковыя школы і пачаў рабіць захады дзеля адкрыцця чатырох наступных. Па ініцыятыве інстытута да польскіх уладаў пасля 1926 г. было накіравана шмат дэкларацыяў з патрабаваннямі адкрыць беларускія школы. Дэкларацыі падпісвала беларускае насельніцтва пад уплывам дзеячоў інстытута. Аднак польскія ўлады адхілялі гэтыя патрабаванні, матывуючы немагчымасць адкрывання школ недахопам адпаведна адукаваных настаўнікаў-беларусаў. Тады інстытут выступіў з прапановай стварыць настаўніцкую семінарыю. Але і гэтая прапанова з увагі на непрыхільнасць польскіх уладаў засталася ў сферы мараў.

На зломе 1929/1930 г.г. актыўнасць інстытута ў культурна-асветніцкай галіне ўспамаглі дзеячы Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, якія, скарыстаўшы паслабленне працы Таварыства Беларускай Школы, памкнуліся галоўны цяжар змагання за беларускую школу ўскласці на БІГіК. З гэтай пары заўважальным стала пастаяннае і паслядоўнае праніканне дзеячоў хрысціянскай дэмакрытыі ва ўстановы інстытута; у 1935 г. яны перанялі яго амаль поўнасцю. Адначасова ў палове 30-х з фінансавымі цяжкасцямі сутыкнулася Таварыства Беларускай Школы. У першай палове 1936 г. члены Галоўнай Управы ТБШ на чале з Феліксам Стацкевічам адбылі шэраг канферэнцыяў па арганізацыйных пытаннях. Вырашана было тады ўвайсці ў лучнасць з БІГіК, што выявілася ў выданні супольных адозваў да беларускага насельніцтва, заклікаючых правесці так званы школьны плебісцыт. Акцыя арганізавання беларускага школьніцтва неўзабаве значна пашырылася. Члены ТБШ і БІГіК звярталіся непасрэдна да беларускага насельніцтва ў паўночна-усходніх ваяводствах (віленскім, навагрудскім, палескім) з заклікам дэкларавацъ ахвоту і патрабаванне ўтварыць беларускія школы. Установай, якая непасрэдна займалася гэтым, быў утвораны дзеячамі ТБШ і БІГіК Школьны Сакратарыят. Адной з праяваў школьнай акцыі было выданне Я. Шутовічам са Школьнага Сакратарыята аднадзёнкі „За беларускую школу" (16 чэрвеня 1936). Аднадзёнка была канфіскавана віленскім гарадскім старостам за змест артыкулаў у ёй. Давала яна справаздачу з дагэтуляшніх намаганняў Школьнага Сакратарыята і паказвала размах яго працы, напрыклад, інфармавала чытача пра тое, што беларускаму насельніцтву было раздадзена 27 000 дэкларацыяў, 1 260 заяваў, 1 200 інструкцычў, выканана 700 плакатаў. Звыш таго, аднадзёнка падавала шэраг прыкладаў рэпрэсій з боку польскіх школьных уладаў. Гэта было прычынай канфіскавання аднадзёнкі польскімі ўладамі, сталася таксама падставай сфармуляванага імі сцвярджэння, што абедзве ўстановы працуюць пад дыктоўку камуністаў, а гэта значыць, што пагражаюць публічнай бяспецы.



Наступным элементам школьнай акцыі было змаганне за падручнікі. Ужо ў 1929 г. на пасяджэнні Галоўнай Управы БІГіК быў складзены ў адрас польскіх школьных уладаў пратэст супроць увядзення ў беларускіх школах лемантара Станіслава Любіч-Маеўскага. Лемантар, выдадзены ў 1929 г. у Львове Дзяржаўным Выдавецтвам Школьных Падручнікаў, моцна адхіляўся ад агульна прынятых правілаў беларускай граматыкі і правапісу, не прызнаваў беларускага алфавіту, уводзячы польскія літары, звыш таго, ўводзіў у тэкстах русізмы і паланізмы не выступаючыя ў беларускай мове. Галоўным элементам, які выключаў прыдатнасць падручніка, была фармулёўка, што аўтар, ствараючы яго, стаяў на грунце польскай дзяржаўнасці і абмінуў праблему беларускіх зямель. З пункту гледжання беларускага руху лемантар Станіслава Любіч-Маеўскага быў шкодным, і таму павінен быць адхілены ад ужытку.

У палове 30-х гадоў па ініцыятыве літаратурна-мастацкай секцыі БІГіК былі выдадзены зборнікі беларускіх казак і паэзіі. Былі ўстаноўлены сувязі з польскімі і замежнымі асяродкамі. якія займаліся даследваннем беларускай культуры, між іншым з Беларускай Акадэміяй Навук у Мінску. У тым часе гістарычная секцыя інстытута пачала шукаць памяшканне і арганізаваць беларускі музей, для якога шмат экспанатаў сабраў сам Іван Луцкевіч.

Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры меў два прэсавыя органы: „Калосьсе" і „Самапомач". Гэты другі займаўся амаль выключна гаспадарчымі праблемамі, якім інстытут прысвячаў шмат увагі. Па ініцыятыве членаў управы шмат лекцый, праведзеных на вёсцы, кранала гаспадарчыя пытанні. Вялася энергічная прапаганда стварання ўласных беларускіх кааператываў, у якой сцвярджалася, што ўдзел у польскіх і літоўскіх кааператывах не дае беларусам вялікага прыбытку і не задавальняе іхняй амбіцыі. Па ініцыятыве інсытута былі заснаваны ка-



© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

аператывы „Змаганьне", „Сіла", „Дабрабыт", „Руя". Інстытут абяцаў ім асветную дапамогу і, па меры магчымасцяў, таксама фінансавую. Стараннямі інстытута ў лютым 1927 г. у Вільні былі адкрыты кааператыўна-гандлёвыя курсы, якія мелі рыхтаваць кіраўнікоў кааператываў і прыватных гандлёвых прадпрыемстваў. На курсах удзельнічала 40 асоб. Гэтакім чынам стваралася новая група людзей, якая шукала апірышча ў працы інстытута. Паводле справаздачы начальніка грамадска-палітычнага аддзялення Ваяводскай управы ў Навагрудку Адама Гайля-Кота ў лютым 1937 г., гэта значыць, напярэдадні закрыцця інстытута, інстытуту падлягалі 32 беларускія кааператывы ў віленскім і навагрудскім ваяводствах.

Да іншых праяваў гаспадарчай дзейнасці інстытута трэба залічыць акцыі ўспамагання беларускіх сялян грашмі з прызначаных дзеля гэтай мэты фондаў Літоўскага Дабрачыннага Таварыства. Акцыі гэтыя пашыралі папулярнасць БІГіК. Карыстаючыся ёю, інстытут імкнуўся адцягнуць беларускае насельніцтва ад выбараў у самаўрады, сцвярджаючы, што ўдзел у выбарах раўназначны падтрымцы польскай дзяржавы. Беларускаму насельніцтву інстытут рэкамендаваў стварыць уласныя самаўрадавыя ўлады. Гэта стала яшчэ адной прычынай таго, што польскія ўлады былі супроць стварання ўсё новых аддзелаў інстытута. На зломе 1931/1932 г.г. больш актыўным гурткам ставіліся перашкоды ў наладжванні сходаў і спектакляў. Рэшту зрабіў недахоп адпаведных фінансаў. Гэта якраз недахоп у фінансах канчаткова абмежаваў працу інстытута. Большасць гурткоў у тэрыторыі не плаціла складчын гадамі. Штораз меншыя фінансавыя сродкі не дазвалялі прымаць на працу адпаведных людзей. Немалую ролю ў паслабленні дзейнасці інстытута адыгралі і польскія арганізацыі, якім эфектыўна ўдалося перахапіць і затрымаць у сябе пакідаючых працу беларусаў. Аднак здаецца, што галоўнай прычынай ліквідацыі БІГіК польскімі ўладамі была школьная акцыя. У палове 30-х яна здабыла вялікую падтрымку беларускага насельніцтва, якое дамагалася беларускіх школ. Гэтая акалічнасць спрычыніла рашэнне віленскага ваяводы, спыняючае ў пачатку снежня 1936 г. дзейнасць БІГіК і ТБШ. Спыненне дзейнасці вышэй успомненых арганізацый папярэджанае было рэвізіяй у значнейшых дзеячоў, праведзенай 28 лістапада. Неўзабаве аказалася, што з момантам спынення дзейнасці БІГіК і ТБШ хутка аслабла школьная акцыя ў тэрыторыі, бо іншыя беларускія арганізацыі не былі падрыхтаваны працягваць яе. Цэнтральныя ўлады абодвух арганізацый у канцы снежня адклікаліся да ваяводскай управы ў Вільні. Аднак віленскі ваявода 20 студзеня сваё рашэнне пацвердзіў, а два дні пазней, гэта значыць, 22 студзеня 1937 г., абедзве арганізацыі развязаў. Ад гэтага рашэння ўлады развязаных арганізацый адклікаліся да Найвышэйшага Адміністрацыйнага Трыбуналу, але ён падтрымаў рашэнне. Такім чынам закончылася дзейнасць Беларускага Інстытута Гаспадаркі і Культуры. Школьная акцыя, пасля яго ліквідацыі, заглохла на працягу некалькіх месяцаў. Чытэльні і бібліятэкі памкнуліся пераняць іншыя беларускія ўстановы. Усялякія пазнейшыя спробы весці гаспадарчую дзейнасць і ствараць беларускія кааператывы былі эфектыўна паралізаваны польскай адміністрацыяй.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

## *МАКСІМ БАГДАНОВІЧ (1891-1917)*

### *РОМАНС*

*Зорка Вэнэра ўзыйшла над зямлёю*
*Сьветлыя згадкі с сабой прывела...*
*Помніш, калі я спаткаўся с табою,*
*Зорка Вэнэра ўзыйшла.*
*З гэтай пары я пачаў угледацца*
*Ў неба начное і зорку шукаў.*
*Ціхім каханьнем к табе разгарацца*
*З гэтай пары я пачаў.*
*Але разстацца нам час наступае;*
*Пэўна, ўжо доля такая у нас.*
*Моцна кахаў я цябе, дарагая,*
*Але разстацца нам час.*
*Буду ў далёкім краю я нудзіцца*
*Ў сэрцы любоў затаіўшы сваю;*
*Кожную ночку на зорку дзівіцца*
*Буду ў далёкім краю.*
*Глянь іншы раз на яе, у разстаньні*
*Там з ёй зліём мы пагляды свае...*
*Каб хоць на міг уваскрэсла каханьне,*
*Глянь іншы раз на яе...*

* * *

*За дахамі места памеркла нябёс пазалота;*
*Паветра напоена ціха гусьцеючым мрокам;*
*Ўжо відна, як іскры зьлетаюць с трамвайнага дрота,*
*Як зоркі гараць і зрываюцца ў небі далёкам.*

*Музыкі стагнаньне ліецца па вулках з бульвара;*
*Гарацць і агнём машкару к сабе вабяць ліхтарні;*
*Ўкруг тоўстага шкла яна ўецца як лёгкая хмарка.*
*А к сьветлу прабіцца ня можэ і топіцца марна.*



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

*І ўспомніў я час: срэдзь восеннай нахмурэнай ночы*
*Музыка зайграла, агні ў вышыне запылалі,*
*Ўдыхнулі грудзі шырока, сьвяціліся вочы...*
*Мы к сьветлу ўзляцелі... і шкло ўкруг яго напаткалі.*

* * *

*Халоднай ноччу я ў шырокім, цёмным полі*
*Каля огнішча лёг і сціхнуў у паўсьне.*
*Агонь усё слабеў... урэшці знік паволі...*
*І ўраз зрабілося вясёла неяк мне!*
*Хай, шэры попел, ты агнішчэ ўсё сабою*
*Ў нядоўгі час здалеў, як рызаю, пакрыць, —*
*Я ведаю, што там агонь дрыжыць пад ёю,*
*Я ведаю, што там чырвоны жар гарыць...*
*Хай чэрэда гадзін пануры́х, нудных, шэрых,*
*Як попел, на душу мне клалася ўвесь час,*
*Хаваючы сабой агонь гарачы веры, —*
*Хай не ўдаць яго... а ўсё-ж ткі ён не згас!*

*П Е С Ь Н Я Р У*

*Ведай, брат малады, што ў грудзях у людзей*
*Сэрцы цьвёрдые бытцым с каменьня.*
*Разаб'ецца аб іх слабы верш заўсягды*
*Не збудзіўшы сьвятога сумленьня.*

*Трэба с сталі каваць, гартаваць гібкі верш,*
*Абрабіць яго трэба с цярпеньнем.*
*Як ударыш ты ім, — ён як звон зазьвініць,*
*Брызнуць іскры с халодных каменьней.*

**СЯРГЕЙ ДУБАВЕЦ**

## МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

### Э Л Е Г І Я

Нешта абудзіла.

Дождж лупіў па налічніку.

Не. Пад дождж лепей спіцца. Прыслухаўся. З вуліцы далятаў п'яны унтэр-афіцэрскі голас. *Не гулял с кистенем я в дремучем лесу, не лежал я во рву в непроглядную ночь*... Вось табе і поп. І споведзь. Вось і грэх: пасціўся не ў час. За некалькі дзён з'еў толькі жменю зялёных суніц.

Падцягнуў коўдру і шырока расплюшчыў вочы. Усміхнуўся. Жартуе, калі смерць карыятыдай мокне на ганку. Матухна любіць жартаўнікоў. І Пётра з Паўлам зачакаліся свежых анекдотаў. Ну, то ўжо хутка.

Як жа ладна яму думаецца па-беларуску. А гаварыць так і не навучыўся. Чаму?...

Напружана прыўзняўся на локаць і зірнуў у акно. За мокрай шыбай у алейных плямах плёскалася малочнае мора і зусім не было неба. Толькі міраж, які накладваўся на ўсё гэта з сярэдзіны: галава, ягоная галава набітая на кол, ля якога ходзіць таночак. І дзяўчаты ў вышываных кашулях, у вяночках. Толькі твары ў іх спалоханыя і рукі нязграбныя, і вочы страшныя, жахлівыя. А пад ім — агонь. Вялізнае вогнішча. І ён, як купальская лялька, туды падае...

Адкуль столькі ворагаў?

Альбэрт Паўловіч, змагаючыся за радкі ў „Нашай Ніве", назваў ягоныя вершы бязглуздзіцай. А ўжо праз тыдзень сам пачаў пісаць у ягоным „філязофскім" стылі. І праіграў.

Адкуль столькі непрыяцеляў?

Ведалі, што ён усё адно памрэ, але адправілі „лячыцца". А можа, адправілі паміраць, бо каму цяпер у Мінску патрэбная ягоная смерць, ягоная хвароба, ён сам? Крыўдна хіба толькі,



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012




Магіла Максіма Багдановіча ў Ялце. Фота М. Агафонава.



што ён на Беларусі быў усяго два разы, калі не лічыць маленства. Дык вось жа і не патрэбны.

Далібог, хоць вершы ягоныя спатрэбяцца.

Ссунуў коўдру, устаў на самлелыя ногі. Халера! Схапіўся за грудзі. Закашляўся. Сплюнуў вялікую крывяную гулю і абцёр вусны. Усміхнуўся.

На стале ляжаў распачаты рукапіс ягонага „Лемантара". Хто ведае, што чакае Лютаўскую рэвалюцыю! А ўсемагутны Бог, здаецца, назаўжды забыўся пра беларусаў. Хіба што самі беларусы пра сябе ўспомняць. Тады спатрэбіцца лемантар.

Выцягнуў руку і паклаў на яе апошні бацькаў ліст. Аркуш не здрыгануўся. Упершыню.

... У пакоі павінна лётаць муха. Да нябожычка. Хаця гэта ж узімку. І яшчэ трэба сасніць маці...

Падумаў запаліць святло, але ногі больш не трымалі. Зноў закашляўся. Сеў на ложак.

І болей ужо не ўставаў.

Колькі разоў ён хаваў сябе? І колькі хаваў сяброў? Сапраўды, іхні свет створаны для смерці адзіночак, самотных дзяцей свае Бацькаўшчыны. Ён пісаў на смерць Палуяна, але й сабе на смерць:

*Ты быў, як месяц, адзінокі:*
*Самотна жыў, самотна ўмёр.*
*Хоць сьвет і людны, і шырокі, —*
*Ты быў, як месяц, адзінокі:*

*Красу, і сьветласьць, і простор*
*Шукаў — і, ад усіх далёкі,*
*Ты быў, як месяц, адзінокі:*
*Самотна жыў, самотна ўмёр.*

Сяргей Палуян мог жыць і не хацеў. Лез у пятлю, каб не галадаць ды вытрымаць прынцып. Максім Багдановіч хацеў ды не мог.

Ён пакутаваў цяпер, што не запаліў святло і пакінуў тут панаванне ночы, цемры, смерці. Але справа была ўжо зробленая. І смерць будзе такая самая неахайная, выпадковая, як і ўсё жыццё. Амаль тое, што забыўся каўтнуць пігулку перад вячэрай. Калісь за гэтым сачыў бацька. Ён за ўсім сачыў у Максімавам жыцці. А цяпер чацверты дзень дабіраецца ў Ялту і ў дарозе, вядома, яго затрымліваюць справы. Такі час...

Ахайнасць застанецца пасля яго. Тысячы разоў перапрацаваныя, спраўджаныя ў рытме і рыфме вершы.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012

Цяпер ён думаў пра Бацькаўшчыну. Калі цела пакладуць тут, няхай хаця думкі будуць там. Навошта ён прыехаў сюды?...

Ліў дождж. І дождж спарадкоўваў ягоныя зблытаныя думкі.

Максім спаў у вялікім прасторным пакоі з асобным выхадам. Спаў і сніў Беларусь, якая так і засталася для яго нематэрыялізаванаю марай. Сніў вялікую ганьбу, частку якой узяў на сябе ўчора і возьме заўтра. Яму было цёпла ўсярэдзіне, як быццам кіраваўся ён пісаць новы верш.

А на вуліцы зварухнулася карыятыда. Яна зірнула на кішанёвы гадзіннік і сказала: „Пара“. І п'яны унтэр-афіцэрскі голас зацягнуў: *Не гулял с кистенем я в дремучем лесу, не лежал я во рву в непроглядную ноч...*

1981.

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

## *НАДЗЕЯ АРТЫМОВІЧ*

*Са зборніка »Сезон у белых пейзажах«*

* * *

*свет зачыніўся*
*адплывае спакойнае неба*
*і закрываўленыя цягнікі*
*набліжаюцца да бязлюдных гарадоў*
*таўсцеюць непатрэбныя вароны*
*варажбіткі сядзяць на пустых картах*

*дзе агонь дзе хлеб салёны дзе жэст*
*твой жэст абарваны ў чужым паветры*
*дзе возера каменнае нядаўна так зялёнае*
*дзе ціхія вершы*
*дзе праўдзівая твая лірыка*
*дзе наша месца глыбокае*
*дзе нашы сны спакойныя*
*дзе мы*
*дзе ты*
*дзе я*

*разглядаюся*
*пульсуюць вуліцы*
*святло ў сутаргах*
*непатрэбнасьць у маіх руках*
*у мяне*
*няпрошаныя нявыйграныя дні*
*і мой голас дзікі*
*таксама непатрэбны*
*пяскі ляцяць у даль*
*зоры ў пажарах*

*рака нясе мяне ў вір...*



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

* * *

берагамі неспакою ўваходжу ў бязвокі гушчар
на небе расплываецца пах азёрнай пасцелі
поўнач кідае хараство на цяжкую расу

шукаю Цябе парой залатых паміраючых пяскоў
клічу жывы вецер у цёмным шуме зраненага лесу
гляджу на разбітыя вазы сярод чужых калаін

і вось Ты — мой сон у баязлівых руках
кранае сталы цішыні пад уваскрэслымі дажджамі
мы побач — плываем у хворым подыху кароткага святла
на малых параходах згасае наша песня

— пейзаж родзіцца ў трэцім маўчанні

ВІКТАР ШВЕД

## ГОСЦІ?

О, Беласточчына-Айчына!
О, Беларускі мой Народзе!
Мянялі ўласнікаў няспынна
Мы ў нашым жудасным стагоддзі.

Былі у Прывіслянскім краі,
Пад кайзераўскім супастатам,
Бальшавікі зноў „вызвалялі“
Нас нечакана у дваццатым.

Другая Рэчыпаспаліта,
Вобласць савецкая на змену,
Улада Гітлера-бандыта,
І маніфест ПКВН-у.

Ад ПНР мы пераходзім
К чацвёртай Рэчыпаспалітай.
І раптам кажуць, мой Народзе,
Што Ты тут толькі госць нібыта.



## ГРОДЗЕНСКІЯ ЭКСПАНАТЫ

У нас вялікае свята,
Цешцеся, беластаччане!
Прывезлі музейныя экспанаты:
Родную мову, песню і танец.

Вось уваходзяць на сцэну,
Выпаласканыя з беларускасці чыста,
У народных уборах манекены —
Самадзейныя гродзенскія артысты.

І паўтараюць яны бездакорна
Вызубраныя словы, мелодыі, крокі;
Уваскрасае мінулае зорнай
Беларусі маёй сінявокай.

Са сцэны з настроем прыўзнятым
Сыйшлі самадзейнікі з Гродна.
Беларускія экспанаты
Загаварылі на „общенародной“.

## МОДНЫМ СТАЛАСЯ, ВЯДОМА ЖЫЦЬ У ЕЎРАПЕЙСКІМ ДОМЕ

Маладыя людзі скора
Уцякаюць з вёскі ў горад.
Кругагляд губляюць вузкі
З даўняй хаты беларускай.
Пазбаўляюцца сялянства,
Прымыкаюць да мяшчанства.
Выракаюцца няспынна
Мовы роднай і айчыны.
Мроіцца ўжо ім, вядома,
Жыць у еўрапейскім доме.
Мо сусветным маналітам
Стануцца касмапалітамі?



© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012

## САКРАТ ЯНОВІЧ

# МОЙ ПАРОГ

— Не магу сказаць, адкуль пайшоў род Яновічаў (цікавіўся толькі выпадкам). У тых даўніх, жыдоўска-пратэстанцкіх, Крынках было некалькі пашыраных сялянска-местачковых фаміліяў: Анісімовічы перш за ўсё, затым Кішкелі, і нейк нароўні з імі Яновічы; яшчэ Скроўбы. Этымалогія назоўнікаў Кішкель і Скроўба здаецца жмудскай, што не здзіўляе, калі памятаць: Крынкі знаходзіліся на шляху з Рыгі, цераз Вільню ў Кракаў (т. зв. каралеўскім або гаспадарскім). Падказвалі і падказваюць мне, што само ўтварэнне формы Яновіч — ад імя Ян, з характэрным для баяраў прозвішчам закончаным на -іч, сведчыць бытта пра польскае (мазавецкае) паходжанне. Дадатковы аргумент: факт, што сем'і Яновічаў на Крыншчыне і далей, ёсць рыма-каталіцкага веравызнання, акрамя, бадай, ці не двух усяго ў саміх Крынках, якія цалкам праваслаўныя (родным пляткарам паведамляю, што я выводжуся з іх менавіта). Асабіста не веру ў польскія карані Яновічаў, хоць, бясспрэчна, з'явіліся яны ў каталіцкай паласе былое Літвы. Іхнай нібы польскасці пярэчыць геаграфія пашыранасці гэтага прозвішча, як і мясцовасцяў з назвай Яновічы або Янавічы. Даволі дакладна пакрываецца яна з гістарычна вядомымі купецкімі шляхамі, напр. па Дзвіне з Інфлянтаў (мястэчка Яновічы, што за Віцебскам), як і са спомненым гаспадарскім; вёска Яновічы блізу рэчкі Нарва, паміж Беластокам і Бельскам, і ідэнтычная ў слуцкай дамэне князёў Радзівілаў, меўшых свае ўладанні і ў прыінфлянцкім памежжы. Жывуць Яновічы ў прыбужскіх Мілейчыцах, на тым жа тракце ў Карону.

Так што пачаткі маіх Яновічаў трэба вязаць з балцкай поўначчу, праўдзівай за ўсё з латвійскім або інфлянцка-нямецкім субстратам (Ян, Яан, Яган, Яніс; Ян Райніс, латвійскі міністр).

* * *

— У барбараў няма гісторыі. Не так вельмі даўно ўдалося мне даведацца, што мой прадзед называўся Антон, быў буянам і трымаў радзіну сваю пад тэрорам. Відаць, па гэтай прычыне на працягу некаторага часу, па вясковай модзе, клікалі іх Антошкамі, замест Яновічамі... Выходзіць у плебейскае ўзвышэнне пачаў дзед Павал (?), сталяруючы пакрысе. Памёр ён немаладым, якраз зрабіўшы салдацкі куфэрак майму бацьку Кастусю; забралі яго ў Сувалкі служыць у коннай артылерыі. Бацька, здаецца, не дажыў веку майго дзеда, скончыўся ў 62-а (на тратуары Юравецкай у Беластоку, дзе тады быў аўтобусны вакзал). Мужчыны даўней жаніліся позна, і пад пяцьдзесят маючы. Матэрыяльна такі кавалер бываў сяк-так самастойны. Унукаў гадавалі бабулі, якіх бралі замуж, як казалі, шаснастоўкамі. У майго бацькі быў брат Грыша (загінуў увайну) і плойма сясцёр.

Гаспадарка ў Антошкаў лічылася сярэдняй велічыні. Пры тадышняй шматдзетнасці распалася яна на паругектаравыя палоскі ў палетках: Александроўка, Аношкавік, Доўгі Луг і Пад Разбойнікам. Бацька стаў шаўцом з александроўскімі і аношкавіцкімі прыдаткамі (каля трох з лішнім гектараў, з пляцом каля могілак і агародам пад Доўгім Выганам). Дзедава хата, старэнькая і саламяная, што стаяла ў левым канцы Сакольскай вуліцы, калі ісці ад рынку, і ў самюткім прыплоцці з выганішчам, — згарэла недзе ў трыццаць сёмым (падпаліла брацiха, каб за страхоўку пабудавацца асобна). Бацькава шаўцаванне давала няблагі заробак, калі раўняцца з тагачаснай галотаю, і гэта быў фінал плебеізацыі — выйсця з сялянства — аднаго з Яновічаў, Кастуся.

У родзе Яновічаў пра культурныя зацікаўленні я не чуў, калі не лічыць ці не брата дзеда Паўла, які хадзіў з паломніцтвам некуды ў Расію з намерам стацца манахам ды не ўтрываў, вярнуўся адтуль, казалі, з немалымі, аднак, рублямі за пазухаю; дакупіў зямлі... Такім чынам, побач з Антошкамі з'явіліся, вядома, і Манахі ў тутэйшым слоўніку мянушак (апошнія Манахі-Яновічы звяліся ў нашы дні, прадаўшы бацькоўшчыну і пыльнуўшы ў Еўропу).

* * *

— Элементы інтэлектуальнасці, шанаванне кніжкі, прынесла ў наш дом мая маці, Аляксандра Грычанка з засценка Барсуковіна, што пад колішняй Крынскай пушчай, ля гасцінца ў Гарадок. Яна недалюблівала Яновічаў за іх заглухласць, старасвеччыну і блізу непісьменнасць; а сімпатыі кіравала на Скроўбаў ды Кішкелёў, гэтаксама цёмна-старажытных, як гаварыла, а з якімі даводзілася ёй сваяцца (бабуся мая — Палося Скроўбянка). Больш пашаны мела да Ансімовічаў, але не тых сваяцкіх: у іх вялікім родзе знаходзіліся двух-трох, што закончылі яшчэ



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012

расійскія гімназіі (лідэравалі ў духоўным жыцці хрысціянскай меншыні жыдоўскіх Крынак).

У матчыным сваяцкім шматроддзі была цэлая група інтэлігентных дзядзькоў з класічнай сярэдняй адукацыяй (Жукоўскі, Караневіч, Семяняка). Звязаных, прытым, з беларускім адраджэннем, а нават з заходнебеларускім паўстанцкім рухам, у якім афіцэрыў Семяняка, бацька будучага кампазітара Юрыя (уцёк праз „зялёную граніцу" у Мінск, дзе — ясная справа — загінуў).

Маці перажыла т. зв. бежанства (жылі ў Смышляеўцы, што за Самараю). Там памёр ад застуды яе бацька (44 г.?), а ў вяртанне — ад дызентэрыі — бабуля ў польскім баранавіцкім каранціне. Двух братоў і пяцёра сясцёр — адна не выжыла ў дарозе з Расіі — тлум дзецярні на руках удавы. Таму ў дваццатыя гады амаль усіх дзяўчат аддала яна служанкамі; Аляксандру, званай Шураю, на парабкаванне ў хутар Ярашоўка пад Беластокам (Казырскія, Рыбаковічы). Потым — у Беласточак, да Далістоўскіх. Беларуска ад нараджэння — у Смышляеўцы русіфікавалася, а ў беластоцкіх прыгарадах апалячэла, што, калі вярнулася паненкаю ў Барсуковіну, не давала рады размаўляць на роднай мове; ледзь адратавалі яе ад гэтага скрыўлення. Рыхтуючы сабе будучыню, навучылiся краўцавання ў крынскай жыдоўкі Ганы (Ханы?). У жаніхах перабірала, не хочучы папасці на бядотную гаспадарку.

Жаніцьба шаўца з краўчыхаю стварыла добрую пару, найперш у эканамічным сэнсе (у тыя часы, менавіта, гэта і вырашыла). У пасажным куфры прывезла дзве тоўстыя кніжкі, зборы твораў Лермантава і Пушкіна (дарунак леснічыхі ў барсуковінскім суседстве). Ад іх і пачалася мая заварожанасць друкаваным словам; аднак, перш запамятаўся мне прыход саветаў у трыццаць дзевятым, і рыжая настаўніца Аня з „васточнікаў", якая стала ў нас на кватэру, у новай ужо хатцы, купленай у закрынскаўскай Семяноўцы... Да тае Ані прыходзіў — гэтак жа прыезджы — Шатэрнік, ад якога яна ўцякла, і я яго не любіў за суровы характар бакалаўра. Мяне, чатырохгадовага смургеля, катэгарычна навучыў ён чытаць і пісаць: я адразу плакаў, як угледзеў яго на парозе. Мая роспач крыху аціхла, калі дайшлі мы, ён і я, да верша Янкі Купалы „Хлопчык і лётчык"...

* * *

— Бацька мой не меў амбіцыі ўчыніць з мяне інтэлігента і не надта цікавіўся ён маёй вучобаю. Затое — маці бачылася для мяне кар'ера „бацюшкі"... Была перашкода: рос я на заіку. Хварэў у маленстве штораз, два ці бо тры разы паміраў, грамніцу



© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

запальвалі; пачаў хадзіць на трэцім годзе, з т. зв. ангельскай хваробы ледзь вылезшы (цяжкі рахіт). Бацьку ўзялі на вайну ў польскі верасень, адкуль трапіў у нямецкі палон (жыў я, значыць, паўсіратою, са схільнай да істэрыі ад беспрасвецця маладой маткай). Нерваў хапала, часцей сумаваў, чымсці смяяўся. Ці адтуль маё замілаванне смуткам?

І фізічна, і псіхічна, больш пераняў я ад маці, як заўважаю. І схільнасць тую да халерычных рэагаванняў; нецярплівасць, каб усё задуманае мець адразу. Гэты інфантылізм застаўся ў маёй асобе, запазняючы жыцёвую спеласць. У гэтым, мабыць адна з перадумоў лірызму: ісці да мэты або да ісціны напраўсты, цэльнай метафараю. У асяроддзі местачковых падшыванцаў адрозніваўся я тым, што валодалі мною маніі. Яны былі чарговымі, адна загасала, з'яўлялася наступная, што зусім не значыць, каб не прымаў я ўдзелу ў маралетнім бандыцтве (бой камянямі на выгане), у рабунках садоў (рвалі ранклоды фатаграфа Лапуця), у азарце (рэзаўся ў „тысячу" і ў „воза"); браканьерыў на маянтковых саджалках, кашом на бульбу (траплялiся караські і плотачкі бліскучыя); збіраў амуніцыю, кулі разрыўныя і запальныя, што валяліся пасля фронту сорак чацвертага (кідалі ў вогнішча і хаваліся ў абваленыя акопы). Мала не стаў галубнікам; выпрасіў у бацькі паставіць на высокай жэрдцы шпакоўную, якую выгабляваў мне дзядуля Скроўба (яна і па сёння на хаце, у шчыце).Стругаў пісталеты і майстраваў возікі. Гэтым займаліся ўсе мае равеснікі. Яны, усё-такі, не малявалі і не былі беларускімі патрыётамі, што гучыць крыху смешна. Маё захапленне рысункам і акварэллю ўзялося, відаць, з урокаў у пачатковай школе (перамалёўваў Хэлмонскага, з каляровых рэпрадукцыяў ягоных пейзажаў). Загледжанасць жа ў Беларусь мела некалькі крыніцаў, найважнай з якіх аказаўся сам бацька. Ён па-сялянску цярпець не мог панаватых у нас палякаў, празываных палячыкамі. Беларусам жа з пэўнай свядомасцю пачуўся стары, пабыўшы ў палоне. Немцы выпусцілі яго з лагера як непаляка, знялі яму з грудзей пазнаку „П", дазвалілі хадзіць тратуарамі і вольна жыць у горадзе (Дрэздэн?), працаваць у а-бутковай фабрыцы (уласнік хацеў нават ажаніць яго са сваёй дачкою). Зарабляў, меў „аўсвайс", атрымліваў водпускі, прысылаў матцы райхсмаркі, ад якіх трохі палягчэла ў нашым крынскім быце; лісты пісаў рэдка, па-халопску мучыўся на літарках, клеіў сказы валапікам: словы нямецкія ўперамешку з беларускімі (расчытываў тыя пісьмы-каракулі да нас дзівакаваты Харужы, які ўмеў „шпрэхаць" накшталт ідзіш-буш). Бацька мусіў бачыць тадышнія беларуская часопісы — можа быць, і берлінскую „Раніцу"? — бо згадваў пра падабенства беларусаў да немцаў, маральнасць і працавітасць падкрэсліваючы, што з Польшчаю да дабра мы не дойдзем, з гэтым народам махляроў



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

і гультаёў... фактычна, курвягаў! Чыста схваліў парадкі ў Нямеччыне; акуратнасць людзей, разумнасць законаў, сямейную мацату, культ працы, выключную пашану да баўэра як да хлебароба.

Заходзіў пасля вайны да нас, на вечаровыя размоўкі ў шаўцоўцоўні, сусед Міхась Клімовіч, падначытаны мужычок, які пры саветах цёрся каля раённай улады ў Крынках. Міліцыянерыў (у акупацыю хаваўся). Ён загаварыў пра Вялікую Беларусь, а я намаляваў акварэлькамі яе фізіка-геаграфічную карту. Заязджалі да маці яе сёстры, будучыя замужам у Гарадку, і расказывалі, як тамтэйшыя мужчыны адбівалі атакі АК, і якім чынам дапамагалі ім салдацікі, што вартавалі на Станцыі Валілы. Я напісаў тады беларускую палітычнаю лістоўку і, вечарам, наклеіў яе на тэлефонны слуп ля маста над ровам, што ўнізе Сакольскай) правісела яна, як памятаю, да наступнага вечара; пачыналася: „Памятайце, беларусы, што ў нас сталіца Мінск..."

* * *

— Вершы, інаўгурацыя літаратурных амбіцыяў адбыліся ўва мне, ўсё-такі, па-польску, бо такою была школа, у якую давялося найсці пасля ліквідацыі ў сорак пятым беларускай (незабыўная настаўніца Анна Яроцкая!). Не знаходзілася іншых і газетаў; выпісвалі „Рольнік Польскі". Туды і памчала мая паэзія пра Сталінград ды паганага Гітлера; рэдакцыя зрэагавала ветлівым і даволі прасторным пісьмовым адказам з банальнымі парадамі: болей чытайце і пішыце... Але я на тых, калі не памыляюся, двух вершыках і закончыў сваю польскамоўную графаманію, акунуўшыся ў свежую мару — стацца прыкладным, паводле брашураў, гаспадаром. Жаданне вершапісаць аднавілася неяк праз год-паўтара, каля сорак дзевятага (?) у нясмелыя імпульсы палавога выспявання (ішоў трынаццаты год). Ездзіў роварам у расуючае жытнёвае поле, аж пад Гаспораў лес, і летуцеў аб тым, у пары з якою дзяўчынаю буду разжывацца ды багацець, беспараўнальна лепш за бацькоў... Платоніка дзіцячага кахання да суседчынай Шуры Анісімовіч адлятала некуды; звярнула маю ўвагу Ала Жукоўская з Піражкоў, далёкая сваячка з матчынага боку (не так па-хлапцоўску вульгарная, філігрынная, пахіленая над кніжкаю). У Жукоўскіх рос малады сад; на стале ў хаце, побач з верцяхай грэчневага мёду, ляжалі старыя рускія кнігі. І я адшукаў у куфры маёй мамы, поўным запаху ад папяровак, таго ж Пушкіна з Лермантавым і, не марудзячы, давай шрайбаваць ды перапісваць каліграфічным почыркам сваё тварэнне, на даступнейшы мне манер кучаравага Аляксандра Сяргеевіча. Маці зачытывалася ім пры свяце, у нядзельку, асабліва „Яўгенам Анегіным". У паненства хадзіла ж



яна да дзядзінай, Александры Жукоўскай, на хутары Клышаўка слухаць „У палескай глушы", а ў блізкіх Плянтах у нечым дапамагала ставіць „Збянтэжанага Саўку" Аляхновіча (кіравалі ўсім адухоўленыя Пракопчанкі ды іхні гарбаты брат, які меў крамку, ненавідзіў буржуяў, расносіў камуністычныя лістоўкі, распавядаў пра Беларусь, хаваў паўстанцкі карабін, у страсе).

Паэтам зляпіў мяне Беласток, агульна кажучы. Але, вядома, нарадзіўся я ім у Крынках. Аднак, застаючыся ў іх назаўсёды, я нічога не дабіўся б; пэўна пераняў бы па бацьку варштат, абсяваў бы тыя гектарыкі ўдадатак ды, час ад часу, чытаў бы нейкую кніжку, што разумела б адна мая маці.

* * *

— Здаючы ўдана экзамены ў беластоцкія тэхнікумы — спачатку ў механічны, затым у электратэхнічны — не прадчуваў, што чакае мяне другі пасля дзіцячага крызіс здароўя і духа ў выспяванне (сухотная ініцыяцыя, незабаўку эпілептычныя прыпадкі). Асела ў маіх успамінах невымоўная настальгія па доме і ваколіцы, нагадваючая прымусовае эміграцтва. Мая этнічная беларускасць перарасла ў сапраўдную, палітычную, дзякуючы таму, што сутыкнуўся я ў Беластоку з нацыянальнай на поўны фармат беларускай культурай і асобамі-носьбітамі яе (крынскі мігрант Кастусь Клімук насамперад, яго калега па гадзіннікавым рамястве Кастусь Сідаровіч, і пазней Васіль Літвінчук, Піліп Кізевіч, плеядка іхных знаёмцаў). Апынуўшыся кватарантам у чужым асяроддзі, прычым з комплексам заікі, у мяне з'явілася шмат свабоднага часу, і я стаў заядлым чытачом школьных ды публічных бібліятэк, кліентам кнігарняў. Натуральная для маладзіка энергія ва ўмовах неадаптаванасці да так зმенённага быту вылілася ва ўнутраную, прычым хаатычную, працу над самім сабою. Завёў сабе дзённікавыя запісы, прычытаўшы пра такое ў каторымсці рамане, рускім, бо на „трасянцы" яны ў мяне на першых старонках сшытка і з устаўкамі пра веліч Расіі, прыгажосць якой параўноўваў з пекнатою... Кіры Валошанкі, маёй адзінай, хімерычнай да абсалюту, любоўі (пяцьдзесят першы).

Нешта польскае напісалася і ў сярэдзіне пяцьдзесятага года (захаваўся адказ „Рольніка Польскага", адрасаваны... бацьку, бо пад яго імя я падпісаўся, думаючы, што мяне праігнаруюць: у сталіцы пра ўсё і ўсіх вядома ж!) Тым не менш, аж да ўзнікнення „Нівы" у пяцьдзесят шостым, я болей не графаманіў, і той дзённік занядбаў да рэшты. Ён важны, менавіта, у тым, што хутка пайшлі ў ім тэксты па-беларуску. Як бы аднова аб'явілася мне Беларусь, ужо назаўсёды. Перажываў дылему, як вынік мужыцкага выхавання: не падабалася беларушчына, прыпада-



© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

бняў я яе да расейшчыны і польшчыны адначасова... Аніякім чынам не дазваляла мне сумленне адступіцца ад яе, бы з тым замурзаным кацянём, якое гідка браць на рукі і шкода пакінуць, жаль бярэ! Раскамплексавала мяне работа ў „Ніве", але гэта асобная гісторыя.

* * *

— У даніваўскі перыяд нічога лепшага не здарылася ў маім лёсе, калі думаць пра літаратурныя парасткі. Каля дзесятка „сцішкоў" і пару „вершыкув", два сшыткі экзальтаванага дзённіка. Але адбылося як бы цалкам іншае, што канчальна вызначыла маю ментальнасць: у пяцьдзесят трэцім арганізаваў, падпольна, вучнёўскі Саюз Беларускіх Патрыётаў, невялікі, пад дзесятак хлопцаў, і — наогул — эфемерычны, з філамацкім ухілам (адкрывалі самі для сябе гісторыю Беларусі). І каля пяцьдзесят пятага года перад „матурай" наіўна спрабаваў рэгістраваць Карэспандэнцыйны Клуб Маладой Беларускай Інтэлігенцыі. Мабыць, калі б не хрушчоўская адліга, марна закончылася б для мяне гэтая ініцыятыва (пагаварыў са мною, далікатна, якісьці УБовец, пераконваючы, што няма беларусаў, і г. д.). Думаў выдаваць рукапісны часопіс, беларускі і тэхнічны... Я ўсё калаціўся з думкамі: што магу для Беларусі?! Мой літаратурны дэбют на старонках „Нівы" збыўся ў тым жа плане: зварухнуць сумленне нацыянальнае. У мяне не было нават прыблізнага ўяўлення пра сутнасць пісьменніцкай працы. Пісаў як быццам прапаведзі, а не мастацкія творы. Што такое ёсць мастацкае слова — я пачуў ад Юры Валкавыцкага, няшмат разумеючы яго, аднак жа. Але гэта было потым.

Гэтая мая палітычнасць — недакладны тэрмін ды не знаходжу адэкватнейшага для стану сваёй душы. Скажу так: калі б не зніканне майго народу, я, магчыма, не пісаў бы. Мастаком адчуў я сябе значна, вельмі значна пазней. „Белавежа" спрыяла гэтаму, і паслейшая адукаванасць.

* * *

— Азіраючыся на свой ніваўскі зорны шлях, на тыя трыццаць з салідным „гакам" гадоў, змагаюся я з супрацьстаўнымі пачуццямі задаволенасці і крыўды. Найперш пытанне: ці зрабіў я менш, чымсьці здолеў бы? На яго няма і не можа быць разумна аднназначнага адказу. Суддзёю будзе той час, які надыйдзе пасля мяне.

Калі ж задумацца над крыўдаваннем сваім, дык тут крытэрыі выразнейшыя. І суб'ектыўныя, і аб'ектыўныя ў папулярным усприняцці. Дайшоў да зразумення, у такой далечыні перспектывы цалкам банальнага, што культурна-грамадская дзейнасць накшталт БГКТ не выратуе нашу меншасць ад нацыянальнае катастрофы (а толькі інтэграцыя з Беларускай Рэспублікай). Таму як бы злосць ахоплівае, што столькі патрацію сілаў сваіх і часу без ліку якраз дзеля таго, замест выключна канцэнтроўвацца на тым, у чым аніхто не заступіць мяне (г. зн. творчасці). Аднак жа і тут я не зусім каб справядлівым быў, бо не паглыбіўшыся ў віры жыцця, нельга стацца творцам; праблема аптымальнага развіцця ды выкарыстання ўласнае таленавітасці заўсёды застаецца адкрытай. Ніколі невядома з усёй упэўненасцю, дзе ты прамарнаваў свой дар Божы, і ці сапраўды яно так здаралася (?). Гаспадарка талентам — найменш падатліва бухгалтарскім падлікам з усіх гаспадарак чалавека.

Пэўнае адно: мастаком магчыма быць у нечым адным (рэнесансавыя адступленні надзвычай унікальныя). У кантэксце гэткага сцверджання, працяг тае палітычнасці ўва мне пачынаю, пакуль яшчэ нясмела, праклінаць! Дакладна ўсведамляючы сабе, што не пазбудуся яе дарэшты, хаця б таму, што аўтар я на той з нямногіх у Еўропе моваў, якім нясціхана пагражае смерць пад прымусам (стаўшы польскім літаратам, праўдападобна залазіў бы ў палітыку ад выпадку). Разам з тым не забываю і пра тое, што без беларускай палітычнасці наўрад ці наогул з'явіўся б я, прынамсці, на беластоцкім Парнасе (патрыятычны наказ абудзіў здольнасць пісаць родным словам, веданне якога ўпачатку мінімальна перавышала этнічнасць; давалася бяспрыкладна лягчэй будаванне фразы на каланіяльнай — польскай. У канцы шасцідзесятых гадоў наткнуўся на тэзу, што пісьменніку наканавана матчынасць выслоўя; рацыя яе, як і належыць кожнай канстатацыі, не абсалютная (ёсць факты „так", ёсць і „не").

Наступная група маіх жаляў і прэтэнзіў — будзённейшая; датычыць уласнага літаратурнага асяроддзя. Вырозніваецца яно мужыцтвам як назвай характаралагічных рысаў, а не сацыяльнага — сялянскага — паходжання. У нас замала таго, што дае права самавызначыцца, менавіта, як асяроддзю. „Белавежа" трывае ў якасці структуры, групы націску, арганізацыйна-фінансавай. І толькі ў апошнія гады наглядаю я ў некаторых „белавежцаў", і старэйшых і маладзейшых, нешта падобнае на культурны альтруізм, бескарыслівую падтрымку адзін аднаго, або і на арыстакратызм духа. Да гэтага трэба дарасці, асабліва нам, плебеям з вышэйшай адукацыяй. Пазбыцца галотнага, нуварышоўскага, прадажніцтва надта ж няпроста. Найярчэй відаць гэта па тым, як мы ўзаемна спрыяем-неспрыяем у выдавецкай справе. І вылазім натужліва з гміннай геніяльнасці.

Цягне нас да долу тое перад усім, што, як бачу, перастаем чытаць мы літаратуру, пакончаўшы ўніверсітэты і парабіўшы дактараты (каб сесці з кніжкай у руках без якога-небудзь прафе-




© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

сійнага мусу). Упадак бытавых стандартаў тут не апраўданне, ані злыя жонкі... Гэтак я і пра сябе, са злосцяй ды роспаччу! Нешта нядобрае з намі вычаўпаецца: цэлыя сцены хатніх бібліятэк, якімі амаль не карыстаемся.

І фінальнае, але найважнае, — гэта літаратурная крытыка, без якое літаратурнае жыццё абавязкова аднабокае, як бы аднарукае, пакалечанае. Яна, наша, нячаста ўзвышаецца да аналізу, плюхаецца ў пльцізнах публіцыстыкі; скарапішам эфемерныя тэксты, якія жывуць не даўжэй актуальнага нумара газеты, а праз месяц ніхто іх і не спамятае. Ці ж гэта не крыўдна аўтару кніжкі? І ці не паніжае самога крытыка?

*17-20 лістапада 1990*

ТОМАС БЭРД

## НАТАТКІ АБ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ НА ЭМІГРАЦЫІ

У развіцці беларускай літаратуры на эміграцыі вызначаецца некалькі абасобленых перыядаў. Перыяды гэтыя далёка неаднолькавыя як па колькасці выданняў, гэтак і па мастацкаму профілю і ўзроўню літаратуры. У дадзеных нататках мы абмяжуемся толькі да ўліковага моманту, пакідаючы без аналізу якасны аспект беларускае літаратуры на эміграцыі.

Першы перыяд беларускае літаратуры на эміграцыі можна замкнуць пачаткам другое сусветнае вайны. У тым перыядзе дзейным быў толькі адзін асяродак беларускае эміграцыі — сталіца Чэхаславаччыны Прага. Як ведама, у той час у Чэхаславаччыне знаходзіліся шмат беларускіх студэнтаў, а ў Празе інтэнсіўную палітычную дзейнасць праводзіў урад Беларускай Народнай Рэспублікі. Беларускія студэнты ў Празе выдавалі некалькі часопісаў (як „Перавясла"), а душою беларускага літаратурнага асяродка быў паэт Уладзімір Жылка. З пераездам У. Жылкі ў Савецкую Беларусь літаратурная дзейнасць у Празе прыпынілася, хоць прадаўжалася журналісцкая беларуская актыўнасць, нярэдка, як у выпадку Тамаша Грыба, на мяжы літаратурнага нарысу.

Да міжваеннага перыяду неабходна аднесці і літаратурную дзейнасць беларускіх эмігрантаў у Аргенціне. У Аргенціне ў міжваенны час было выдадзена некалькі календароў, у якіх перадрукоўваліся творы беларускае мастацкае літаратуры, але былі таксама і арыгінальныя творы эміграцыйных аўтараў.

Другі перыяд беларускае літаратуры на эміграцыі звязваецца з перыядам другое сусветнае вайны 1939-1945. У тым перыядзе існавалі два асяродкі, дзе друкаваліся беларускія літаратурныя творы — Прага і Берлін. У Празе былі выдадзены „Сымон Музыка" Я. Коласа (1942) ды выбраныя творы Ларысы Геніюш „Ад родных ніў" (1942). Значна большай была выдавецкая дзейнасць беларусаў у Берліне, дзе выйшла некалькі невялікіх



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

кніжак мастацкае літаратуры, сярод якіх аўтарамі значыліся В. Ластоўскі, Ю. Віцьбіч, М. Шчаглоў ды іншыя пісьменнікі. Творы мастацкае літаратуры друкаваліся таксама ў беларускіх газетах „Раніца" і „Беларускі Работнік", якія выходзілі ў Берліне.

Трэці перыяд развіцця беларускае мастацкае літаратуры на Захадзе наступіў па другой сусветнай вайне. Раздзяленне беларускіх мастацкіх твораў у гэтым перыядзе па геаграфічнаму прынцыпу будзе бадай ці не самым правільным.

### Беларуская мастацкая літаратура ў Заходняй Еўропе па другой сусветнай вайне

Па другой сусветнай вайне ў Заходняй Еўропе, пераважна ў Заходняй Нямеччыне, Аўстрыі, Францыі, Італіі ды Англіі, пражывала некалькі сотняў тысяч эмігрантаў з Беларусі. Гэта былі розныя групы: былыя „остаўцы", былыя палонныя савецкае і польскае арміяў ды асобы, якія выехалі з Беларусі перад наступам Чырвонае Арміі ў 1944 годзе. Сярод эмігрантаў былі дзесяткі пісьменнікаў, мастакоў ды наогул працаўнікоў культуры, якія не хацелі варочацца на Бацькаўшчыну. Было зусім лагічным, што тыя эмігранты развілі шырокую грамадскую і літаратурна-мастацкую дзейнасць. Спынімся тут толькі на той апошняй.

Хутка па вайне, у Баварыі ў 1946 годзе, было заснаванае літаратурнае таварыства „Шыпшына", якое пачало выдаваць аднайменны літаратурны часопіс. Рэдактарам часопісу, як і старшынёю згуртавання „Шыпшына", быў беларускі пісьменнік Юрка Віцьбіч. „Шыпшына" гуртавала некалькі дзесяткаў беларускіх пісьменнікаў ды выдала некалькі зборнікаў іх твораў. Часопіс „Шыпшына" прадаўжаў свой выхад у ЗША, але спыніўся на 9-м нумары ў 1950 годзе. Гэтаксама ў Заходняй Нямеччыне, на поўначы краіны, пачаў выходзіць у 1946 годзе іншы літаратурна-грамадскі часопіс — „Шляхам Жыцця", рэдактарам якога быў беларускі паэт Фёдар Ілляшэвіч. Пры часопісе „Шляхам Жыцця" існавала літаратурнае выдавецтва, у якім было выдадзена звыш дзесятка літаратурных твораў. У 1948 годзе ў горадзе Астэргофен, у Баварыі, пачаў выходзіць літаратурны часопіс „Сакавік". Гэты часопіс змяшчаў пераважна новыя і раней не друкаваныя творы мастацкай літаратуры, а рэдактарам часопісу быў літаратурны крытык Антон Адамовіч. Выйшла ўсяго тры нумары „Сакавіка". У канцы саракавых гадоў у Аўстрыі выходзіў аб'ёмісты літаратурна-грамадскі часопіс „Пагоня". Апрача літаратурных часопісаў у перыядзе 1945-1950 у Заходняй Нямеччыне выходзіла некалькі дзесяткаў большых і меншых часопісаў іншага характару, у якіх друкавалася нямала літаратурных твораў усіх жанраў, драматычных, гумарыстычных і г. д. У Заходняй Нямеччыне дзейнічалі таксама беларускія выдавецтвы, напрыклад „Крыніца", „Заранка" ды іншыя.

З пераездам большасці беларускае эміграцыі за акіян (канец 40-х — пачатак 50-х гадоў) у Заходняй Нямеччыне засталося толькі адно беларускае выдавецтва — „Бацькаўшчына". „Бацькаўшчына" друкавала творы паасобных аўтараў, такіх як Крушына, Юстапчык, Арсеннева, выдала альманах беларускіх пісьменнікаў на эміграцыі „Ля чужых берагоў" ды каля двух дзесяткаў перадрукаў або забароненых савецкай уладай твораў.

### Беларуская літаратура ў Злучаных Штатах Амерыкі

Першыя беларускія літаратурныя творы былі надрукаваны ў дваццатых гадах, калі ў горадзе Чыкага выходзіла газета „Беларуская Трыбуна" (на расейскай мове). Аднак развіццё беларускай літаратуры мы можам назіраць толькі па другой сусветнай вайне, калі ў Амерыку прыбыла хваля пасляваеннай эміграцыі. У Амерыку пераехалі таксама пісьменнікі, якія пачыналі пісаць і друкавацца на Бацькаўшчыне. Гэта былі: Наталля Арсеннева, Юрка Віцьбіч, Масей Сяднёў, Міхась Кавыль, Уладзімір Сядура, Янка Ліманоўскі ды таксама літаратурныя крытыкі Антон Адамовіч, Станіслаў Станкевіч, Ізыдар Плашчынскі і інш.

У 1950 годзе ў ЗША Юрка Віцьбіч ўзнавіў выдаванне часопісу „Шыпшына", але выйшлі ўсяго два нумары: восьмы і дзевяты. З заснаваннем у 1951 годзе Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва літаратурныя творы пачалі друкавацца ў „Запісах" Інстытуту, а ў 1954 годзе БІНіМ пачаў выдаваць асобны літаратурна-мастацкі часопіс „Конадні" (выйшла 7 нумароў). Як у „Шыпшыне", гэтак і ў „Запісах" ды „Конаднях" свае творы апублікавала некалькі дзесяткаў празаікаў і паэтаў.

Апрача вышэй успомненых у ЗША пачалі выходзіць і іншыя часопісы, у якіх друкаваліся літаратурныя творы. Да іх належаць часопісы „Палессьсе", „Прыйсьце", „Беларускі Сьвет" (выходзіць і цяпер у штаце Мішыган), „Хрысьціянскі Сьветач" ды пару дзесяткаў іншых. Аднак найбольш літаратурных твораў змяшчае „Беларуская Думка" (выходзіць з кастрычніка 1960 г.) ды газета „Беларус" (выходзіць з 1950 г.).

Беларускія кніжкі ў Злучаных Штатах Амерыкі пачалі выходзіць ад пачатку 50-х гадоў. Адным з першых было выдавецтва Уладзіміра Пелясы, у якім выйшлі паэтычныя зборнікі Янкі Юхнаўца, Міхася Кавыля ды іншых. Напрыканцы пяцідзесятых



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012

гадоў кніжкі ў Амерыцы друкавалі як розныя грамадскія арганізацыі, прыкладам — арганізацыя моладзі, гэтак і Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва. Былі выдадзены зборнік У. Клішэвіча, творы Янкі Юхнаўца, Аляксандры Саковіч, Алеся Змагара, Янкі Золака. У шасцідзесятых-сямідзесятых гадах буйнейшыя літаратурныя творы выходзяць у рэдакцыі БІНіМу. Да іх належаць зборнік паэзіі Наталлі Арсенневай „Між берагамі" (1979), зборнік твораў Алеся Салаўя „Нятускная краса" (1982), творы Аляксандры Саковіч „У пошуках праўды" (1986), а неўзабаве выйдзе зборнік твораў Міхася Кавыля.

Апошнімі гадамі выйшлі ў ЗША кніжкі Масея Сяднёва: зборнік паэзіі „Ачышчэньне агнём" (1985), раманы „Раман Корзюк" (1985), „І той дзень надыйшоў" (1987).

У Злучаных Штатах друкуецца нямала і перакладное літаратуры. Масей Сяднёў выдаў кніжку на расейскай мове, ягоныя творы выйшлі таксама па-украінску (зрэшты, Сяднёў увесь час перакладае на украінскую мову). У выдавецтве „Гарлянд" выйшаў пераклад Зоры Кіпель беларускае версіі аповесці пра Трыстана (кніжка называецца „Беларускі Трыстан", 1988). У Злучаных Штатах друкуецца таксама літаратура на англійскай мове аўтарства маладых беларусаў-амерыканцаў, якія пішуць па-англійску. Са старэйшых беларускіх паэтаў па-англійску піша таксама Сяргей Ясень. Апошнімі гадамі было зроблена шмат перакладаў амерыканскае літаратуры на беларускую мову. Прыклад гэтага — пераклады і ўступны артыкул пра ведамага амерыканскага паэта Эзру Паўнда, надрукаваныя ў 19 нумары „Запісаў" БІНіМу за 1989 г.

З мемуарнай літаратуры, што выдаецца ў ЗША, варта прыгадаць успаміны былога сенатара ў міжваеннай Польшчы Васіля Рагулі (1957), успаміны пра Коласа і Купалу, сабраны ў зборнічак Аўтенам Калубовічам (1982), успаміны Пётры Пелягошкі пра пабудову Беламорскага канала (1968), успаміны д-ра Язэпа Малецкага.

Некаторыя пісьменнікі друкавалі свае творы ў розных прыватных выдавецтвах, прыкладам Уладзімір Глыбінны, які выдаў некалькі кніжак: „Смаленшчына — адвечная зямля беларускага народу" (Бел. Вд. Тав., 1968), „На Сьвятой Зямлі" („Божым Шляхам", Лондан, 1972), „Паэта з Божай ласкі" пра Язэпа Пушчу (1979), „На берагох пад сонцам" (1964).

Невялікім тыражом выходзілі ў ЗША літаратурныя альманахі, зборнікі і г. д.

Наагул кніжная прадукцыя беларускіх літаратаў у Злучаных Штатах налічвае сотні назваў, а яе бібліяграфічны ўлік вядзецца Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва.



© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

### У Канадзе

Хоць беларускія эмігранты пачалі прыязджаць у Канаду на пачатку нашага стагоддзя, то беларускіх нацыянальных арганізацыяў не было там аж да канца саракавых гадоў, калі ў Канаду прыехалі беларускія эмігранты па другой сусветнай вайне. У Канадзе пачаў выходзіць літаратурны часопіс „Баявая Ускалось" (часопіс быў заснаваны ў Заходняй Нямеччыне ў 1949 г., у Канадзе ад пачатку 50-х). Часопіс друкуе як арыгінальныя творы беларускіх пісьменнікаў на эміграцыі, гэтак і передрукоўвае творы беларускіх савецкіх празаікаў і паэтаў. Літаратурная суполка „Баявая Ускалось" выдала некалькі невялікіх кніжак.

Найбольш ведамы ў Канадзе беларускі пісьменнік Кастусь Акула, які выдаў „Змагарныя дарогі" (1962), „Гараватка" (кн. 1-2 — 1965, кн. 3 — 1981).

### У Англіі

У Англіі беларускія кніжкі пачалі выходзіць з канца саракавых гадоў. Пераважна былі гэта кніжкі на грамадскія тэмы, без мастацка-літаратурных адзнакаў. Аднак у апошнім дзесяцігоддзі Беларуска-Англельскае Таварыства выдала некалькі перакладаў з беларускіх пісьменнікаў: Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, Змітрака Бядулі, Сакрата Яновіча. У выдавецтве Згуртавання Беларусаў у Вялікабрытаніі выйшла некалькі кніжак беларускага самвыдату: „Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс" А. Бембеля, „Письмо к русскому другу".

### У Аўстраліі

Выйшла некалькі мастацка-літаратурных твораў, у тым ліку передрук паэмы Лявона Случчаніна „Рагнеда".

### У Італіі

Выйшла некалькі кніжак рэлігійна-літаратурнага зместу. Ксёндз Пётра Татарыновіч пераклаў на беларускую мову і выдаў „Quo vadis" Г. Сянкевіча.

Улік беларускіх выданняў на Захадзе вёўся і вядзецца Беларускай Бібліяграфічнай Службай ды Беларускім Інстытутам



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Навукі і Мастацтва. Былі выдадзены наступныя данаможнікі: „Паказьнік беларускіх выданьняў на чужыне 1945-1950", укладальнік Мікола Панькоў, Нью-Ёрк 1952, ды „Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе", укладальнікі Вітаўт і Зора Кіпель, выданне БІНіМу, 1985.

Найбольш беларускіх эміграницкіх выданняў сабрана ў Беларускай Бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лондане, у Нью-Ёркскай Публічнай Бібліятэцы ды ў Беларускім Інстытуце Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку.

*Томас Бэрд — прафесар Нью-Ёркскага гарадского універсітэта.*

ЗМЕСТ

КАЛЯНДАРНАЕ

Святы, імяніны . . . . . . . . . . . . . . 5
У БГКТ і не толькі (Хроніка беларускага руху) . . . 29

СВОЙСКАЕ

Міра Лукша — На ўскраіне пушчы . . . . . . . . 49
Уладзімір Юзвюк — Пра беларускі музей у Гайнаўцы . 55
Ян Мордань — Забытыя лапці . . . . . . . . 60

РАЗМОЎНАЕ

Зробленае застаецца — Размова з Рыгорам Сасной . . 65
За парогам — Размова з Сакратам Яновічам . . . . 71
Дух свайго народу — Размова з Віктарам Стахвюком . . 76

ПАЛІТЫЧНАЕ

Зянон Пазьняк — Шлях да свабоды . . . . . . . 85

ЧАРНОБЫЛЬСКАЕ

Алесь Галькевіч — Чарнобыль... Апошняе злачынства камунізму? . . . . . . . . . . . . . 101
Лявон Тарасенка — Беларуская Хірасіма . . . . . 119

ГІСТАРЫЧНАЕ

Уладзімір Казбярук — Веліч здзяйсненняў Францішка Скарыны . . . . . . . . . . . . . . 127
Антон Мірановіч — Царкоўныя брацтвы на Беларусі . . 136
Хрысціна Гамулка — Дзейнасць Беларускага Інстытута Гаспадаркі і Культуры (1926-1937) . . . . . 140



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

**ЛІТАРАТУРНАЕ**

Максім Багдановіч (1891-1917) — Вершы . . . . . . 149
Сяргей Дубавец — Максім Багдановіч (Элегія) . . . . 151
Надзея Артымовіч — Вершы . . . . . . . . . 155
Віктар Швед — Вершы . . . . . . . . . . 156
Сакрат Яновіч — Мой парог . . . . . . . . 158
Томас Бэрд — Нататкі аб беларускай літаратуры на эміграцыі . . . . . . . . . . . . . 167




**PRZEDSIĘBIORSTWO PRODUKCYJNO-HANDLOWO-USŁUGOWE**
**Sp. z o.o.**

02-516 WARSZAWA ul. Starościńska 1B Tel. 48(22) 483061

W lipcu 1990 roku powstała w Warszawie firma Białorusinów w Polsce. Główną dziedziną działalności jest handel zagraniczny, a podstawowym rynkiem działania — ZSRR.

Firma dostarcza następujące towary:

— komputery
— sprzęt radio — tv
— kasety audio i video
— faksy, kserografy
— odzież i obuwie
— kosmetyki
— strzykawki, rękawice chirurgiczne oraz inne towary z krajów Europy Zachodniej i Hong Kongu.

Zapraszamy do współpracy.

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012